Рэдактар
член-карэспандэнт АН БССР
М. Р. СУДНІК

**Янкоўскі Ф.**

**Я 62** Дыялектны слоўнік. Вып. 3. Мн., «Навука і тэхніка», 1970.

172 с. 1700 экз. 35 к. У перапл.

Трэці выпуск «Дыялектнага слоўніка», як і два папярэднія (I — 1959, II — 1960, Мінск), адлюстроўвае народна-дыялектную лексіку гаворак Глускага раёна Магілёўскай вобласці. Пераважную большасць слоў і прыкладаў на словаўжыванне, уключаных у гэты выпуск, складальнік запісаў у 1944—1945 гг.

7-1-3 / 61-70 4Бел(03)

## СЛОВА ДА ТРЭЦЯГА ВЫПУСКУ

Пасля выдання першых двух выпускаў (1959 і 1960 гг.) майго «Дыялектнага слоўніка» ў беларускай лексікаграфіі адбылася доўгачаканая падзея — выйшаў з друку «Беларуска-рускі слоўнік» (М., 1962) пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы. Гэты перакладны слоўнік — дарэчы, ён самы буйны з усіх надрукаваных беларускіх — стаў у нас і нарматыўным слоўнікам. «Беларуска-рускі слоўнік», натуральна, аблегчыў адбор слоў на гэты выпуск «Дыялектнага слоўніка».

Чатыры дзесяткі слоў, змешчаных у трэцім выпуску, сабраў на роднай Глушчыне і паведаміў мне выкладчык Гомельскага дзяржаўнага універсітэта кандыдат філалагічных навук Мікола Янкоўскі, ён акрэсліў значэнні часткі гэтых слоў, а таксама падаў ілюстрацыйныя цытаты-прыклады. За ўсё гэта выказваю яму сваю шчырую падзяку і ўдзячнасць.

*Ф. Янкоўскі*

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ І СКАРАЧЭННІ

У слоўніку выкарыстана спрошчаная транскрыпцыя. Перад галоснымі *а, о, у, э* мяккасць папярэдніх зычных абазначаецца літарамі *я, ё, ю, е,* г. зн. як і ў арфаграфічным пісьме (лялée, сáнячкі); мяккасць зычных перад зычным і на канцы слова абазначаецца мяккім знакам (*сьвіціцца, жыцьмуць, расьці, сьню, зьêхаць, сьпісáць*); зычны *j* абазначаецца літараю *й* толькі перад *і,* на канцы слова (*май*) і перад зычнымі (*стôймо*). Літараю *ô* абазначаецца «закрытае» *о*; літарамі *э̂* і *ê* абазначаецца *э*(*е*) «закрытае». Галосныя *ô, э̂*(*ê*) ужываюцца пад націскам, і таму націск на іх не ставіцца (*абêдалі, рэ̂залі, навôйка*); падоўжаныя мяккія зычныя абазначаюцца падваеннем літар з мяккім знакам паміж імі (*мôльлю*) [1];

[1] Для карыстання слоўнікам, асабліва людзям, якія не маюць спецыяльнай лінгвістычнай падрыхтоўкі, транскрыпцыя, прынятая ў акадэмічных выданнях, цяжкая і не заўсёды зразумелая. Зручней і лягчэй чытаць: *ляцяць, сьцягваюць, сьніць, сьсяляюць, лью, сьпіць, мôльлю, наўсьцяж;* наадварот, цяжэй чытаць запісанае так: *л'ац'ац', с'ц'ягвайуц', с'н'иц', с'с'ял'айуц', л'йу, с'п'иц', мôл'лу, наўс'ц'аж.* Увогуле пры наяўнасці ў нашым алфавіце літар *е, ё, я* няма патрэбы ўжываць значок ' для абазначэння мяккасці зычных.

літара *е* ў квадратных дужках абазначае гук *е*, набліжаны да *а*(*я*), пасля мяккіх зычных; літара *э* ў квадратных дужках абазначае гук *э*, набліжаны да *а*, пасля цвёрдых зычных: *чытá*[*е*], *пíш*[*э*]; літараю г′ абазначаецца г выбухное (г′*ала*г′*ýцкі*).

агульн.— агульны род
адз.— адзіночны лік
Асіп. р-н — Асіповіцкі раён
Астр. Гар.— Астрашыцкі Гарадок
ацэн. — ацэначнае слова
анат.— анатамічнае
Байл.— вёска Байлюкі
Барб.— вёска Барбароў
Барыс. р-н — Барысаўскі раён
Баян.— вёска Баянаў
безасаб.—безасабовы дзеяслоў
Беш.— Бешанковічы
БРС — Белорусско-русский словарь. М., 1962
Бялын. р-н — Бялыніцкі раён
Бяроз.— вёска Бярозаўка
Бярэз. р-н — Бярэзінскі раён
в.— вёска
В.— вёска Вільча
Вайц. — вёска Вайцяхоў
Весн.— вёска Веснаў
Вольн.— вёска Вольніца
гл.— глядзіце
гр.— грубае
Дак.— вёска Даколь
дзеепрым.— дзеепрыметнік
Докш. р-н — Докшыцкі раён
Дубр.— вёска Дуброва
Ж.— вёска Жаўвінец
жан.— жаночы род
жартаўл. — жартаўлівае
Заг.— вёска Загор'е
законч.—закончанае трыванне
зніжальн. — зніжальнае
зняважл. — зняважлівае
Зуб.— вёска Зубарэвічы
Казек.— вёска Казекава
Калац.— вёска Калацічы
Карэл. р-н — Карэліцкі раён
Кас. — вёска Касарычы
Касц. р-н — Касцюковіцкі раён
Кл.— вёска Клетнае
Лаг. р-н — Лагойскі раён
Лек.— вёска Лекараўка
літоўск.— літоўскае
Люб. р-н — Любанскі раён
Маз. р-н — Мазырскі раён
Маладз. р-н — Маладзечанскі раён
Мін. р-н — Мінскі раён
множн. — множны лік
Мсцісл. — Мсціслаў
Мсцісл. р-н — Мсціслаўскі раён

мужч. — мужчынскі род
Мядз. р-н — Мядзельскі раён
Н.-Андр. — Нова-Андрэеўка
незаконч. — незакончанае трыванне
Н. ж. — вёска Новае жыццё
неперах. — непераходны дзеяслоў
Паг. — вёска Пагарэлае
Пагар. — вёска Пагарэлка
памянш. — памяншальная форма слова
памянш.-ласкальн. — памяншальна-ласкальная форма слова
параўн. — параўнаем
пас. — пасёлак
пас. Чырв. — пасёлак Чырвоны
пас. Я. К. — пасёлак Янкі Купалы
перан. — пераноснае значэнне, ужыванне
перах. — пераходны дзеяслоў
Побл. — вёска Поблін
Полац. р-н — Полацкі раён
прым. — прыметнік
прыназ. — прыназоўнік
прысл. — прыслоўе
Пуст. — вёска Пустаселле
Рад. — Ра́дашкавічы
руск. — рускае
Рэч. р-н — Рэчыцкі раён
Салом. — пасёлак Саломерычы
Сёмк. Гар. — Сёмкаў Гарадок
Сін. Слаб. — вёска Сіняўская Слабада
Сл. — вёска Слаўкавічы
Слуц. р-н — Слуцкі раён
Стр. — вёска Стражы́
ст. Рацм. — станцыя Рацміравічы
Сым. — вёска Сымонавічы
Трасц. — вёска Трасцяніца
Трухан. — вёска Труханавічы
Угл. — вёска Угляны
укр. — украінскае
Хал. — вёска Халопічы
Чэрык. р-н — Чэрыкаўскі раён
чэшск. — чэшскае
Шэм. — вёска Шэметава
Юз. — вёска Юзафова

## СЛОЎНІК

### А

АБЛА′Х(К)АЦЬ *-а-еш, -а-е, перах., законч., зніжальн.* Аббегаць у пошуках. За ра́ніцу ўсê Цяскі́ (назва ўчастка лесу) абла́хкаў. Мо' з два́ццаць (грыбкоў) прынёс. Кл. Усюды́ й усё (усё) аблахала. Байл.

АБЛЕ′ГЦІСЯ. Гл. *аблéгчыся.*

АБЛЕ′ГЧЫСЯ (*аблéгціса, аблéгчыса*) *-г-уся, -ж-ашся, законч.* Абаперціся локцямі (седзячы, стоячы). Параўн.: у руск. мове *облокотиться.* Што вы (да дзяцей) аблéгліса на стôл? Ска́цярку сьця́гваяце. Ні аблягáйцяса! Кл.

АБЛЕ′ТКАВЫ *прым.* Той, які пералетаваў, якому год ці каля года. Тых, што ў сьці́рце, аблêткавух: сухі́мі дрыўмі́ на хлêб печ напаліць трэ́ба. Кл. У нас аблêткавае сêна. Пас. Я. К.

АБЛЫ′СІЦЬ *-ш-у, -с-іш, перах., законч.,* ад *лы́сіць* (гл.). Крышку абчасаць (бервяно, дрэва), зрабіць «лысіны», «лысінкі». Часа́ць было́ пôзно. Дай, ду́маю, збôльшаго апкару́ (гл. *абкары́ць* у вып. 1960 г.), аблы́шу. Хай прасыха́е. Кл.

АБЛЯГА′ЦЦА *-а́-юся, -а́-ешся, незаконч.* Гл. *аблéгчыся.* Ну чаго́? Ну нашто́ абл[е]га́цца на стôл? Ска́цярку сажма́калі, ўрабілі ў нêй-

кае чарні́ло. Кл. Напрыхо́дзіць (хлопцаў), па-аблягáюцца на стôл. Пас. Я. К.

АБМАНІ'ЦЬ *-ю, -іш, -іць, перах., законч.* Ашукаць, падмануць. Ватэ́ты крáмнік, ці-бо капяраці́ўшчык, до́ўго тут ня ўбу́дзе. Чаму́? Бо абмáньвае. Хоць на п'я́ць, хоць на капêйку, а ўся́кі раз абмáніць. Кл.

АБНІ'КАЦЬ *-а-еш, -а-е, з він. і без яго, законч.* Гл. *нікаць, нік.* Ні́каюць бяс канцá. Усê куткі́ абні́каюць, усé (усё) ўбáчаць. Кл. Параўн.: *абны́каць.* Мсцісл.

АБСМІ'ХІЧ (*абсьміхіч, апсьміхіч*) *р.-а, мужч.* Чалавек, які абсмейвае другіх, насміхаецца з другіх, насмешнік. Хто абсьмі́хіча лю́біць? Табê с каго́ насьміхáяцца, а каму́ — сь цябé. Глуск.

АБТО'РКАЦЬ (*аптóркаць*) *-а-ю, -а-еш, перах., законч.* Абставіць, абгарадзіць што-небудзь галінкамі, утыкаючы іх у зямлю. Скажы́, так напáлі ку́ры на маю́ расáду, што ні ўратавáць. Схадзі́ла, пры́нéсла лáпак да аптóркала. Кл.

АБУЯ'ЦЬ *-я́-ю, -я́-еш, неперах., законч.* Тое, што *збуяць* (гл.). Му́сіць, нéшта зьêла такóя. Бáчыш, вóчы нêйкія не такі́я. Усяднó, як п'я́ная. Абуя́ла, як у буякôх хадзі́ла. Пас. Я. К. Як пахóдзіш, дзе багóньнік, дак абуя́яш. Кл.

АДБІ'ЦЬ (*атаб'ю, атаб'éш*), *перах., законч.* 1. Адкалоць, аддзяліць ад чаго-небудзь. Так прыбі́лі, што адбі́ць — нія́к. Во табê й дзераўя́ка! Ні аднаго́ гваздкá, а крóквы ні ўзарвáць. І як тут адбі́ць? Кл. 2. Падаць крыху назад, асадзіць крыху назад (запрэжаных валоў, ко-

ней з возам). Адбêце валы́ наза́д, а то варо́таў аччыніць нія́к н[е]мо́жна. Кл. 3. Вельмі натаміць (рукі, ногі). Ня йдзêце бо́сые, но́гі атаб'яце́ на такôй цьво́рдай сьце́жацца, хоць што абу́йце. Сл. На будôўлі й на будôўлі. Ру́кі, секучы́, атаб'е́ш. Дзень пры дні́ бі й бі бес про́дыху. Байл. 4. Даць (тэлеграму). Учо́рэ забы́ліся адбіць ц[е]лягра́мку. Кл. Напішэ̂це, ці щ[е]лягра́му адбêце, які́м ча́сам сустрэ̂ць. Акажэ̂цяса, дак пад'êдам, лягчэ̂й бу́дзе. Н. ж.

АДВУ'ДЗІЦЬ[1] (*атву́дзіць*) *-дж-у, -дз-іш, перах., законч.* Скончыць вудзіць, па тыпу *адрабіць, адхадзіць, адгуляць* (*сваё*). Любі́ў ву́дзіць. Але стары́ ўжэ, ба́чу сла́бо, ця́жко йці. Атву́дзіў свае́ [сваё]. Цяпе́р уну́кі ву́дзіцьмуць. Кл.

АДВУ'ДЗІЦЬ[2] (*атву́дзіць*) *-дж-у, -дз-іш, перах., законч.* Адлупцаваць. Кл. А за я́блыкі ён вас атву́дзіць. Хай тôлькі заста́не. Кл. Як адву́дзіў, то бôльш не ста́не патыка́цца. Пас. Я. К.

АДЗА'ДУ *прысл.* Ззаду (ужываецца і *ззá-ду*). Так рабіцьмяц[е], то бу́дзяце пе́ршы[е] адза́ду. Пас. Я. К.

АДЗЕ'ЖЫНА *р.-ы, жан.* Адна рэч з адзення (вопраткі). Адзе́жыну мôжна й у м[е]шо́к, а зь яды́ што — у чамайда́н. Кл. Што за адзе́жыну купі́ла? Глуск. Усе́ трэ́ба, ўсе́ чы́сьцянька. Трэ́ба й адзе́жына, трэ́ба, каб ха́та ні была́ пуста́я. Вольн.

АДМЫКА'ТКА *р.-і, жан.* Такі лаўча́к, што мо́жа пад любы́ замо́к зрабі́ць адмыка́тку. Хал. Параўн.: у руск. мове *отмычка.*

АДНАКЛУ'БЫ *складаны прым.* З выбітым клубам. Ты, мусіць, забыўся ўжэ: у нас быў рабы́ вôл, дак зьбіты быў клуб. Мы й звалі яго аднаклубы; калі рабы, а калі — аднаклубы. Кл.

АДО'РВА (*атóрва*) *р.-ы, мужч. і жан.* Хапун, тарбахват (гл. *тарбахвáт*) (гл. *уварвáць* у вып. 1960 г.). Тôлькі й крýціцца на базáры атóрва вацéты. Глуск.

АДЧЫКРЫ'ЖЫЦЬ (*аччыкры́жыць*) *-у, -ыш, перах., законч.* Зрабіць (якую-небудзь рэч) незвычайна — так, што здзівіць працаю. Кл. Чаты́ры клáсы кóнчыў, а ўсім заяву пісáў. Так аччыкры́жыць, што ніякі пісар ні дакáжэ. Кл. Ну й аччыкры́жыў дзвéры! Глуск.

АКЛУ'НАК *р.-нк-ка, мужч.* Клунак. Кінуў аклýнак і ўцёк. Зуб. Ідýць, бувáло, шляхам лю́дзі, нясýць аклýнкі. Кл.

АПА'Л *р.-у, мужч., множн. няма.* Паліва. Шчыты́ (гл. *шчыт* у вып. 1959 г.) ўсê на апáл пôйдуць. Параўн.: Беруть дрыва зъ боровъ нашихь на опалъ. Акты Брестского земского суда, 1431 год. «Практыкаванні і матэрыялы па гісторыі беларускай мовы». Мінск, 1956.

АПАРО'ЦЬ *-ý, -аш, перах., законч.* Знайсці штосьці схаванае. Бач, дзêткі?! Сáмі нігóднага арашкá н[е] прынéсьлі ў хáту. А маê апарóлі й усê чы́сьцянько вýбралі й вýнасілі. Кл.

АПІВО'ША *р.-а.* Тое, што і *апівáка* (гл. *апівáка* ў вып. 1959 г.). Як хто скáж[э]: хто апівáка, а хто апівóша — аднá хвалá, хто п'е. Кл.

АПО'НЯ *р.-і, жан.* 1. Шырокае, не дастасаванае да стану адзенне. Скінь ты éту апóню! На дзьвôх такіх мôжно надзêць такýю апóню.

Кл. 2. Перан. Чалавек, які носіць шырокае, не дастасаванае да стану адзенне. Яна́ ж ве́льмі апо́ня. Надзе̂не што — глядзе̂ць ніхо́раша. Кл.

АПО'РВАЦЬ [1] *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Палкаю, шастом акуратна збіваць яблыкі ці іншую садавіну. Трэ́сьці ні то́е. На́це ды наапо́рвайце сабе̂ сьпе̂лых ігру́ш. Барб.

АПО'РВАЦЬ [2] *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Пільна шукаць, абшукваць. Што ты там апо́рваў? Н[е] палажы́ў нічо́го, то й н[е] пары́. Кл.

АПУЗАЦЕ'ЦЬ *(апузаце̂ць) -е́-еш, -е́-е, неперах., законч.* Стаць пузатым, растлусцець. Зь в[е]лі́кае [е]ды́ [н]е паразумне̂[е]ш, то̂лькі апузаце̂[е]ш. Глуск.

АРЫШТА'НЕЦ (*арышта́не(я)ц*) *р.-нц-а, мужч.* 1. Арыштант. Той арышта́няц, каго́ зарыштава́лі. Кл. 2. Хуліган. Ні дзе̂ўка — арышта́нец: то б'е́цца, то напраку́дзіць чаго́, то назьневажа́е хоць каго́. Ст. Рацм.

АСО'БЕННА (*осо́бянно*(*а*)) *прысл.* Асобна. Я й ні ду́мала м[е]ша́ць, тое асо́бянна (палажыць), а ваце́тае асо́бянна. Глуск. А хіба́ дачка́ асо́бянно жыве́? Кл. Ты ж гро́шы асо́бянна схава́й. А то ўсе̂ ра́зам. Ці загу́біш, ці хто ўкрадзе́. Пас. Я. К.

АСО'ВІК *р.-а, мужч.* Грыб асавік (Krombholzia aurantica), яго завуць тут яшчэ *краснагало́вік.* На́ша ма́ма ў малады́е гады́ любі́ла ў грыбы́ хадзі́ць. Нанясе́ адны́х баравіко̂ў і асо́вікаў. Асо́вічкі вары́ць сма́шныя. Кл. Мне̂ асо́вікі смачне̂йшыя за ўся́кія грыбы́. Пас. Я. К.

АСТРУПЕ'ЛЫ (*аструпе̂лы*) *дзеепрым.* ад *аструпе́ць* (гл.). Гуро́чкі мае̂ расту́ць, до́брыя

на рôст, але нêйкіе вéльмі аструпêлые. І што зь імі? Чагó аструпêлые? Пас. Я. К.

АСТРУПЕ′ЦЬ (*аструпêць*) *-é-еш, -é-е, неперах., законч.* Пакрыцца струпамі. Мо' б, дактóрка, памаглí як? Усé (усё) дзіцятачка аструпêла. Мáла што на твáрыку — й на грýдкі пашлó. Увéсь твáрык аструпêлы. Й рáды нія́кае німá. Паг.

АСЯНЧУ′К (*асянчýк, васянчýк*) *р.-á, мужч.* Свойская жывёліна, якая нарадзілася ўвосень. Два пóцьсьвінкі гадýю. Нêшто рóсьлі (гл. *рóсля*) на йіх німá. Вêдамо, асянчукí. Кл. З васянчукá мáло карысьці. Кл.

АТРАПА′ЦЬ *-пл-ю, -пл-еш, перах., законч.* 1. Атрапаць (лён, каноплі), ачысціць ад кастрыцы, рэшткаў саломы. Кл., Н. ж., Сым., Хал., Сл. Кóжнянькая гаспады́ня самá пóля, самá выбірáя, самá сьцéля, самá трэ, самá й атрэ̂пле. Вайц. 2. Ачысціць (мех, вопратку) ад смецця, ад таго, што начаплялася. Куды́ ў хáту? З вóзу начапля́ласо ўсягó!.. Хоць атрапí пальтó сваé (сваё). Кл. 3. У фразеалагізме *рýкі атрапáць.*

АТРУІ′ЦЦА (*атруйіцца*) *-ішся, -іцца, законч.* Атруціцца (ужываецца і *атруціцца*). Ці прáўду кáжуць, што с каньсéрвы мôжно атруйіцца? Кáжуць, нêйдзе за Глýскам атруйіўса чалавêк с каньсéрвы. Кл. З грыбôў і атруйіцца мôжно. Стр.

АТРУІ′ЦЬ (*атруйіць*) *-іш, -іць, перах., законч.* Атруціць (ужываецца і *атруціць*). І кáзку-бок раскáзвалі, як мáчаха пáччарку атруйіла. Хал. Параўн.: А ў серыду Грыцона атруила. П. В. Шейн. Белорусские народные песни. СПб, 1874.

АЎСІ'НКА *р.-і, жан.* 1. Зярнятка аўса. Лѐтась у нас адзін нêйкі з машы́наю на маладу́ю аўсінку лавіў (рыбу). Глуск. 2. Каліва аўса. Прыêхалі з го́раду, дак дзêці аўсінак наўрыва́лі: «Наш букéт!» Пас. Я. К.

АХАЛАДА'ЦЬ *-á-е, неперах., законч.,* ад *халадáць* (гл.). Астыць. Трэ́ба, каб са́ла ахалада́ла. Хай л[е]жы́ць увéсь дзень. А тагды́ складôм у ку́б[е]л. Кл.

АШКАРУПЕ'ЦЬ (*ашкарупêць, ашкару́п[е]ць*) *-é-еш, -é-е, неперах., законч.* Пакрыцца скарынкаю, «шкураю». Екі там садо́к? А недаглéджаны, то й пôльзы ма́ло. Каб чы́сьціў, абраза́ў. А то ўвéсь нéек ашкарупêў, хоць ты склóбкаю скрабі. Сл. Дож, хóлад, дак зямля́ ашкарупêла. Кл. Ру́кі маê дзень пры дні на хóладзе да мóкрые, дак ашкарупêлі. Кл.

АЮ'СЬ! (*аюсь! і аюць!*). Так праганяюць свіней. Аюсь куды́! Аюсь у хлёў! Кл. Аюць вон! Пас. Я. К.

АЮ'ЦЬ! (*аюць*). Гл. *аюсь!*

## Б

БА'БІЧ *р.-а, мужч.* Той, каго нарадзіла маці пасля таго, як была бабкаю-павітухаю. Так і зва́лі: ба́біч. А за штó? Бо ягó н[е] былó на сьвêце, а ма́ці ба́баю пашла́, ў сусêткі ба́баю была́. Падрôс хлôпяц, а яго заву́ць ба́біч. Сым. Параўн.: Часто маладзіцы прасілі бабу, каб ена бабіла ў іх дзяцей. Але ба́ба ўсе атпіраласа, бо вѣдамо, ена баяласа, што як родзітца ў еѣ дзиця, то его будуць звацъ бабіч да пасміхатца. А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911.

БАЛАЦІ′НА *р.-ы, жан.* 1. Забалочаная мясціна, невялікае балота. Кажу́ табе̂: прыпражы́ другóго. Бо дзé ж! Такáя балацíна!.. Кл. 2. Назва ўчастка сенажаці. Стажкô ў мо' п'яць скідаям на Балаціне. Кл. На Балаціне мáло калí атáву касілі. Кл.

БА′НІЦЦА *-юся, -ішся, незаконч.* Мыцца ў лазні. Зь Якíмам рáзам бáніўся, рáзам дадóму йшлі, рáзам чвэ́ртку пілí. З нáмі бáніліся й Махначэ̂. Глуск. Люблю́ адзíн бáніцца. Глуск.

БАРАНЕ′ЦЬ (*баранêць*) *-é-еш, -é-е, неперах., незаконч.* Дурнець, траціць здольнасць нармальна гаварыць, дзейнічаць. Дзíва! Нап'юцца, што аж баранêюць. Зуб. Вучы́ся — разумнêцьмеш, гарэ́лку пі — баранêцьмеш. Кл.

БА′РЫНЬ *р.-я, мужч.* Пан (пры звычайным *пан* слова *барынь* успрымаецца як запазычанае гаворкай; *бáрынь* (мяккае *н*) пад уплывам *бáрыня*). Такóму бáрыню служы́ць? Кл. Параўн.: Гэй, любіў барынь дзяўчыначку, Ды няверна. Р. Р. Шырма. Беларускія народныя песні, т. І. Мінск, 1959.

БАХ[1] *выклічнікава-дзеяслоўнае слова* тыпу *стук, грук.* Гл. *бáхаць*[1]. Німá ў вас тóлку. Надýмаліся — бах і павалíлі (спілавалі дрэва). Кл. Ні падýмаўшы, бах і прóдаў хáту. Н. ж.

БАХ[2] *з дзіцячае лексікі. Бах* ад *бáхаць* (гл. *бáхаць*[2]). Хадзí, дóчачка ў люлю бах. А ты бах ні хóчаш? Вольн.

БА′ХАЦЬ[1] *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* Стукаць, біць чым-небудзь па чым-небудзь. Усю нôч Дóўбікі бáхалі нêшто. Штó яны там рабілі? Кл.

БА'ХАЦЬ [2] *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч., з дзіцячае лексікі.* Хадзі, до́нька, ба́хаць, ляж бах. Зуб. Гл. *бах* [2].

БЕ'ЗІК *р.-а, мужч.* Ласкальна пра маленькую рыбку — маляўку. До́ўбікавы хло́пцы завуць мале́нькую ры́бку бе́зік. Учо́ра крыча́ў: «Я бе́зікаў налавіўў!» Кл.

БЕРАЗА'К (*б[е]разáк, бяразáк*) *р.-ў, мужч., зборн.* 1. Бярозавы лес, бярэзнік. Нêкалі пад'яжджáючы пад Мінск, бяразáк быў мо' на дзе́сяць вярсто́ў. В. 2. Бярозавая драўніна, бярозавыя дровы. Мôй вôз б[е]разакý за тваê два хвôйніку (варты ці даражэйшы). Кл. Вазôў тры б[е]разакý на маразы́ напрыпáсіў, Н. ж. Такі бяразáк шкóда паліць, апáльваць і але́шчына дóбра. Калац.

БЛЁЎТАЦЦА *-а-юся, -а-ешся, незаконч., зваротны* ад *блёўтаць* (гл.). Акунê так ні блёўтаюцца. Ці ні язê, хлóпча? Акунê памалêй за я́зя. Кл. Ідзêце ацьсю́ль, пярастáньце блёўтацца. Кл.

БЛЁЎТАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* Сінонім да *блёхаць* (гл. *блёхаць* у вып. 1960 г.). Плёхаць. Вýджу, дак ні патóркае ніштó за рáніцу, а там, пудзь зе́льле, блёўтае й блёўтае. Мýсіць, чарôдка акунёў. Кл.

БЛЁЎТНУЦЬ *-у, -еш, неперах., законч.,* ад *блёўтаць* (гл.). Вадзіў, вадзіў, а тады́ блёўтнуў ля сáмянькаго бе́рагу й сарвáўса. Кл.

БЛЁЎЦЬ *выклічнікава-дзеяслоўнае слова* тыпу *хоп, гоц, бразь,* ад *блёўтнуць* (гл.). Тôлькі блёўць — і німá. Кл. Нахіліўся з лóткі, а ён, мôй нóжык, блёўць с кішэ́ні. Пас. Я. К.

БО'ЎТАНАЕ *субстантываваны прым.* Перабоўтанае (пра страву). У хáце такі парáдак:

хóчу — н[е] хóчу, а ўсіх жду êсьці. Усê рáзам. Хібá так, што адзін бóўтае, другі? А камý бóўтанае êсьці? Кл.

БУ'КІШ *выклічнікавае слова.* 1. Стукнуцца ілбамі ў бойцы (пра бараноў). Бараны́ разгóняцца да бýкіш. Кл. 2. *З дзіцячае лексікі.* Жартуючы, палохаць дзіця рухамі, быццам бы мець намер ударыць галавою. Кл. Зрабі, Алéсько, бýкіш. Кл.

БУРА'ЦЬ *-á-ю, -á-еш, перах., незаконч.* Шпурляць, кідаць. Пастáлі ў рад, бурáюць і бурáюць у сьцêнку. Кл.

БУРАЧКО'ВЫ *прым.* Колеру бурака. БРС падае: *бурачковы* — малінавы. У глускіх гаворках (Сл., Хал., Зуб., Барб., Баян., Н.-Андр., Кл., Байл.) адрозніваюць *бурачкóвы і малінавы.* Бурачкóвае ж жóўтым? Ні бýдзе хóрашэ. Барб. Афарбýю ў бурачкóвы. Пас. Я. К.

БУ'РКАЛА (*буркало*(*а*)) *р.-а, агульн.,* ад *бýркаць.* Бýркне й маўчы́ць. Дзе такóе бýркало ўзялі?! С такім бýркалам хібá ш чагó пасьмяéсься? Глуск.

БУРНУ'ЦЬ *-н-ý, -н-éш, перах., законч.* Шпурнуць, кінуць. 1. Хто дáляй бурнé? Кл. 2. Энергічна піхнуць. Сабрáліся на масткý й гуля́юць. А ён — падýмайце, кахáные! — ўзяў мéншаго й бурнýў з мóсту. Кл.

БУСЛО'ЎКА (*буслôўка*) *р.-і, жан.* Буслава гняздо. У нáс былó п'яць буслóвак. Дзьвê буслôўкі л[е] пакóяў (гл. *пакóі* ў вып. 1960 г.), дзьвê ў рэйтанавых, аднá на максімавай алéшчыне. Сь п[е]ці́ тры буслôўкі засталіся. Кл. Параўн.: *бусля́нка.* Пераязджаем Буг. Першая польская вёска з буслянкай на крайнім гумне. Я. Брыль.

БУ′ЦВЕ′ЦЬ (*буцьвêць, бýцьв[е]ць*) *-é-е* і *-е-е, неперах., незаконч.* Трухлець. Бáчыш, нêйчым стаўбы́ мáжуць, каб ні так буцьвêлі. Дзéраво ў землí буцьвêе скóро. Кл. Неабкóранае бýцьвее. Хал.

БУЯ′ЦЬ *-я́-ю, -я́-еш, неперах., незаконч.* 1. Вельмі расці, расці на націну. Картóплі маê буя́юць. Кл. 2. Страчваць здольнасць хутка рэагаваць, рухацца. Я ў буякі хадзíць баю́са. Скóро буя́ю. Галавá балíць. А калí й ванітýе. Буя́юць хібá з буякôў? З багóньніку. Кл.

БЭ′КНУЦЬ *-е, -уць, неперах., законч.* Гукапераймальны дзеяслоў ад «*бэ*». Рабы́ з падлáсым раз бóраліся. Дак падлáсы як гнянýў, дак той аж бэ́кнуў. Кл.

БЯСЕ′ДНІК *(бясêднік) р.-а, мужч.* Удзельнік бяседы (банкету, частаванняў). Н[е]бôжчык Навýм вéльмі б[е]сêднік буў. Ён табê й скáжэ й прыкáжэ (прыгаворыць). Гаваркí буў, в[е]сёлы. Такíх мáло бясêднікаў бáчыў за вêк. Баян.

## В

ВАЗАВІ′К *р.-á, мужч.* Той, хто ўмее добра накласці воз сена. Дзюдзю́н марýдзіў вéльма. Але ўжэ наклáдзе вóза — як яечко. Ён вазавíк і стагавíк (гл.). Кл. Катáцца е камý, а вазавікá пазычáцьмам скóро. Пас. Я. К.

ВАЛАКЧЫ′ (*валакці́, валакчы́*) *-к-ý, -ч-эш, перах., незаконч.* Валачы. Маê й рýкі й нóгі памлêлі, млôсно стáло, а «шчэ валакцí мо» ганéй трóе. Кл. А кýды ўсе (усё) вацéтае? Мо' ў я́му валакчы́? Пас. Я. К.

ВА'РА *р. -ы, жан., множн. няма.* Гатаванне стравы. Хібá мая́ такáя вáра, як твáя? Кл. Хібá такáя вáра на пліцê, як у пéчы? Кл.

ВАРО'ЖКА (*варôжка*) *р. -і, жан.* Варажбітка (бытуюць абодва словы — *варажбітка* і *варôжка*). У варôжкі ці ў мерцьвяцá — рóўная прáўда. Цяпéр хібá які́ дурны́ павêрыць варôжкам. Ніхтó й слýхаць варôжкі ні слýхацьме. Глуск.

ВАСЬ-ВАС-ВАСЬ! Так падзываюць кормнага кабана. Кл., пас. Я. К.

ВАЎКАЛА'КА *р.-а, мужч.* (у тагó ваўкалáка. Кл.), *р. -і, жан.* (у таê ваўкалáкі. Кл.). Дужы і бязлітасны, жорсткі чалавек. Пра такíх ваўкалáкаў (пра нямецкіх акупантаў) мнê й у кáсках пакôйны дзêт н[е] гавары́ў. Зуб. Хібá с тым ваўкалáкам пагавóрыш? Хібá зь йім дагавóрысься? Кл. Такýю ваўкалáку хто зáмуж вóзьме? Барб.

ВЕРАЎЧА'КА (*в[е]раўчáка, вяраўчáка*) *р. -і, жан.* Кавалак, абрывак вяроўкі (гл. *вераўчы́на* ў вып. 1959 г.). Шукáю й ні знайдý каб якóе вяраўчáкі. Нóвае шкóда рэ̂заць. Кл.

ВІЛІ'ЦЬ *-ю, -іш, неперах., незаконч.* Гл. *падвільваць.* Ні мóжаш дóбра віліць, дак ні бяры́ся, хай Míша падвíльвае. Кл. Вілí, а я біцьму. Кл.

ВІЛЬ *дзеяслоўна-выклічнікавае слова* ад *віля́ць.* Віля́ла, як тáя Амілька. Чуць што — дак віль, віль, хітрý[е]ш да крýціш. Кл. Лісá падышлá сусíм блíзянька. Я хацêў пáлкаю. А янá як вільнé! Віль — і ў кусты́. Пас. Я. К.

ВІ'ЛЬНЯ *р. -і, жан., зняважл.* Жанчына, якая бессаромна падладжваецца да каго-не-

будзь, каб пажывіцца, мець выйгрыш. На яê не звяра́й, бо яна — вільня, хітру́е, тôлькі каб сабê. Кл.

ВІЛЮ'ГА *р.-і, агульн.* Чалавек, які выкручваецца з любога становішча. Можна думаць, што *вілю́га* ад *віля́ць.* У Глускім р-не ёсць прозвішча *Вілю́га,* якое, магчыма, і не ад *віля́ць.* Параўн.: *лю́тня* (са значэннем *вілю́га*). Трухан. Слуц. р-на; Смеламу скарэй можна паверыць, як пужліваму, бо ён у вілюгі не пойдзе да, не шманаючы ні на кога, смела праўду рэжа ў вочы. Czesław Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1936.

ВІРЛА'ТЫ *прым.* Лупаты. А на тва́р нехаро́шы, вірла́ты нêйкі. Сл. Параўн.: *вірлаво́кі.* Кліны Бялын. р-на.

ВІРЛА'Ч *р.-а́, мужч., назоўнік* ад *вірла́ты* (гл.). Што таму́ вірлачу́ каза́ць? Наста́віць во́чы, як я́блыкі, й ні зьміргне́. Глуск.

ВО'КІДЗЬ *р. -і, жан., множн. няма.* Густы снег, які падае камякамі, «акідае» снегам. Пастôймо, хай во́кідзь пярасьці́хне, а то 'шчэ ў кана́ву ўсу́няcься. Во́кідзь, што сьвêту ні віда́ць. Кл.

ВОНЬ (*вôнь*) *часціца.* Вунь. Хіба́ ні ва́шае (парася) вôнь хо́дзіць? Кл. А вôнь та́то на мастôх. Зьлята́й, Ва́ська, па йіх. Скажы́ сьнêдаць. Ху́цянька бяга́й! Пас. Я. К. А вôнь твôй ба́цька йдзе. Барб.

ВО'ПСАДДЗЮ (*вопсадзьдзю*) *прысл.* Раз'юшана, рашуча, энергічна кінуцца на каго-небудзь, вопса (гл. *во́пса* ў вып. 1959 г.). Во́псадзьдзю кінуўся на мяне́. Ле́дзве абарані́ўся. Кл.

ВО'СІЛКА (*во́сілка, по́сілка*) *р. -і, жан.* Дужка ў вядры. Каб ты до́бры быў, каб по́сілку зрабіў, а то бес по́сілкі ведзе́рцэ. Кл. Даўнêй ўёдра рабілі са́мі, с клёпак. А во́сілку рабілі зь вераўчы́ны ці ш чаго́ так. Пас. Я. К. Параўн.: З медзянымі вядзёркамі... З залатымі осілкамі. M. Federowski. Lud białoruski... Warszawa, 1958.

ВО'ТЧЫЧ (*вốччыч*) *р. -а, мужч.* Пчаляр, бортнік. У дзіцячых прыгаворках: Вôччыч, вôччыч, дай нам м'ёду, каб твае̂ пчôлкі дачака́лі го́ду. Вôччыч, вôччыч ня даў м'ёду, каб твае̂ пчôлкі ня дажда́лі го́ду. Кл. З гультая́ вôччыча ні бу́дзе. Барб. До́браго во́ччыча пчôлка любіць. Барб.

ВУДА'К *р. -а́, мужч.* Рыбак, які ловіць рыбу вудаю. Глу́скіе вудакі́ ча́ста й начу́юць на рацэ̂. Кл. Ці рыба́к, ці вуда́к — сядно́ (усё адно). Кл.

ВУ'ЖАР (*ву́жар, вы́жар*) *р. -у, мужч.* Азярыны-кругловіны сярод тарфяністага балота. *Ву́жар* — з *вы́-жар* (параўн.: *пажа́р*), дзе ў сухое лета выгараў торф; *ву-* з *вы-* (як і *ву́ піць, паму́ць*). Па на́шых вужарôх нêяк трава́ ні расьце́. Байл. Па вужарôх карасе̂. Кл. На По́ўкаціне адзі́н ля аднаго́ вужарôў мо' сём. Кл. Параўн.: Цёмно, нічого не бачно, от так і ўсунешся ў выжарыну па самые вушы, а то й суздром у гразі загінеш. Бѣгаў, бѣгаў чорт, узвернуў усе балото. От да тых час ешчэ стаяць па балоце выжары, азерыны да выскаці. А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911; «Верасы на выжарынах» І. Навуменкі.

ВЫ′БАНІЦЦА (*вы́(у́)баніцца*) *-ішся, -іц-ца, законч.* Вымыцца ў лазні. Трэ́ба схадзі́ць сяго́ні вы́баніцца. Глуск. Як прасту́дзісса, то трэ́ба ву́баніцца. Кл.

ВЫ′БАНІЦЬ (*вы́(у́)баніць*) *-ю, -іш, перах., законч.* Вымыць (каго) у лазні. Звадзі́ла да вы́баніла Жо́ржыка. Глуск. Напацêўса, сядно́ (усё адно) як ву́банілі. Кл.

ВЫ′ВІЛЬНУЦЦА (*вы́(у́)вільнуцца*) *-н-уся, -еш-ся, законч., зваротны* ад *вы́вільнуць* (гл.). *Вы́вільнуць* мае тое самае значэнне, што і *вы́вільнуцца* (параўн.: *спытаць* у старшыні і *спытацца* ў старшыні). Сто разôў вы́вільнуўса, а сто пе́ршы — тра́сцы з хваро́баю, папа́ўса. Кл.

ВЫ′ВІЛЬНУЦЬ (*вы́(у́)вільнуць*) *-н-у, -н-еш, неперах., законч.* Выкруціцца з цяжкога становішча. У яго́ й таўкачо́м у сту́пе ні пацэ́ліш, усю́ды вы́вільне. Пас. Я. К. Каб каго́, засудзі́лі б, а ён ву́вільнуў. Кл.

ВЫГАНЯ′СТЫ (*вы(у)ганя́сты*) *прым.* Гонкі, выносны. Што за хвôйкі! Што стр̂у́ны! А выганя́стые! Кл. Схаджу́ калі ў арэ̂шнік. Па кра́йняй мêры вы́бяру вудзі́льнячка, выганя́ста[е], ро́ўненькае. Кл. Параўн.: Тут жа, за бродам, у канцы вёскі, на высокай гары... старыя выносныя сосны. П. Пестрак.

ВЫГО′НІСТЫ (*вы(у)го́ністы*) *прым.* Гл. *выганя́сты*. Гонкі, выносны. С тако́е аднаê выго́ністае (хвоі) бу́дзе дзьвê дзяраўя́кі (гл. *дзеравя́ка* ў вып. 1959 г.). Пас. Я. К.

ВЫ′ДРАПАКАВАЦЬ (*вы́(у́)драпакаваць*) *-у-ю, -у-еш, з він. і без яго, законч.* Добра апрацаваць глебу драпаком. Тут трэ́ба драпака́мі вы́драпакаваць, то мо' й парасьцé што. Кл.

ВЫДРАПАКО′ЎВАЦЬ (*вы(у) драпакôўваць*) *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Гл. *вы́драпакаваць*. Ту́ю (зямлю) трэ́ба ве́льмі до́брэ ўрабля́ць, ко́жну ве́сну выдрапакôўваць. Кл.

ВЫ′ЗБІРАЦЬ (*вы́(у́) зьбіраць*) *-а-ю, -а-еш, перах., законч.* Старанна ўсё пазбіраць, пазнаходзіць. Пашла́ пасьля́ сьнêданьня. Тôлькі карэ́ньня вôз. А грыбу́ ву́зьбіралі. Кл. У малі́ны трэ́ба ў Вал схадзі́ць. Тут блі́зка ўсю́ды вы́зьбіралі. Пас. Я. К.

ВЫЗБІ′РВАЦЬ (*вы(у) зьбі́рваць*) *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Гл. *вы́збіраць*. Мы там ні ве́льмі ву́збіралі. Пôйдзеш, то ’шчэ й ты знóйдз[е]ш. Кл.

ВЫ′КІДАЦЦА (*вы́(у́) кідацца*) *-а-юся, -а-ешся, законч.* 1. Стараннаю працаю, руплівасцю выйсці з цяжкога становішча. Згарэ̂ло ўсе чы́сьцянько. Анічо́го, анікóго — ні бра́та, ні сы́на. А ву́кідаліса. Й ха́ту зрабі́лі, й лапа́ту купі́лі. Так і ўсê ў нас. Усé (усё) спа́ляно було́. Папакі́даліса, по́куль ву́кідаліса. Хал. 2. Пра хворага чалавека, хворую жывёліну, што праз доўгі час пазбавіліся хваробы, акрыялі, падужалі. У Йва́на купі́ла (парася), скажы́, такóе было́, такóе нічо́гае (гл. *нічо́гі* ў вып. 1959 г.). Раз хацêла сама́ вы́кінуць вôн яго́. А янó патро́шку, пама́лу (гл. *пама́лечку* ў вып. 1959 г.) й вы́кідалася. Кл. Пяражы́ў апара́цыю, схварэ̂ў, але пама́лячку, пама́лячку і ву́кідаўса. Кл. 3. Вырасці ў беднасці, у галечы. Хіба́ забу́ліса? Малы́е булі́ — то с ко́ляд булі́ хлêбу жадны́. Да мурза́тые, да касма́тые, да ўсê ў баля́чках. А ба́чыш што зь йіх? Са́мі ву́кідаліса. І дзêткі ўжэ паўгадо́ўвалі. Кл.

ВЫ́КЛЮНУЦЦА (*вы́(ў)клюнуцца*) *-ецца, -уцца, законч.* Вылупіцца (пра птушаня) са шкарлупіны яйка. Качаня́ 'шчэ ні ўспêе ву́клюнуцца, а ўжэ пла́ўваць умêе й êсьці бу́дзе. Кл. Пяць (куранят) вы́клюнулася, а п'яць 'шчэ не. Пас. Я. К.

ВЫ́ЛЮДНЕЦЬ (*вы́(ў)людняць*) *-е-еш, -е-е, неперах., законч.* Вельмі прыкметна змяніцца знешне і ўнутрана на лепшае; пра таго, хто раней быў слабы, кволы, негаваркі ці няўмелы, незнаходлівы ў калектыве, у абыходжанні з людзьмі. Гля́нулі б на Хамі́шыну (дачку) — зусі́м ня та́я дзêўка: харо́ша ста́ла, й пагаво́рыць. Ву́людняла, што й ні пазна́ць. Кл. Людзкі́е на лю́дзях люднêюць, а наш ні ву́лядняў, а папа́ўса. Хал. У го́радзе зьмêніцца хоць хто. Хто ні паêхаў у го́рад, гля́неш — пачысьцêў, пахарашэ̂ў, вы́людняў. Кл. Гл. *люднéць, палюднéць, вылю́днівць, вы́людскавацца.*

ВЫЛЮ́ДНІВАЦЬ (*вы(у)лю́днівць*) *-ваеш, -ва-е, неперах., незаконч.* Гл. *вы́людкаць.*

ВЫ́ЛЮДСКАВАЦЦА (*вы́(ў)людзкавацца*) *-у-ешся, -у-ецца, законч.* 1. Тое, што і *вы́людкаць, люднéць, палюднéць, вылю́днівць.* Ве́льмі ж у бêднасці расьлі́ (гадаваліся дзеці). А пасьля́ вы́людзкаваліся, ўсê такі́е спрытнякі́ (гл. *спрытня́к*), такі́е рабо́цькі. Пас. Я. К. 2. Выйсці ў людзі, стаць чалавекам. 'Шчэ й вы наракáць на калгáс? Вы ж у калгáсе ву́людзкаваліса. Ці ня вêдаям, забу́лі, што ў вас было́ да калгáсу? Кл.

ВЫ́ПРАБАВАЦЬ (*вы́(ў)праба(у)ваць*) *-у-ю, -у-еш, з він. і без яго, законч.* Выведаць з хітрасцю, як хто мяркуе, як хто ставіцца да

каго, да якой справы. Здэ́цца, на ніко́го нічо́го ні ска́жэ, усе́ (усё) нібы́то харашэ́нячко, а нілю́дзка. Усе́ (усё) каб ву́прабуваць, хітра, віж (гл. *віж* у вып. 1959 г.). Кл.

ВЫ'ПРУЦІЦЦА (*вы́(у́)пруціцца*) *-іцся, -іцца, законч.* Здохнуць, апруцянець, спруцянець, По́куль прыве́зьлі таго́ віціна́ра, ўсê п'я̆цяро (цялят) й ву́пруцілiса. Кл. Параўн.: Карова назаўтрэ й выпруцилаcа. А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911. Міхаль, давай дзікалону, пані выпрудзілася. К. Крапіва.

ВЫСМЫ'КВАЦЬ (*вы(у)смы́(у́)кваць*) *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Выбіраючы, выцягваць асобныя каліўцы, ніткі. Па ўсім по́лі хадзі́лі, вусму́квалі даўжэ̂йшы (лён). Кл. Навысмы́квай мнê фарбава́ных (нітак). Пас. Я. К.

ВЫ'СПРАБАВАЦЬ (*вы́(у́)спрабаваць*) *-у-ю, -у-еш, перах., законч.* Выпрабаваць, праверыць на трываласць, моц што-небудзь; параўн.: у руск. мове *испытать.* Наце вуспрабуйце маю аборку. Танкля́ва, а ня ве́льмі парве́цца. Кл.

ВЫ'ТЛУК (*вы́(у́)тлук*) *р. -а, мужч.* Нахабнік, нягоднік. З ва́мі, такі́мі вы́тлукамі, ні схаўрусу́еш. Глуск.

ВЫ'ХЛІСТАЦЬ (*вы́(у́)хлістаць*) *-а-ю, -а-еш, перах., законч.* Высербаць, хутка з'есці якую-небудзь вадкую страву. Нальлю́ ўзва́ру, дам па акра́йчыку хлêба, дак па місцэ як бач вы́хлістаюць. Глуск.

ВЫ'ЦАЦКАВАНЫ (*вы́(у́)цацкаваны*), *дзеепрым.* ад *вы́цацкаваць.* 1. Упрыгожаны, размаляваны, вышыты. А даўнêй, ду́маяце,

нехóрашэ апранáліса? Не трэ́ба з усегó нáшага бувáлешнего насьміхáцца. Бувáло нáметкі гóжыя, кабаты́ ўся́кіе, на грýдзях вýцацкаванае. Сл. 2. Па-майстэрску, прыгожа зроблены. У яго й гэ́блік вýцацкаваны, й скры́пачкі вýцацкаваные да вýштукаваные. Кл.

ВЫ'ЦАЦКАВАЦЬ (*вы́(ý)цацкаваць*) *-у-ю, -у-еш, перах., законч.* 1. Упрыгожыць вышыўкаю, разьбою, выпальваннем ці іншым спосабам. Хто багацêйшы буў, той вýцацкуе дугý, набéдрыкі. Вазкí вуцацкôўвалі, драбíнкі хварбавáлі. Кл. Пáлку вы́цацкавану прыўёз. Кл. Ужэ́, давáй — мажэ́йкавы дóчкі — вы́цацкаваць печ. Кл. 2. Зрабіць вельмі прыгожа, як цацку, умела. Дóбры шавéц табê так вы́цацкуе чóбаты — што пярó бýдуць лёгкіе. Вýцацкаваўшы. Сл.

ВЫЦАЦКО'ЎВАЦЬ (*вы(у)цацкôўваць*). Гл. *вы́цацкаваць*. Вазкí вуцацкôўвалі. Аднêкуль вазíлі даўнêй жбанкí вýцацкаваны[е], глады́шкі, кýбкі. Кл. Нêкалі ўсê вуцацкôўвалі рушнікí. Кл.

ВЫ'ЦУБІЦЬ (*вы́(ý)цубіць*) *-іш, -іць, перах., законч.* Не спяшаючыся і неадрыўна выпіць чаго-небудзь многа. Тóліку каб малакá. Нальлéш кýбак паўлітрóвы, вы́цубіць да дна й уздыхнé. Кл.

ВЫЦЯГА'НЕЦ (*вы(у)цягáнец) р. -нц-а, мужч.* 1. Вымагальнік, хабарнік, ашуканец. Мо' тры гады́ мýчыў Пазьня́к той. Такí гад да вуцягáн[е]ц. У кагó грóшы, а ў кагó й душý вýцягне. Кл. Такóга выцягáнца за л[е]сьнікá хíбá пастанóвяць? Ой не! Пас. Я. К. З такім жа самым значэннем слова *выцягáнец* бытуе ў вёсках вакол Рэчыцы.

ВЫЧАЎПЛЯ'ЦЬ (*вы(у)чаўпляць*) *-я-ю, -я-еш, неперах., незаконч.* Выдумляць, штукарыць, вырабляць штучкі. Каб ба́чылі, што там вучаўпля́юць, сабра́ўшыса ў ха́це! Кл. Параўн.: А з гэтаго то і відаць, што зьдзерства з нас вычаўпляюць. К. Каліноўскі.

ВЫ'ЧЫНКА (*вы́(у́)чынка*) *р. -і, множн. няма.* Апрацоўка скуры. Ты́е го́ды ганя́ліса, каб з бабру́йскае ву́чынкі пашы́ць кажу́х. Кл. Дай мнê харо́шае вы́чынкі кажу́х, адда́м паліто́, 'шчэ й прыда́чы дам. Глуск. У выслоўі Аўчы́нка вы́чынкі не варт. Кл. Ву́чынка даражэ̂й вы́йдзе за аўчы́нку. Кл.

ВЫ'ШТУКАВАНЫ (*вы́(у́)штука(у)ваны*) *дзеепрым.* ад *вы́штукаваць.* Гл. *вы́штукаваць.* Даўнêй хто багацêйшы, дак дуга́ размулёвана, ўся збру́я, дуга́ ву́штукувана. Кл. Каб такі́х дзе й нам вы́штукаваных накупля́ць. Глуск. Вы́штукаваны. Зуб. Вы́штукаванае. Хал.

ВЫ'ШТУКАВАЦЬ (*вы́(у́)штука(у)ваць*) *-у-ю, -у-еш, перах., законч.* 1. Зрабіць прыгожа, па-майстэрску. Тут Рэ̂дзькі ма́ло рабі́лі, але калі́ во́зьмяцца — то, бра́це, ву́штукуе вакно́ — пагледзêць тôлькі. Кл. 2. Упрыгожыць (рэч, збудаванне). Гл. *вы́цацкаваць.* Калі е за што́, то трэ́ба хо́раша зрабі́ць і вы́штукаваць. Кл. У сы́на ў Мі́нску была́. От усе (усё) вы́штукаваў! Кл.

ВЫШТУКО'ЎВАЦЬ (*вы(у)штукôўваць*) *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Гл. *вы́штукаваць.* Ці хто́ б яго выштукôўваў! Хал. Па́лачку й ту́ю выштукôўваў. Кл.

ВЯТРЭ'ЧА *р. -ы, жан.* Моцны, злы вецер, ветранае надвор'е. У таку́ю вятрэ́чу сто́га

скла́сьці ні складзе́ш. Ты (сена) на сто́г, а яно́ на до̂л. Кл. Параўн.: *халадэ́ча, халадне́ча, пустэ́ча.*

**Г**

ГАБЛЯНУ'ЦЬ *-н-у́, -н-е́ш, неперах., законч.* Параўн.: *незаконч. габлява́ць.* 1. Энергічна, рэзка пацягнуць гэблем. Габляну́ў і жаля́зка скрышы́лася ў майі́м гэ́бліку. Кл. 2. Перан. сцебануць, ударыць, хвасянуць рэзка і моцна. Як габляну́лі, як стругану́лі с усяго́, што было́, й прарва́ліся з блака́ды. Сл.

ГАЛАЎКІ' *р. -о́ў, адз. няма.* Верхнюю частку сцяблін лёну (тую, на якой «галоўкі») называюць *гала́ўкі; гала́ўкі* таксама ў апрацаваным лёне. Як като́ры го̂д: адзі́н го̂д гала́ўкі ву́ляжацца й до́брае пра́дзіво, а другі́ каранкі́ лё̂пшыя за гала́ўкі. Кл.

ГАЛІНЯ'КА (*галі(я)ня́ка*) *р. -і, жан.* Галіна. Уна́дзіліся ў гуркі́ ку́ры. Што́ ні рабі́ла — й прага́ня́ла, й бі́ла. Ада́ле (гл. *ада́ле* ў вып. 1959 г.) нашла́ дзі́рку да галіня́каю нё̂йкаю залажы́ла. А то ўсю за́в[е]зь зьё̂лі. Кл.

ГАЛЯЛЕ'ЦЬ (*гал(я)лёць*) *-е́-е, -е́-л-а, безасаб., неперах., незаконч.* Блішчэць (пра ва̂ду) на лугах і палях. Усе́нькае лё̂та дажджэ̂ й дажджэ̂. Ня то ў кана́ве—усе́ (усё) загуме́ньне заліло́. У нас да са́май адры́ны вада́ галяле́ла. Скро̂зь галялё̂ло. Кл.

ГАНЯЧКІ' *р. -чк-о́ў, адз. няма, памянш.* ад *го́ні.* Лёну сё̂елі. Хто двое, а хто й бо̂льш ганячо́к. Хал. А там ніда́ле́чка, ганячко̂ў тро́я. Вольн. На ты́х ганячко́х, му́сіць, про́са пасё̂ям. Кл. Ячме́ню то̂лькі адны́ ганячкі́ сё̂ялі. Пас. Я. К.

ГАРАВА'ЦЬ *-ў-ю, -ў-еш, неперах., незаконч.* Працаваць працягла, настойліва. Даўнêй у нас лю́дзі ве́льмі ж гарава́лі. Хіба́ так як цяпе́р? Дзень і нôч рабілі. Вазьмêце Дарашо́вых. Прасьвêту ні ба́чылі. Зіму й лêцячко гарава́лі. А што́ с таê гарôўлі (гл. *гаро́ўля* ў вып. 1959 г.) було́? Кл.

ГАРБА'ЦЕЦЬ *-е-ю, -е-еш, неперах., незаконч.* Станавіцца, рабіцца гарбатым. Такі́ мала́ды й гарба́цяе. Кл. Абы-я́к скі́дай лêс (бярвенні) — гарбацêе. Хал.

ГАРБА'ЦІНКА *р. -і, жан.* Гарбінка. Параўн.: *гарбі́нка* — ад *горб, гарба́цінка* — ад *гарба́т(ы)*. Габляні разы́ два, тут нêйка гарба́цінка, хай рôўно бу́дзе. Кл.

ГАРЛА'ТЫ *прым.* ад *го́рла.* Усê такíе гарла́тые. Ужэ радня́ така́я, тако́е кôдло, што й спра́ку-вêку манькуты́ й гарла́тые. Кл. Хіба́ хто гарла́ты, дак той і бага́ты? Кл.

ГАРЛА'Ч *р. -а́, мужч.* Гарлапан, гарласты. Мо б, гарла́ч, ты го́рло свае́ хаць сёні суня́ў? Кл. Гарла́ч. Ве́льмі ўжэ крычы́ць, на ўве́сь раён. Кл.

ГАРО'ЎНЫ *прым.* ад таго кораня, што і *гарава́ць, го́ра.* Вельмі працавіты чалавек, які не мае і не ведае спачыну. Цяпе́р такíх гарôўных німа́. Машы́ны ўсе (усё) ро́бяць, а лю́дзі згуля́ць лю́бяць. Кл. Гарôўны сьвя́та ні жджэ́. Баян.

ГА'СІЦЬ *-ш-у, -с-іш, з він. і без яго, незаконч.* Моцна стукаць, біць. Хто так га́сіць у вакно́? Му́сіць, п'я́нага ні ўпуска́е ў ха́ту. Дак то ў шы́бу, то ў сьцêну га́сіць і га́сіць. Кл.

ГАСЦЯВА'ЦЬ (*гасьц[е]ва́ць, гасьцява́ць*) *-ю́-ю, -ю́-еш, неперах., незаконч.* Хіба́ ў вас ні-

ко́го ў го́сьцях німа́? Я бо ду́маю: вы гасьцю́яце, то й да вас прыêдуць гасьц[е]ва́ць. Кл. Чаго́ так ма́ла гасьцява́лі нêшта? Сым.

ГВАЛТАВА′ЦЬ (*гвалтава́ць*, г′*валтава́ць*) *-у́-ю, у́-еш, неперах., незаконч.* Крычаць на чым свет стаіць, узнімаць гвалт, рабіць гвалт. Хіба́ таê шалёнае хто н[е] зна́е? Хоць што — пашла́ г′валтава́ць. Глуск. Чаго́ тут крыча́ць так? Нашто́ г′ва́лту рабі́ць? Г′ва́лтуе на ўсе (усё) мястэ́чка. Глуск.

ГІЛЬ! ГІ′ЛЯ! Так праганяюць гусей, качак. А гіль дадо́му! Ко́ршак вас ня ўзя́ў. Гіль дадо́му. Пас. Я. К. Гі́ля, вы, гі́ля, сêрые гу́сі, зялёну тра́вачку шчыпа́ць (з народнай песні). Кл.

ГІ′НДЗІЦЦА (*гі́ньдзіцца*) *-іш-ся, -іц-ца, незаконч.* Слабець, марнець. Гл. *згі́ндзіцца, пагі́ндзіцца.*

ГІ′РКАЛА (*гі́ркала*(*о*)) *р. -а, агульн., зняважл.* Пра таго, хто бурклівы, сварлівы ў абыходжанні з людзьмі, хто нервова і зняважліва гаворыць з людзьмі. Хай бы ён і неўмêлы быў, але не такі́ гі́ркало. Чуць што — «гір-гір!» Нема́, каб хо́рашанько сказа́ў, расказа́ў. Хал. Як ба́цька гі́ркала, то й дзêці такі́я, му́сіць, бу́дуць. Сым.

ГЛАДУ′Н *р. -а́, мужч., прым.* ад *гла́дкі.* Гладкі, сыты чалавек. Адно́ лêцячка пяралêтаваў, а ба́чыш, які́ стаў гладу́н. Н.-Андр.

ГЛАДУ′ХА (*глад*(*к*)*у́ха*) *р. -і, жан., прым.* ад *гла́дкая.* Гладкая, сытая жанчына. Ко́лісь на ўсю во́лась мо' адна́ гладку́ха была́. Кл. Жыве́, што па́ні, дак дзі́ва што гладу́ха ста́ла. Глуск.

ГЛЭМ *выклічнікава-дзеяслоўнае слова* тыпу *хоп, грук, бразь.* Прышôў вôўк, глэм — і нíмá дзіця́тка ( з казкі). Вольн. Параўн.: *глык.* Мсцісл.

ГНЯНУ'ЦЬ, ГНЕ'НУЦЬ *-ý* і *-у, -éш* і *-еш, перах., законч.* Цiскануць, душануць. Параўн.: у руск. мове *дaвaнуть, жимануть.* Пярастáнь чапíцца, бо так гнянý, што й зьвя́н[е]ш. Пас. Я. К. Як гнéнуў, дак той чуць узгрôбса. Кл.

ГО'РНАСЦЬ (*гôрнась*) *р. -ц-і, жан., множн. няма; гóрнасць* ад *гóрна* (гл. *гóрна* ў вып. 1960 г.). Глыбокі і працяглы смутак, жуда. З гôрнасьці бувáе дзêўцэ й жы́ць ні хóчацца. Аднá асталáса ў вóйну. Ні брáта, нікóго. Сл. Ек гôрно, дак і е гôрнась. Сл. Параўн.: ...у горле аж зашчымела ад горнасці. І. Мележ.

ГРА'ДЫ. 1. *Множн.* ад *градá.* Такі дож ліў, што грáды мае паразмывáў. Пас. Я. К. 2. Гарод. Мáма ў грáды пайшлá. Кл. Я ў грáдах былá. Кл. З град нéсла гуркí, ўкроп, цыбýлю. Кл.

ГРАХАВО'ДНІК (*грахавôднік*) *р. -а, мужч.* Грэшнік. Пôп пéклам стрáшыў, а сам грахавôднік бôльшы. Кл. Хто рóбіць грэ̂х, той і е грахавôднік. Кл.

ГРАХАВО'ДНІЦА (*грахавôдніца*) *р. -ы, жан.* Пôп с пападзьдзéю пéршые грахавôднікі. Вольн. Тóй-бо пáрабак і кáжэ пападзьдзí: «Вы, мáтушка, самá грахавôдніца». Байл. Грахавóдніца тáя каценя́ ўтапíла. Сл.

ГРЫБО'ВІК *р. -а, мужч.* Грыбнік. Нябôжчык бáцько мôй буў дóбры грыбóвік. Сáва мо' ні раз гры́ба ні прынёс у хáту, а Кáрпу шанцавáло, ён грыбóвік. Кл.

ГРЫ'ЗЦІ (*грызьці*) *-ý, -éш, з він. і без яго, незаконч.* 1. Грызці. Хал., Зуб., Кл. 2. Пасвіцца. Пусьці карóву на канюшы́нішчэ, хай грызé. Кл. Тут заўсёды дóбра грызýць (каровы траву). Наштó куды́ далéка гнаць? Грызýць — хай грызýць. Пас. Я. К. Гл. *пагрызáць.*

ГУЛЯ'ННІК (*гуля́ньнік*) *р. -а, мужч.* Той, хто гуляе. У Хвéдара гуля́ньнікаў пóўно ў хáце. У йіх вêчно зьбірáюцца гуля́ньнікі. Кл. Такíм гуля́ньнікам і гуля́ньніцам ні на в[е]чары́нку, а на пêч. Пас. Я. К.

ГУЛЯ'ННІЦА (*гуля́ньніца*) *р. -ы, жан.* Тая, хто гуляе. Тôлькі ац сталá адраслá — й гуля́ньніца!.. Дáйце рáды! Я нагуля́ю! Пас. Я. К. Гл. *гуля́ннік.*

ГУП *дзеяслоўна-выклічнікавае слова* тыпу *гоц, гоп, хап.* Гл. *гýпаць, гýпнуць.* Скажы́,— каб хоць на часíнку сьціх кáшаль. Гуп і гуп усю́ чы́сьцянько нôч. Кл.

ГУ'ПАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* 1. Бухаць, глуха ўдараць, глуха стукаць. Гл. *гýпнуць.* 2. Глуха кашляць. Як дзêнь, як нôч — гýпае й гýпае, прасты́ў вéльмі крэ̂пко, а ў дóктара не быў. Дак.

ГУ'ПНУЦЬ *-н-у, -н-еш, неперах., законч.* Бухнуць, глуха стукнуць. Вацéты быў мéншы. То вóзьме кóла ці якýю паляня́ку, пры́дзе пат хáту, гýпне й хóду ў двôр. Кл.

ГУСЦЕ'Ж (*гусьцêж*) *р. -ý, мужч.* Гушчар (ужываецца і *гушчáр*). У Грэ́бяльках — яж (аж) стрáшна пускáць туды́ тавáр (гл. *тавáр* у вып. 1959 г.). Пас. Я. К. Пазарóстало ўсю́ды маладнякóм (маладымі дрэвамі). Куды́ ні пайдзí ў лêс, усю́ды гусьцéж. Кл.

ГУСЦЕ′ЖНІК (*гусьцéжнік*) *р. -у, мужч.* Тое, што і *гушчáр, гусцéж* (гл.). Ці гусьцêж, ці гусьцéжнік — дак тóе сáмае. Кл.

## Д

ДАБО′РНЫ *прым.* Даборныя — адборныя, адно ў адно, аднолькавыя; параўн.: падабрáць, дабрáць аднó ў аднó. Кл. У Брэ́вусаў дôм з дабôрнага лêсу. Глуск. Параўн.: Ешчэ сабе сенячкі прыплету, З даборнаго дзерава — з асату; Даборнае дзераво асацец. M. Federowski. Lud białoruski.. Warszawa, 1958.

ДАДО′МКУ (*дадôмку*) *форма суб'ектыўнай ацэнкі* ад *дадóму.* Глянь, дóнька, пабáч, мáма твая́ дадôмку йдзе. Мáма! Хуччэ̂й нá Васількá свайгó. Кл. Параўн.: Чагó ты хóдзіш па вýліцы? Хадзí дахáткі. Купа Мядз. р-на.

ДАЙГРА′ЦЦА *-á-ешся, -á-ецца, законч.,* ад *ігрáць* (гл. *ігрáць*[2]). Буянячы, сварачыся, дайсці да крайнасці, да непрыемнасці. Ты не йгрáй так! Бо йгрáцьмеш і дайгрáясса. Кл.

ДАКО′ПКІ (*дакôпкі*) *р. -пк-аў, адз. няма.* Заканчэнне копкі бульбы, святкаванне з выпадку заканчэння копкі. Дакôпкі хібá на кóляды? Хібá так рабíць трэ́ба? На пасёлку канчáюць, а ў нас бôльша часьу зямлí. Кл.

ДАСПІРА′ЦЦА (*дасьпірáцца*) *-á-ешся, -á-ецца, законч.* Заслужыць пакарання, спіраючыся (гл. *спірáцца* ў вып. 1959 г.). Самá б рабíла. А то ўсé (усё) сьпірáяцца. Нêкалі дасьпірáяцца. Н.-Андр.

ДАХАЎРУСАВА′ЦЬ *-ý-ю, -ý-еш, неперах., законч.,* ад *хаўрусавáць* (гл.). Хаўрусуючы,

дайсці да нядобрага, да непрыемнасці. Вы б накрычáлі на Шýрку. Наштó ён зь йімі? Дахаўрусýе, што ўсім бядá бýдзе. Глуск.

ДНАВА'ЦЬ *дную, днуéш, неперах., незаконч.* Дняваць. Зьбярýцца з рáніцы, дак да вéчара ў нас, увéсь дзень днуюць. Кл. Начавáлі ў хáце, а днавáлі ў лêсе. Барб.

ДО'РГАЦЬ (*дóргаць, тóргаць*) *-а-е, неперах., незаконч.* Пра адчуванне болю пры нарывах, запаленчых працэсах. Паткалóла пáляц, дак нарывáе. Нóчачку вóка не заплющчыла. Так, скажы́, дóргае, што яж у сéрцэ кóле. Кл. Хай яго хай з нары́вам! Я нацярпêласа. Нêяк усé лêцячко з нары́вамі хадзíла. Як тóргае, то здэцца, сéрцэ во-во зóйдзяцца. Кл.

ДО'ХЛЯ *р. -і, жан., множн. няма.* Паморак, эпідэмія. Залêтась як укíнуласа на сьвіньнéй дóхля, то чуць ні ўсіх атлузáла (гл. *адлузáць* у вып. 1960 г.). Кл.

ДРАБАВЫ' *прым.* Драбамі (цукар, соль). У нас усê пяскý ня лю́бяць. А ўсе (усё) пазірáюць, каб драбавóго (цукру). Кл. Даўнêй і сôль драбавýю вазíлі. А чамý ў нас німá драбавóе? Мо' кóнчыласа? Барб. Як хто хóчэ: хто—пескавóго, а хто—драбавóго. Хал. З такім самым значэннем ужываецца ў шматлікіх вёсках Рэчыцкага, Асіповіцкага, Слуцкага раёнаў.

ДРАПАКАВА'ЦЬ *-ý-ю, -ý-еш, перах., незаконч.* Апрацоўваць глебу драпаком. Тут трэ́ба драпакáмі вы́драпакаваць, то мо' й парасьцé. Нóвыя драпакí вéльма дóбра драпакýюць. Вайц.

ДУДУ'КАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* Глуха і павольна гаварыць. Удвайíх нêй-

кіе пасталі пат хатаю й дудукаюць мо' час. Чагó яны́ тут стáлі дудýкаць? Кл.

ДУКАВА'ЦЬ *-ý-ю, -ý-еш, перах., незаконч.* Настройваць, падвучваць, падбухторваць кагосьці. Дукавáлі, дукавáлі, пóкуль адбілі хлóпца ат радні. Кл. Наштó дукавáць булó? «А яны́ такíе, а яны сякіе». Кл.

ДУШНАТА' *р. -ы́, жан.* А ў йіх зімá й лêта ў хáце душнатá, што млêю, як зайдý. Кл. З душнаты́ кроў з нóсу пашлá. Сл.

ДЗЫГ'У'ЛЯ (*дзыг'ýля*) *р. -і, жан.* Цыбатая; *дзыг'ýля* ад *дзыг'áтая* (цыбатая). Глянь, удвайíх ідýць пад рýчку. Ён малы́, як Яўмéнко, а яна дзыг'ýля, дзыг'áта. Кл.

ДЗЫГУ'Н (*дзыг'ýн*) *р. -á, мужч.* Дзыгаты. Гл. *дзыг'ýля.* С такíм дзыг'унóм ні зьбяжы́ська. Як шагнé, дак дзьвê мéтры адрáзу. Кл.

ДЗЮ'ДКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах, незакон.* Гаварыць «дзю-дзю-дзю» (падзываць свіней). Дзе тыя сьвíньня? Дзю́дкала, дзю́дкала — нíмá. Пас. Я. К.

ДЗЮ-ДЗЮ-ДЗЮ. Так падзываюць свіней. Кл., Н. ж., пас. Я. К., Барб., Байл.

ДЗЮ'ДЗЯ *р. -і, жан.* 1. Свіння. Набí, Тóлька, дзю́дзю. Кл. Вазьмí Жэ́нькаву пýгу да прагані дзю́дзю. Адгані, дóнька, дзю́дзю, дубцóм яе, дубцóм! Пас. Я. К. 2. Перан. Бруднае, мурзатае дзіця. Ах ты, мая́ дзю́дзя. Ні Вáся, а дзю́дзя. Пас. Я. К.

ДЗЯ'КУЙ 1. Часціца. Дзякуй (табе, вам). Кл. 2. Загадны лад (2-я асоба адз. л.). Ты дзя́куй мнê. Каб ні я́, то ўсé (усё) пашлó б з ды́мам. Кл. 3. Назоўнік, *мужч.* Вялікі табê дзя́куй, Гáнна. Параўн.: *вялікае дзякуй.* БРС.

ДЗЯРКЛІ'ВЫ *прым.* 1. Такі (праката́), які драпаецца, дзярэцца. Кінь, мая́ ўну́чка, ётаго дзяркліваго ката́, абдзярэ́ ру́чкі. Кл. 2. Пра чалавека: задзірлівы, карузлівы (гл. *кару́злівы* ў вып. 1959 г.). На йіх се́лішчы век дзяркл́ивые жыву́ць. Кл.

## Е

ЁК *выклічнікава-дзеяслоўнае слова.* Ра́нянька ўста́ла. Чу́ю, нêхта йдзе. Гля́нула — аж два паліца́йі ў дварэ̂ стая́ць. У мяне́ ёк у гру́дзях: прапа́лі, ду́маю. В.

## Ж

ЖАДА'НАЧКА *р. -і, жан.* Адна дачушка, якая мае ўсё, чаго жадае. Яна́ ж у йіх адна́ — жада́начка. Сл.

ЖАДА'НЧЫК *р. -а, мужч.* Адзін сынок, які мае, чаго жадае. Хай расьце́ вялі́кі жада́нчык. Сл.

ЖАЛКАВА'ЦЬ *-у́-ю, -у́-еш, незаконч.* Шкадаваць. Зрэдку сустракаецца пры звычайным, устойлівым *шкадава́ць*. Можна лічыць новым словам, утвораным на ўзор *шкад-ава́-ць* ад *жа́лко*. Так жалкава́ць? Ні я пе́рша, ні я друга́я. Баян.

ЖАЛЯЗНЯ'К (*жале*(*я*)*зьня́к*) *р. -а́, мужч.* Рыдлёўка, лапата, якою робяць грады, берагі жалезняка акоўваюцца жалезам. Пастрôй (падрамантуй), чалавêча, жалязьня́к. Рыдлёўкаю ні люблю́ гра́ды рабі́ць. Кл.

ЖАЎКВА' *р. -ы́ (-у), жан., множн. няма.* 1. Жоўты пясок. Уве́сь двôр вы́сыпаў жаўкво́ю.

Пас. Я. К. 2. Пясчаная зямля пад глебаю. Нашто́ глыбо́ко бярэ́ш (запускаеш плуг), аж за жаўкву́? Ужэ й так наўво́рваў (навыворваў) жаўквы́. Кл.

ЖАЎКЛЯ′К *р. -а́, мужч.* 1. Зжаўцелы агурок. Ваце́тые зь дзе́с[е]ць (агуркоў) пакі́нуць трэ́ба. Хай сьпêюць жаўкл[е]кі́ на насêньне. Хал. Жаўклякі́ трэ́ба з град на стрэ̂ху пасла́ць (разлажыць на страсе). Бо лêтась на гра́дах згнілі́ да аднаго́ жаўкляка́. Барб. 2. Перан. Аслабелы, хворы чалавек, на выгляд поўны, але паўната нездаровая; колер твару нагадвае колер пераспелага агурка-жаўкляка. Адзін по́ўны й то́ўсты, а жаўкля́к. А другі́ худзе́нькі, а пяражыве́ й пяраро́біць (зробіць больш) за друго́го здаро́ваго на від. Байл.

ЖАЎТА′ЧКА *р. -і, жан., множн. няма.* Хвароба жаўтуха. А ж жаўта́чкі ці памíра́юць? Кл. У йíхага Зьмі́тра жаўта́чка. Пас. Я. К.

ЖМАК (*жмак* і *жмук*) *р. -у, мужч.* Жмут, скрута́к. Вы́няў с кішэ́ні цэ́лы жмук гро́шай. Кл. Даю́ (карове) жмук ваце́таго сêна. То, скажы́, й ні паню́хала. Кл. У йіх, бува́ло, ву́б'юць вакно́, то цэ̂лы гôд заткну́тае жма́кам ану́ч. Кл.

ЖМА′КАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Мяць, коўчыць (гл.), скручваць у жмак (гл.). Той гôсь, што, сêдзячы за стало́м, усе́ (усё) жма́каў ска́цярку. Сказа́ць ні ска́ж[э]ш, а ён жма́кае й жма́кае. Кл.

ЖМУК (*жмак* і *жмук*). Гл. *жмак.*

ЖУ′ЖАЛЛЕ (*жу́жальле*) *р. -я, зборн.* ад *жужаль* (гл.), *множн. няма.* Па гарадôх да

ста́нцаях рабі́ць ста́лі (хаты) ж жу́жальля. Ст. Рацм.

ЖУ'ЖАЛЬ *р. -ю, мужч., множн. няма.* 1. Дзындра, шлак. Ці ні пôмніце? Да ніда́ўна (да нядаўняга часу) ля мастôў валя́ласо бага́то жу́жалю. Кл. 2. Крохкая парода. Кл.

ЖУРЛІ'ВЫ (*журлівы(уй)*) *прым.* Пра чалавека, які часта журыцца, непакоіцца, бядуе пра стан сваіх спраў. Кл. Сын — уве́сь ба́цько. Гаспада́рлівы й на́тто ён журлі́вуй. Чуць што яко́е, спаць ні сьпіць, ду́мае, клапту́е, жу́рыцца. Барб.

ЖЫВІ'ЦА *р.-ы, жан., множн. няма.* 1. Жывіца (смала). Му́сіць, жыві́ца йдзе на завôд які́, што яе так бага́та зьбіра́юць. Дубр. 2. Перан. Сырамяць, сырыца (гл. *сыры́ца* ў вып. 1959 г.), якою балюча б'юць. Ваце́такаю жыві́цаю сьцебані́, то й уме́рлаго ву́жанеш. Стр.

ЖЫ'ТНІК *р. -а, мужч.,* звычайна ў *множн.* 1. Гатунак яблыкаў, якія спеюць, калі жнуць жыта. У Хвядо́та, ў нêкаго йшчэ булí жы́тнікі. А то ніхто́ ні пасадзі́ў жы́тнікаў. Хіба мо' на пасёлку ў каго́ на завôд расту́ць. Кл. 2. Арэхі, якія наліваюцца і спеюць, калі жнуць жыта. Кл. 3. Баравікі, што растуць, калі выплывае (з'яўляюцца каласы) жыта. Параўн.: *выплыва́нікі.* Кліманты Маладз. р-на.

ЖЫТО'К *р. -тк-а́, мужч.* У спалучэнні: не жыток на гэтым свеце. Пра вельмі хворага чалавека, якому засталося жыць вельмі мала. Дзе, маê дарагі́я, та́я сі́ла? Пасьля́ дзьвôх апяра́цый ні жыто́к на е́там сьвêця. Дубр. Такое самае ўжыванне: не жыто́к на е́там сьвêце. Міхалкі Маз. р-на. Параўн.: у руск. мове *не жилец на белом свете.*

ЗАВАЛАКЦІ′ (*завалакці*(*чы́*)) *-к-ý, -ч-э́ш, перах., законч.* Завалачы. Кл. Каб завалакці хоць на масты́. Кл. Здае́цца, й небага́та назьбіра́ла, а завалакчы́ — хоць ты трэ́сьні. В.

ЗАВАЛАКЦІ′СЯ (*завалакці*(*чы́*)*са*) *-к-ýся, -ч-э́шся, законч.* Дзе ты ба́чыла? Хіба́ мôжно стôлькі зане́сьці? Ходзь бы самôй завалакці́са такóю плюхóтаю. Н. ж. Завалакчы́ся то завалакýся, але нічóга н[е] занясý. Кл.

ЗАВІ′ДКІ *р. -дк-аý, адз. няма.* Зайздрасць. Ужываецца ў прыказцы Заві́дкі сь сярэ́дзіны чалавêка з'яда́юць. Глуск.

ЗАВІ′СНЫ *прым.* Зайздросны (ужываецца і *зайздросны*). Што ўба́чыць у кагó — яж млée, каб тое й ёй. Ве́льмі заві́сна. Такóе ўжэ заві́снае вôко. Кл.

ЗАГАРАВА′ЦЬ *-ý-ю, ý-еш, неперах., законч.* Запрацаваць, зарабіць сумленнаю працаю. Цыга́нка прасі́ла: «Да́йце чагóль». Ні варт йім дава́ць. За штó? Хай ідзé, загарýе й спажыва́е загарава́нае. Кл. За лёта загарава́лі, то й ніга́дкі (гл. *аніга́дкі* ў вып. 1959 г.): усé (усё), што трэ́ба, у йіх есь; нікóму ша́пкі ні скі́нуць. Ключ. Цяпéр ні тóе, што зра́зу пóсьле вайны́. Загарава́лі, дак і хлêб і да хлêба. Дóчкі за́мужам. Аднагó Мі́шу ў лю́дзі йшчэ вы́вясьці. Н. ж.

ЗАГА′ТА *р. -ы, жан.* Тое, што без патрэбы займае месца. Наштó мнê ў ха́це зага́та така́я? Вынóсь ацьсю́ль. Кл. Параўн.: *зага́та* — плаціна, збудаванне, якое перагароджвае цячэнне вады. БРС.

ЗАГУ'СНУЦЬ *-е, неперах., законч.* Загусцець. Пры брадку́ вады́ німа́, але й ні су́ха, то̂лькі гразь загу́сла. Пас. Я. К. Це̂ста загу́сла. Кл.

ЗАЖА'ЦЦА *-н-у́ся, -н-е́шся, законч.* Выйсці, жнучы, наперад за іншых жней. Ці ба́чылі, ро́дные! Стара́я, ру́кі ў кру́кі, а жне як! Мо' на паўгане́й зажа́ласа за ўсíх. Кл.

ЗАЖУ'ДЗЕЦЬ (*зажу́дз[е]ць, зажу́дзяць*) *безасаб., законч.* Пра душэўны стан: *зажудзела* — агарнуў смутак, стала горна (гл. *го́рна* ў вып. 1960 г.), маркотна, сумна. На ху́тары ні раз зажу́дзяе. Н. ж.

ЗАЖЫНА'ЦЦА *-а́-юся, -а́-ешся, незаконч.* Гл. *зажа́цца.* Што — м[е]не́ дзе̂ці агарну́лі, дзе̂ці асы́палі, што хапа́ць бу́ду да зажына́цца напе́рад? Хіба́-то мае̂ гады́? Хай маладзе̂йшые бягу́ць да хапа́юць. Кл.

ЗАЙГРА'ЦЬ [1] *-а́-ю, -а́-еш, з він. і без яго, законч.* Зайграць. Хай на балала́йку зайгра́е. Хал. Як зайгра́е на скры́пку — пла́чэ. Кл.

ЗАЙГРА'ЦЬ [2] *-а́-еш, -а́-е, неперах., законч.,* ад *ігра́ць* (гл. *ігра́ць* [2]). Пра паводзіны чалавека: захадзíцца (гл.), забуяніць, пачаць бурна выказваць пачуцці незадавальнення. Чаго́ ты, скажы́, зайгра́ў? Табе̂ каб усе́ (усё), а йім каб нічо́го?.. Кл.

ЗАКАРЖАЦЕ'ЦЬ (*закаржаце̂ць*) *-е́-еш, -е́-е, неперах., законч.* Кл. Гл. *каржаце́ць, пакаржаце́ць.*

ЗАКАСАВА'ЦЬ *-у́-ю, у́-еш, перах., законч.* 1. Закрэсліць. Ты е́тые сло́вы закасу́й. Кл. Ото́ пісáка! Напіса́ў і закасава́ў, напіса́ў і закасава́ў. Ліст уве́сь сьпіса́ў і парва́ў. Хал. 2. Перан. Дабіцца большага поспеху, чым хто-небудзь,

перагнаць, абагнаць каго-небудзь. З зада́чамі Хве́дзя ўсіх закасу́е. Кл. Стары́, а йшчэ ў прако́се тако́го закасу́е. Байл. Параўн.: Смелы, магутны, з металу скованы голас аэраплана залятае і ў дзедаву хатку. Ох, да чаго мудры стаў чалавек — і птушку закасаваў. Я. Колас.

ЗАКАСО'ЎВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* 1. Гл. *закасава́ць, касава́ць.* А нашто́ піса́ць і закасôўваць? Хал. 2. Перан. А ён хадзь дзе — закасôўвае. А ў ско́кі по́йдзе!.. Кл.

ЗАКАШЛА'ЦІЦЦА *-ішся, -іцца, законч.* Апусціцца, схуднець. Прышôў с а́рмяйі — здаравêйшы быў. Ці ні хво́ры? Закашла́ціўся сусім. Кл. Параўн.: *кашла́ты* — неахайны, змарнелы, аброслы.

ЗАКЛА'СЦІ (*закла́сьці*) *-д-у́, -дз-е́ш, перах., законч.* 1. Тыя самыя значэнні, што і ў літаратурнай мове. Гл. БРС. 2. Закласці — хутка запрэгчы (каня, вала). По́куль закладзе́ш каня́, усê зьбяру́цца. Кл. Хай Гры́шко закладзе́ каня́ й пацско́чыць па йіх. Пас. Я. К. Параўн.: А дзевер пускае, Каня закладае. Беларускія народныя песні. Запіс М. Чуркіна. Мінск, 1959.

ЗАЛЕДЗЯНЕ'ЦЬ (*зал[е]дз[е]нêць*) *-е́-еш, -е́-е, неперах., законч.* 1. Стаць лёдам, пабрацца на лёд. Схам[е]ну́лася я, а маê гуро́чкі й расôл зал[е]дз[е]нêлі. Кл. 2. У праклёне, дзе значэнне слова выветранае. Што б ён (мароз) захало́даў (гл. *захалада́ць*) да залядзенêў! Кл.

ЗАНІЧО'ГАЦЬ *-а-еш, -а-е, неперах., законч.,* ад прым. *нічо́гі* (гл. *нічо́гі* ў вып. 1959 г.). Занядужаць, пачуваць (сябе) слабым, аслабелым. Ко́лісь: занічо́гаў — паду́жае,

само́ прôйдзе, а то чуць што — ў бальні́цу або до́ктара ў ха́ту. Н.-Андр.

ЗАПЛЮ'СНУЦЬ *-у, -еш, законч.,* ужываецца побач з *заплюшчыць* са словам *вочы.* Тôлькі заплю́снула во́чы, а ён грук-грук у хво́ртачку. Кл. Ты мо' й во́ка ні заплю́снула. Пас. Чырв.

ЗАПУЗАЦЕ'ЦЬ (*запузацêць*) *-é-еш, -é-е, неперах., законч.* 1. Стаць тоўстым, тлустым (пра чалавека). Зь вялі́кае яды́ не паразумнêеш, а тôлькі запузацêеш. Вольн. 2. Зацяжарацць. Кл.

ЗАРО'СТА'ЦЬ *-á-ю* і *-а-ю, á-еш* і *-а-еш, неперах., законч.* Зарастаць. Уцёсанка заро́стае. Засêў ве́льмі густы́ хвôйнік. Кл.

ЗАТРО'МКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., законч.,* ад *тро́мкаць* (гл.). Ты затро́мкай. Ці пачу́е? Кл. Я 'шчэ ні йгра́ла. Тôлькі ўзела́ балала́йку, затро́мкала, дак вы й крычыце́ на мене́. Хал.

ЗАТУ'ХКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, законч.,* ад *ту́хкаць* (гл.). По́куль ты зату́хкаяш, я й наза́д вярну́ся. Пас. Я. К.

ЗАЎПІРАВА'ЦЬ *-ý-ю, -ý-еш, неперах., законч.,* ад *упірава́ць* (гл.). Заўпірава́ла й ні пашла́ ў шко́лу. Уюнішчы. Як заўпіру́я — хоць лôпні, хоць трэсьні на сваё ро́біць. Вольн.

ЗАХАДЗІ'ЦЦА *-íшся, -íцца, законч.* Забуяніць, зайграць (гл. *зайгра́ць* [2]), пачаць бурна, нястрымана паводзіць сябе. Кл. Чаго́ таяНата́льля захадзілаcа? Нêхто зачапі́ў, му́сіць. Кл.

ЗАХАЛАДА'ЦЬ *безасаб., -á-е, á-л-а.* 1. Захаладаць (пра надвор'е). З ра́ніцы так хо́раша было́, ўве́чары нêшта захалада́ла. В. 2. У праклёне, дзе значэнне дзеяслова *захалада́ць* вы-

ветранае. Што б ён захаладаў, марôз такі! Пас. Я. К. І дзе тые верацёна? Шукáю, шукáю — німá. Хай яно захаладáе. Кл.

ЗАЦВІ'РКАЦЬ (*зацьвíркаць*) *-а-еш, -а-е, неперах., законч.* Зацвыркаць. Раз зацьвíркаў цьвіркýн — то, брат, лêта ўцякáя. Так і пішы́. Пас. Я. К.

ЗАЦЕ'КАЦЬ *-а-е, неперах., незаконч.* Зацякаць (ужываецца і *зацякáць,* але радзей). Так [е]нó й хóрашэ, й зацéкаць ні тáк бýдзе. Кл.

ЗАЧА'ПАЦЦА *-á-ецца, законч.* Гл. *чáпацца* [1]. Пачаць чáпацца. Чамý ж ні сарвáў зрáзу? Чуў, што йшчэ з дóмы выяжджáлі, зачáпаласа паткóва. Так каню́ нóгі акалêчыць мôжно. Кл.

ЗАЧАРАВА'ЦЕЦЬ *-е-еш, -е-е, неперах., законч.* Зацяжараць. Кл. Аднó тôлькі хадзíць стáло, другóе на рукáх, а тут зноў зачаравáцяла. Кл.

ЗАША'МАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., законч.,* ад *шáмаць* (гл.). Чуць што зашáмае — у [е]гó душá ў п'ятках. Хал. Стайíўса й стаю́. Чýю нêшто зашáмало. Штó, дýмаю, такóе шáмае тут? Сл.

ЗАШУ'ШКАЦЦА *-а-юся, -а-ешся, законч.* Гл. *шýшкаць, шýшкацца, ушýшкацца.* Вéльмі баяўся, як малы́ быў, астáцца ў хáце. У пасьцéль, усé (усё) на с[е]бé, зашýшкаюся, каб і н[е] чуць і н[е] бáчыць. Вольн. У сêно зашýшкаўшыса хóладно ні бýдзе. Кл.

ЗБАРАНЕ'ЦЬ (*збаранêць*) *-é-еш, -é-е, неперах., законч.,* ад *баранéць* (гл.). У такíм тлýме, у такíм гáме збаранêеш за дзень, што й галавá балíць, êсьці ні хóчаш. Ст. Рацм.

ЗБУХТАВА'ЦЬ *-ў-ю, -ў-еш, перах., законч.* Гл. *звіхтаваць* (1, 2). Як умêлі, так і папêлі: бач, збухтавалі нарэзы (разьбу). Кл. Ты не наб'еш касы, а збухтўяш. Пас. Я. К.

ЗБУЯ'ЦЬ *-я-ю, -я-еш, неперах., законч.* 1. Вырасці націнаю, але без пладоў. 2. Страціць здольнасць хутка рэагаваць, рухацца. Раз у Пархачове так збуяла, што каб ні бабы, то й ні прышла б. Дзякуй йім, памаглі. А назаўтра папарэгтвалі зь м[е]не. Кажуць, што збоку здэцца, п'яна баба была. Ёты багоньнік халêрны. Збуяеш за дзень ходзячы. У горадзе кажуць зьвêсіць, а ў нас — зважыць. Кл.

ЗБЫ'ТКІ (*збы(у)ткі*) *р. -аў, адз. няма.* Выдаткі і страты. Мнê з вашае вучобы адны тôлькі збыткі. Глуск. З такім самым значэннем слова *збыткі* ў гаворцы в. Трухан. Слуц. р-на.

ЗВА'ЖЫЦЬ[1] *-у, -ыш, перах., законч.* Зважыць (руск. *взвесить*). Ці зваж дома, ці так,— хто купіць, сам зважыць. Вольн. Купіла пуд, а зважылі, й німа пуда. Па гарадзкім важанні праўды не хапіла. Пас. Я. К.

ЗВА'ЖЫЦЬ[2] *-у-, -ыш, з давальн., законч.* Саступіць, уважыць, дараваць каму-небудзь. Як просіць вельмі, то зваж да ні ўпікай яму нікòлі. Пас. Я. К.

ЗВА'ЖЫЦЬ[3] *-у, -ыш, з давальн., законч.* Моцна ўдарыць. Л[е] кнігарні ў вòйну шчапіліся. Дак так зважыў Мікалаю, што той і асêў. Кл. Ох і зважу я табê каліль (гл. *каліль* у вып. 1959 г.). Пас. Я. К.

ЗВІХ (*зьвіх*) *р. -у, мужч., множн. няма.* Вывіх. А што той зьвіх лячыць? Пройдзя й так. Вайц.

ЗВІХТАВА′ЦЦА *-ешся, ецца, зваротны* ад *звіхтава́ць* (гл.). 1. Дату́ль круцілі, паку́ль на̂рэзы звіхтава́ліся. Вольн. 2. Перан.: збіцца з добрага шляху, стаць амаральным. Па вялі́кіх гарада́х людзе́й ужя́кіх бага́то; малады́, калі́ ро́зум малы́, во́зьме й зьвіхту́ецца. Глуск.

ЗВІХТАВА′ЦЬ (*зьвіхтава́ць*) *-у́-ю, у́-еш, перах., законч.* 1. Збіць разьбу. Б[е]с патрэ́бы ні круцêце, звіхту́яце нарэ̂зы. Кл. 2. Няўмела адклёпваючы, давесці касу да таго, што самая тонкая частка палатна — лязо будзе няроўнае, пойдзе зігзагамі. Кôска дôбра, да так білі, што зьвіхтава́лі. Хіба́ папра́віш? Ні ве́льмі збухтава́лі (гл. *збухтава́ць*), мôжна касі́ць тако́ю. Кл.

ЗГАРБА′ЦЕЦЬ *-е-ю, -е-еш, неперах., законч.* Стаць гарбатым. Нашто́ так вудзі́льна пакла́ў? Так яно́ згарба́цяе, бу́дзе крыво́е. Пас. Я. К. Дзераўя́ка (гл. *дзеравя́ка* ў вып. 1959 г.) й та́я згарба́цяла, а дзі́во што чалавêк на ста́расці згарба́цяе. Кл.

ЗГАРКА′ВЕЦЬ *-е-е, неперах., законч.* Набыць гаркаваты ці горкі смак. Крыха́ таго́ ма́сла й таго́ ні дагле́дзяла: згарка́вяло. Куды́ ж яно́? Барб. Лётам ма́сло дôўго н[е] пастайі́ць, згарка́в[е]е. Хал.

ЗГА′СІЦЬ *-ш-у, с-іш, з він. і без яго, законч.,* ад *га́сіць* (гл.). 1. Хутка ссекчы дрэва. Я й сакêраю зга́сіў бы, бес пілы́. Кл. 2. Збіць на го́ркі я́блык, збіць на по́рхаўку. Кл. Як палêзе вы́піўшы, дак зга́сяць, што й ні ўзграбе́цца. Байл.

ЗГІ′НДЗІЦЦА (*зглі́ньдзіцца*) *-ішся, -іцца, законч.* Збегацца і схуднець, змізарнець, на-

быць змарнелы выгляд. Што ўжэ так бясталко́во жыве́! Ні дня́ німа́, ні но́чы. Усе́ (усё) йдзе і йдзе, усе́ (усё) по̂дбягам. А то́лку ніякаго. Згіньдзіласа, што на ве̂тры ні ўсто́йіць. Глуск. Шука́ў з дабра́ раско́шы, ад аднае̂ да друго́е хадзі́ў, то дахадзі́ўся. Бач, згіньдзіўся. Ні адно̂й ні трэ́ба цяпе́р. Так яму й трэ́ба. Кл.

ЗДАРАВІНЯ′ *р. -і, агульн.* Тое, што *здаравéц* (гл. *здаравéц* у вып. 1960 г.), што руск. *богатырь.* Хто паве̂рыў бы? Да́йце ра́ды! Такі́ здаравіня́, й на́ табе̂: тры дні — й німа́. Кл.

ЗДАРАВЯ′КА (*здараўя́ка*) *р. -к-і, мужч.* Здаравяка, побач—*здаравіня́* (гл.), *здаравéц* (гл. *здаравéц* у вып. 1960 г.). Параўн.: у руск. мове *богатырь.* А хло́пцы ні ў Мацьве́я (сыны не такія, як бацька). Ён буў здараўя́ка! Пле́чы ты́[е]—за́сланка, а кулакі́—што дзьве̂ гі́ры. Кл.

ЗДЗІЎ (*зьдзі́ў*) ужываецца з прыназоўнікам — на здзі́ў. На дзіва, на здзіўленне, дзівосна. Кал[е] Канстанты́на, на тако̂й п[е]шчузе̂ пасадзілі карто́плі. Дак каб ба́чылі! Парасьлі́ на зьдзі́ў, далібо̂г! Кл. Гл. *уздзі́ў.*

ЗДО′ХЛЯ *р. -і, мужч. і жан.* Здыхля. Глуск, пас. Я. К.

ЗДРАКАВА′ЦЬ *-у-еш, -у-е, неперах., незаконч.* Гізаваць. Гл. *здрок.*

ЗДРОК (*здро̂к*) *р. -а* і *-а́, мужч., множн. здракі́.* 1. Вельмі куслівае насякомае, нагадвае пчалу. Як толькі здрок падляціць да жывёліны (каня, каровы), жывёліна з трывогаю прыслухоўваецца да гудзення здрака, чарада кароў кідаецца бегчы — здракаваць, гізаваць. На здрака́ ў нас ка́жуць здро̂к, а калі́ й на авад-

ня́ ка́жуць здрôк. Ты хіба́ ні ба́чыў хаць раз? Здрôк да мýсы падл[е]ціць і з-з-з-з-з. Каро́вы, дак ты́е, хвасты́ пападыма́ўшы, так ірваню́ць! Кл. Му́сібуць, здракі́ ве́льмі крэ̂пко куса́юць, што йіх так тава́рына (гл. *тава́рына* ў вып. 1959 г.) байі́цца. Кл. Ра́на йшчэ гнаць. Са́ма за́ядзь, са́мые здракі́. Пас. Я. К. Чаго́ так? Што? Здрôк укусі́ў? Кл. Параўн.: у чэшск. мове *střeček* — авадзень; *зыкаўка*. Кліны Бялын. р-на; Саламір'е Полац. р-на. 2. Уедлівы і шкодны чалавек. Малы́, а кусьлі́вянькі здрôк вацéты. Кл.

ЗДУРАВА'ЦЬ *-ý-ю, -ý-еш, неперах., законч.* Недацяміць, недадумаць, даць пудла. Здурава́ла, што насêяла про́са. Трэ́ба было́ ячмéню пасêяць. В. Сам вінава́ты: здурава́ў, што на кні́жку (у ашчадную касу) ні палажы́ў тых гро́шай. Кл.

ЗДУ'ХАВІНА (*здýхавіна, уздýхавіна*) *р.-ы, жан.* Гл. *уздýхавіна.*

ЗІХА'ЦЬ *-á-е, неперах., незаконч.* Бліскаць (ужываецца і *блі́скаць*). На Байлюкі (у тым баку, дзе вёска Байлюкі) зіха́е, а гро́му ні чува́ць. Кл. Ото́ ж набра́ліся страхý! Як зіха́е, так грымі́ць. Зіхнé — хаць іго́лкі зьбіра́й. За свôй вêк ні ба́чыла, каб так зіха́ла. Пас. Я. К.

ЗІХНУ'ЦЬ *-н-é, -л-а, неперах., законч.,* ад *зіха́ць* (гл.). Як зіхнé, зіхнé! І йго́лку ўба́чыш. Кл.

ЗЛЕ'ГЧЫСЯ (*зьлéгці*(*чы*)*са*) *законч.* 1. Злегчыся. Зьлéглася са́ла ў скры́нца, то ні ўзадра́ць, хоць зуба́мі рві. Пас. Я. К. Ты малы́, с камаро́ву сі́лу, а сêно ве́льма зьлéгласо. Дзé ты падасі́? Кл. Культýра (сена з культурных

траў) зьля́жацца, здае́цца, крыха́, а на во̂з ні забра́ць. Кл. 2. Перан. Вельмі зблізіцца, сысціся ў якой-небудзь справе і адасобіцца ад грамады, суседзяў. Андрэ̂йчык ні любі́ў з людзьмі́ (з вяскоўцамі сябраваць, трымацца разам), а ўсе́ (усё) то с Аміляю (а я́к жэ? — старшыня́!), то с тым Мізярні́цкім, ці як-бо, зь лясьні́чым, зьля́жацца. Кл. Ён ве́льмі хі́тры. Так зьлёгса з Гры́шкам, што ўсе (усё) ле яго́ й ле яго́. Сл.

ЗЛЕ'ТАВАНАЯ (*зьлếтавана*) *прым.* (*дзеепрым.*) ад *злётаваць* (гл. *злётаваць*[2] у вып. 1959 г.). Наш Васі́ль байі́цца хало́днаю мы́цца. Каб зьлếтавану даў. Кл. Аве́чкі зьлếтаваную пайі́ць ці до́брэ? Ка́жуць, абла́зяць. Кл. Гл. *зле́чаная.*

ЗЛЕ'ЧАНАЯ *прым.* (*дзеепрым.*) ад *злёта-ваць* (гл. *злётаваць*[2] у вып. 1959 г.). Тако́ю хало́днаю брэ́йіцца стра́шна. Пачака́й, нальлю́ зьлếчанае. Пас. Я. К. Гл. *злётаваная.*

ЗЛЁПАК (*зьлёпак*) *р. -пк-а, мужч.;* ужываецца ў параўнанні, калі гавораць пра сытых маладых істот, пра сытых дзяцей. На такốй ву́гадзе ўсе́ (усё) до́брае: гус[е]ня́ткі то́ўстые, харо́шые, як зьлёпкі. Барб. А хлốпчык, дальбốг, як зьлёпак. Байл.

ЗЛЫ'ДНЯ *р. -і, жан.* Злыдзень. С тако́ю злы́дняю хіба́ згаво́рысься? Сым. Ето ж мốль, забếце! Ето не до́бры маты́ль, а злы́дня Н. ж.

ЗМАГА'НЕЦ *р. -нц-а, мужч.* Чалавек, які часта ўжывае ў сваёй мове словы *змага́цца, змага́нец*. Ён усе́ (усё) каза́ў «змага́нец», усе́ (усё) «змага́ўся», дак яго́ нếкалі й празва́лі змага́няц. Жыў мо' шэ́йдзесят гадốў яму́, а на

ягó йнáчай ніхтó й ні казáў — змагáняц і змагáняц. Кл.

ЗМА'ЛІЦЬ *-ю, -іш, перах., законч.* Паменшыць. Гл. *гады́ змáліць, памáліць гады́.* Кл.

ЗНА'ЦЦА *пабочнае слова.* Значыцца. Ты, знáцца, сам хадзíў? Кл. Ідôм, знáцца, а ён мнê й кáж[э]. Кл.

ЗНЕНАВІ'ДЖАНЫ (*зьне[і]навíджаны*), *дзеепрым.* ад *зненавíдзець.* Параўн.: у руск. мове *возненавиженный.* Хібá такí зьненавíджаны, што й êхаць зь йім ні хóч[э]ш? Барб. С тагó ён у нас такí зьненавíджаны. Кл.

ЗНІСТАЖА'ЦЬ (*зьністажáць*) *-á-ю, -á-еш, перах., незаконч.* Знішчаць. Гл. *зністóжыць.* Э́стулькі ўсягó зьністóжылі за тры гады́ вайны́! Сл.

ЗНІСТО'ЖЫЦЬ (*зьністóжыць*) *-у, -ыш, перах., законч.* Знішчыць. Вацéтаю вайнóю вéльмі багáто людзéй зьністóжылі. Кагó на вайнê, а кагó так. Барб.

ЗНЯВО'ЛІЦЦА (*зьнявóліцца*) *-юся, -ішся, законч.* Стаміцца, змарыцца. Хадзíць старажавáць — нів[е]лíка прáца, але ў кажухôх зьнявóлісса. Нóчы дóўгіе, хóладно. Кл. Аж трóе сýдак êхаў. Дзíва, што зьнявóліўся! Вайц. Абýты ўвесь дзень, нóгі зьнявóліліся. Пас. Я. К. Як не пасьпíць, то й зьневóліцца й не рабôцько. Хал.

ЗНЯХА'ЯЦЬ (*зьн[е]хá[е]ць, зьняхáяць*) *-á-ю, -á-еш, перах., законч.* Зганіць, абгаварыць. Кл. Ты зьн[е]хá[е]ш кагó, то й табê такáя падзя́ка бýдзе, й ц[е]бé зьн[е]хáюць. Сл.

ЗРА'ЗУ *прысл.* 1. Тыя значэнні, што і ў літаратурнай мове. 2. Спярша, спачатку, упа-

чатку. Зра́зу ён ско́чыў, а тагды́ я. Хал. Ты ж зра́зу гавары́ў, што сам зро́біш. Цяпе́р кру́ціш? Кл. Трэ́ба зра́зу гэ́блікам, а тады́ й спу́скам (гл. *спуск*[2] у вып. 1959 г.) мо̂жна працягну́ць. Пас. Чырв.

ЗЫ'КНУЦЬ *-еш, -е, неперах., законч.* Зычна крыкнуць на каго-небудзь. Гавары́ў, гавары́ў, а тагды́ як зы́кне — ўсе̂ змо̂ўклі. Глуск. То̂лькі зы́кні, бу́дуць як падме̂цяныя хадзі́ць. Сым.

## І

ІГРА'ЦЬ[1] *-а́-ю, -а́-еш, неперах., незаконч.* Іграць. Та́я дзе̂ўка на балала́йку йгра́е. Хал.

ІГРА'ЦЬ[2] *-а́-ю, -а́-еш, неперах., незаконч.* Буяніць, сварыцца, бурна выказваць пачуцці незадавальнення. Чаго́ ты йгра́[е]ш? Чаго́ ты, скажы́, зайгра́ў? Табе̂ каб усе́ (усё), а йім каб нічо́го?! Кл. Йгра́цьмеш, то дайгра́ясься! Бач, ні залюбі́ў, што сказа́ла, нашто́ гро́шы стра́ціў. Пас. Я. К.

ІРВА'ЛКА *р. -к-і, жан.* Машына, якая бярэ («вырывае») лён. Параўн.: у руск. мове *льнотеребилка.* У Глу́ску лёну рука́мі ні бяру́ць. У йіх машы́н бага́то. Е ў йіх така́я, што й лён браць уме́я. Ста́лі й дзіві́ліся: до́бра йрва́лка. А ў нас йірва́лка бу́дзе? Вайц. П'яць ірвалак, каза́ў старшыня́, даюць на ўсе̂ брыга́ды. Кл.

## К

КАЗА'ЛЫ *р. -аў, адз. няма.* Ад *каза́ла* (*каза́лі, каза́ў*). 1. Сказанае без падстаў, неаб'ектыўна. Ці ўсе (усё) то́е слу́хаць, што ка́жуць? Та́я так каза́ла, а та́я так сказа́ла. Слу́хай

«каза́лы» — то наву́чаць!.. Кл. Свôй май ро́зум! Ты й ні шмана́й на ўся́кія «каза́лы». Пас. Я. К. 2. Тыя, што кажуць без падстаў, неаб'ектыўна. А нашто́ табе̂ слу́хаць усякіх «каза́лаў»? Нака́жуць табе̂ ўся́кіе каза́лы... Кл.

КАЗЁЛ *р. -зл-а́, мужч.* 1. Казёл. Кл., Глуск, Хал., Сым. 2. Перан. Упарты чалавек. З на́мі, брыгадзі́р, вацётага казла́ пасыла́ць? Каб сва̂е ўпі́ры пака́зваў? Кл. 3. Тоўстая галіна на дрэве — лапа, сук. Што та́к бага́та, што та́к бага́та йгруш! Скажы́, адзі́н казёл ababра́лі — мо' тры мяшкі. Пас. Я. К. С таго́ аднаго́ казла́ вôз (дроў). Кл. 4. Пад казлôм — назва ўчастка поля і лесу. Кл.

КАЛУПА'НІК (звычайна — *калупа́нікі*) *р. -а, мужч.* Дробненькія баравічкі, якія выкалупліваюць з моху, з-пад ігліцы. Пане́сьлі ўдвôх два кашэ̂. Адны́ баравікі́, ўсе̂ калупа́нікі. Адзі́н у адзі́н, па араху́. Кл. Калупа́нікі даражэ̂й пло́ціць. Глуск.

КАМАНДЗІ'РКА (*каманьдзе́рка, каманьдзі́рка*) *р. -і, жан.* Начальніца. Сваю́ гл[е]дзе̂ла б рабо́ту. Така́я каманьдзе́рка нашла́ся! Кл. А хто́ з вас за каманьдзі́рку? Лучкі.

КАМАРНО' *прысл.* Многа камароў. Ужываецца ў прыказцы-прыкмеце Як камарно́, дак і патраўно́. Хал., Кл. Сёлята камарно́. Н. ж.

КАМАРЭ'ЧА *р. -ы, жан. Зборны* ад *кама́р.* Тôлькі за камарэ́чы я б ні жыла́ ў Во́саве. Кл. Даўно́ было́ стôлькі камарэ́чы, як сёлята. Кл. А як на Павало́жжы, я й аднаго́ камара́ ні ўба́чыў, німа́ ніякае камарэ́чы. Глуск.

КАНАРЭ'З (*канарэ̂з*) *р. -а, мужч., зняважл.* Жорсткі чалавек, які не зважае на звы-

чаі, нормы людскіх адносін. У вв. Клетнае, Халопічы канарэзамі называлі паліцаяў — фашысцкіх прыслужнікаў. Можа быць, гэта слова — адгалосак далёкіх часоў: жорсткія мангольскія заваёўнікі рэзалі коней, елі конскае мяса. Дарэчы, на Глушчыне і цяпер не спажываюць конскага мяса, а зарэзаць каня пры мясцовым уяўленні — незвычайная жорсткасць. Гл. *катарэ́з*.

КАРАЛЕ'ВА *р. -ы, жан.* 1. Каралева. Хай пра каралéву скáжа кáску. Сым. 2. Шахматная фігура — дамка. Кл., Зуб., Глуск. За каня́ й двôх афіцэ́раў аддáў, каралéву. Глуск.

КАРАНКІ' *р. -óў, адз. няма.* Гл. *галаўкі.* Каранкí цьвярдзêй прадýцца. Барб. З адны́х галаўкôў, каб так спраў, былó б тóнянькае палатнó. Кл.

КАРЖАЦЕ'ЦЬ (*каржацêць*) *-éеш, -é-е, неперах., незаконч.* 1. Станавіцца неэластычным, сухім, цвёрдым. І хром (калі яго намочыш) схне й каржацêе. Кл. 2. Пакрывацца «каржом» — сухою коркаю. Дóбры кіт так хýтка ні каржацê[е], а ета ні кіт, а тôлькі завéцца кіт,— адзін мêл, дак і каржацêе. Нáнач марôз зьбірáяцца, зямля́ каржацêе. Мо' сýхо стáне. Кл.

КАРКАДЗЕ'Д (*каркадзêд*) *р. -а, мужч.* Тое, што і *каркадзéдак* (гл.). Кл.

КАРКАДЗЕ'ДАК *р. -дк-а, мужч.* 1. Падлетак, што не расце, не мае росьлі (гл. *рóсля*). Кáжаш, ці вы́расьце. Уся́к бывáе. Хібá забы́лася, што ў нас за настáўніка быў? Такí сáмы каркадзêдак. 2. Ліліпут. На пытанне, хто такі каркадзедак, адказвалі: «У гадóх, але малы́ на рóст. У гадóх, але малы́, нізянькі. Як бо

йіх у го́радз[е] заву́ць расе́йцы? Віліпу́ты ці як? Кл.

КАРТАПЛЯ́НІШЧА (*картап(ф)ля́нішчэ, картап(ф)ля́нішча*) *р. -а, ніяк.* Бульбянішча. Поле, дзе расла бульба. Ці ні ба́чыла майі́х парася́т? — Здэ́цца ж, е́то ва́шые по́ркаюцца за гу́мнамі на картапля́нішчы. Кл. На картапля́нішчы [е]чме́нь бы паро̂с, а вы чо́ртве́д што пасе̂елі. Сл. Картафля́нішча вы́рабленае як хле̂б. Глуск.

КАРЧЫ́СТЫ. Кусцісты. Пасе̂ялі пшані́цу радка́ву. Ду́мала, што сусі́м схі́біць, мо' й насе̂ньне ці зьбяру́. А бач, ста́ла карчы́ста, сало́ма ў сало́му, ко́лас у ко́лас. Як сьцяна́. Сьцяна́ сьцяно́ю стайі́ць. Рэ̂дко се̂ялі, а карчы́стая сьпе̂е. Кл.

КАРЭ́ЙКА *р. -і, жан.* Карэянка. Я ў Мінску была́. Сястра́ там у нас. Дак нагле́дзялася ўсяго́-ўся́каго. Гуля́ла. А па ву́ліцы па го́радзе хадзі́лі карэ́йкі ці кіта́йкі. У аднае̂ карэ́йкі мо' два́ццаць значко̂ў на гру́дзях. Ст. Рацм.

КАСАВА́ЦЬ *-у́-ю, -у́-еш, перах., незаконч.* 1. Крэсліць, закрэсліваць. Піша й сам касу́е. Хал. 2. Перан. Гл. *закасава́ць, закасо́ўваць.* Той разу́мны ве́льма быў, ён усі́х йіх касава́ў. Як ло́ўкі, так ру́чы (гл. *ру́чы* ў вып. 1959 г.). Кл. Ні лю́б[е]ць [е]го́, ве́льмі ўжэ стара́яцца касава́ць усі́х. Глуск.

КАТА́ННІК (*ката́ньнік*) *р. -а, мужч.* Той, хто катаецца. Вы йшчэ малы́е ката́цца. На пе̂ч, такі́е ката́ньнікі! Кл.

КАТАРЭ́З (*катарэ̂з*) *р. -а, мужч.* Тое, што і *канарэ́з* (гл.),— жорсткі чалавек. Ні ўшчува́цьмеш, то нагару́ясса, ву́расьце катарэ̂з.

Хал. Параўн.: Сам першы ў тую паліцыю пабег ды такі катарэзнік зрабіўся, што і знаёмыя ўжо баяцца стрэць яго, і ўсе навокал праклінаюць. Я. Брыль.

КАХА′НЧЫК р. -а, мужч., ласкальн. Гавораць любоўна на дзіця. Сьпі ж, мôй каха́нчык. Кл.

КАЧА′ЛКА [1] р. -і, жан. Прылада, якою качаюць бялізну. Прас купілі, дак кача́лку ўжэ хацêла ву́кінуць. Хіба́ толк? А мяшо́к ці што пакача́ць? Кл.

КАЧА′ЛКА [2] р. -і. жан. Бервяняка, бервяно, жардзіна на грэблі. Даўнêй на грэ́блі кача́лкі насьціла́лі. Цяпе́р гра́вялю машы́намі напру́ць, кана́вы паўко́ппаюць (павыкопваюць). А ты́е го́ды му́чыліса. Наво́зім кача́лак. А на во́сень так усмо́кчэ да ўката́юць, што ўве́сну знôў папраўля́ць грэ́блю трэ́ба. Кл.

КА′ЧУ′Р р. -а, мужч. Качар. Чаму́ ты е́тых качурôў гаду́[е]ш? Тôлькі ко́рму зво́дзіш. Пас. Я. К.

КЕ′РЗАННЕ (*ке́рзаньне*) р. -я, *ніяк., множн. няма,* ад *ке́рзаць* (гл. . Мнê ўжэ аж надаêло ба́чыць тва́е (тваё) *ке́рзаньне.* Кл.

КЕ′РЗАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Плесці (лапці, каробку, кош), не надта ўмеючы. Кл. Параўн.: Покі Юрка не меў чына, быў нішто сабе дзяціна, па-суседску ў сваёй хаце жыў з людзьмі і керзаў лапці. Я. Купала.

КІГІ′КАЛКА р. -і, жан. Так называюць птушку кнігу (гл. *кні́га* [2]) — кні́гаўку. От ні люблю́ гі́дкіх е́тых кігі́калак, ну, кніг. Кл.

КІГІ′КАЦЬ *-а-еш, -а-е, неперах., незаконч.* Так перадаюць крык кнігаўкі. Ты́е го́ды на Бярве́ннам кні́гі велі́са. Пры́дз[е]ш — дак кігі-

каюць і кігікаюць, што аж смутак возьме. Кл.

КІ'ДКІ *прым.* Неўраўнаважаны, няўстойлівы (пра характар чалавека). А ты не будзь такі кідкі. Хал. Ён робіць, стараяцца, але толку с таго... Вельма кідкі. То за адно, то за другое. То гарачы, а то астыне й рукі апускае. Хал.

КІТАЙКА *р. -і, жан.* Кітаянка. Гл. *карэйка.* Хто гаварыў — што ето карэйкі, а хто — што кітайкі. Невысокенькіе на рост, дрôбняянькіе. Ст. Рацм.

КЛАДЗЬ *р. -і, жан.* Хто с пустымі саньмі, той праскочыў, а я с кладзьдзю й сêў. Кл. Нêкалі на конях êзьдзілі ў Бабруйск, у Старыя Дарогі. Возьмуць клаць туды й назат с кладзьдзю. Сым. Балаголы малі добраго каня. Возьме кладзі пудôў 20—30 і седакôў насадзіць. Глуск. Параўн.: Однажды Лебедь, Рак да Щука везти с поклажей воз взялись. А. Крылоў.

КЛЕ'ШНЯ *р. -і, жан.* Клюшня. Учэпіцца клешняю за кручок і цягняцца, а на берах хіба выкін[е]ш? Пас. Я. К. На клешню акуня лавіць добра. Сым.

КЛЁКНУЦЬ *-е, -л-а, неперах., законч.* Як тôлькі йдзе паштар, дак мае (маё) сэрцэ й клёкне: ці жыў ён?

КЛУБНІ'ЦА *р. -ы, жан.* Адно каліва клубніцы, адна ягада (Fragaria viridas Duch.). Глянь, нашла клубніцу. Што яечка (вельмі буйная). Кл. І я клубніцу на градзê пасадзіла, а на лêта ў нас багата будзе насаджана клубніц. Пас. Я. К. У іншых выпадках — у *множн.* У нас мало ў каго растуць клубніц.

Барб. На база́ры скôлькі хо́чаш клубні́ц наве́зьлі. Глуск. Суні́цы лêпей за клубні́цы — клубні́цы ве́льмі кі́слые. Кл. Параўн. у БРС: *суніцы, брусніцы, чарніцы,* але (?) *клубніка.*

ҚЛЫ′ПА *р. -ы, жан. і мужч.* Той (тая), хто клыпае. С тае́ю клы́паю паўдня́ клы́пацьмуць. Кл. За ты́м клы́пам. Кл.

ҚЛЯНО′ВІҚ *р. -у, мужч., множн. няма.* Кляновы сок. Параўн.: *бяро́завік* — бярозавы сок. Кляно́вік саладжэ̂йшы за бяро́завік, але ў на́с клёну ма́ла дзе е. Пас. Я. К. Ка́жуць: сакаві́к, бо сôк зь бяро́зы ці с клёну йдзе. Кляно́вік і салôдкі сма́чны, й кі́слы ве́льмі харо́шы. Кл.

ҚНІ′ГА [1] *р. -і, жан.* Кніга.

ҚНІ′ГА [2] *р. -і, жан.* Птушка кнігаўка (Vanellus venellus Lin.). У беларускіх дыялектах яшчэ — *ка́ня, коню́х, кігі́калка.* Ты́е го́ды на Бярве́ннам кні́гі в[е]лі́са. Кл.

ҚО′БКА (*кôбка*) *р. -і, жан., жартаўл.* Нізкая на рост, прысадзістая, моцная дзяўчына. А ці ў Мі́нску ні ба́чыце кôбкі? Малу́ю зва́лі кôбка, ўжэ й за́мужам, дзêці гаду́е, а й ц[е]пе́р — ко́бка. Кл. Параўн.: кобка — це металева коробка (на зерно, борошно та ін.). В. С. Ващенко. До вивчення семантики діалектних слів. Праці X республіканської діалектологічної наради. Київ, 1961.

ҚО′ЎЧЫЦЬ *-у, -ыш, перах., незаконч.* 1. Мяць, жмакаць. Нашто́ ска́цярку ко́ўчыце? Кл. Ідзêце на двôр гуля́ць. А то с пасьце́лі на пêч, сь пе́чы на пасьцêль. Тôлькі кôўчаць пасьцêль. Кл. 2. Цісну́ць, душыць. Дзе́-бок (гл. *бок*[2] у вып. 1959 г.), раска́звалі? Стары́ вôўк успа́ў

на жанчы́ну. Зубôў німá, дак тôлькі павáліць да кóўчыць. Нахапíўса чалавêк да застрэ̂ліў. Паглядзêлі, ажно бяззýбы, дак галôдны, так што тôлькі кóўчыць. Кл. Вóзьме кавáлачак м'я́са, то кôўчыць, кôўчыць,—вêдамо без зубôў. Барб. Параўн.: клы́чыць. Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Мінск, 1960.

КРАПЧА'К *р. -á* і *-ý, мужч.* 1. *У адз.* і *множн.* Дужы, моцны, крэпкі. Цімôх такí крапчáк буў, а, бáчыце, скарэ̂й за свайíх равéсьнікаў бóгу дýшу аддáў. Кл. 2. *Множн. няма, р. -ý.* Моцны табак, моцнае пітво. Пля́шку крапчакý-п[е]ршакý. Хал. Мнê папярóсы — слабы́я. Каб дóбрага крапчакý, свайгó самасáду. Каб кругí ды́му й у вачáх кругí пайшлí. Сым.

КРАСА'ННЕ (*красáньне*) *р. -нн-я, ніяк., множн. няма.,* ад *красáць.* Кінь, Міша, свае́ красáньне, бо ўсê твае̂ цáцкі éтые паўкідáю вон. Кл.

КРАСНАГАЛО'ВІК *р. -а, мужч.* Грыб (Krombolzia aurantica). Яго завýць яшчэ асóвік (гл.). Сáма лêпе[е]й брáць краснагалóвікі. Баравікá ўбáчыць ця́жка. А краснагалóвіка здалёк убáчыш. Кл. Параўн.: *асавíк.* БРС.

КРУТАГАЛО'Ў (*крутагалôў*) *р. -а, мужч.* Хуліган, прайдзісвет. Ужэ́ мáло хто пôмніць Івáнчыка Сузáньніннаго. Буў такí крутагалôў да злóдз[е]й!.. Кл. У нáс тут жывí й жывí. Ракá свая́, хáта свая́, ўсê лю́дзі свае̂. Дык не! Панéсла крутагалóва на нéйкая Павалôжжа. Чагó? Цягáўся, пакýль ні дацягáўся. Побл.

КРЫВАКЛУ'БЫ *прым.* З крывым, зняверчаным клубам. Крываклýбы вóлік, а, бач, ця́гне, як трáктар. Кл. Чагó насьміхáцца? «Яна кры-

ваклуба!» А з вáмі мо’ й ні такóе нішчáсьце бýдзе. Пас. Я. К.

КРЫВО́ТНІЦА (*крывôтніца*) *р. -ы, жан.* Зайздросная, здольная зрабіць камусьці шкоду. У хáту такôй крывôтніцы ніхтó дзьверэ̂й не аччы́ніць. Барб.

КУ́БЛІЦЦА *-юся, -ішся, незаконч.* 1. Рабіць кубло (гняздо), дзе курыца збіраецца класці яйкі (гл. *кубло́* і *кублéчка* ў вып. 1959 г.). Рабéнька скóро пачнé нéсьціся, на палáтках на салóме кýблілася. Кл. 2. Перан. Доўга, працяглы час прыладжвацца. Німá, каб лёг і спаў. Дак бýдзе кýбліцца мо’ час. Кл. Зь йім ні маглá êхаць (на возе). Што часíны кýбліцца й кýбліцца. То сьпíна забалêла, то нагá самлêла, то йшчэ якóе лíха. Пас. Я. К.

КУ́ЗЮ-КУ́ЗЮ-КУ́ЗЮ! і КУЗЬ-КУЗЬ-КУЗЬ! Так падзываюць жарабя. Кл.

КУ́ЗЯ *р. -і, жан.* Жарабя (звычайна *жарабя́*), *памянш.-ласкальн. кýзька, кýзячка.* Пабáцьце (пабачце), якáя кýзя харóшанька! Пас. Я. К. Параўн.: *кузя́тка.* Трасц. Барыс. р-на.

КУЛДЫКНУ́ЦЦА *-ýся, -éшся, законч.* Кульнуцца. Параўн.: у руск. мове *кувыркнуться.* Пярастáнь хадзíць тут. Кулдыкнéсься так, што й шукáць ніхтó ні бýдзе. Кл.

КУЛЯ́СТЫ *прым.* Так называюць пароду галубоў, якія ўзлятаюць высока і стрымгалоў кідаюцца ўніз. Нам з Бабрýйска прывéзьлі кулястых галубôў. Казáлі, ў Ры́зе отó багáта галубôў! Глуск.

КУ́ПІСТЫ *прым.* Куп’істы. У гáці былó аднó кýп’е, а ц[е]пéр такóе пóле, што й не нôйдзеш, дзе тóе кýпістае мêсто. Кл. 2. Перан.

Прысадзісты (пра чалавека). Кл. Нізкі, але ку́пісты, дак на яго́ каза́лі каме́ль. Кл.

КУСАМЯ'КА (*кусам'яка*) *р. -і, жан.* Добры, вялікі кавалак (хлеба, сала, мяса). До́бру кусам'я́ку са́ла зьеў, на двôх хапіло б. Кл.

КУ'ТНІЦА *р. -ы, жан., анат.* Похва (у каровы). Кл.

КУ'ЧМА *р. -ы, жан., зняважл.* 1. Нерасчасаныя, збітыя валасы. Гадôў мо' с трына́ццаць, а на галавê ку́чма. Сама́ хай бы рашчэ́свала. Кл. 2. Перан. Тая (той), у каго брудныя, нерасчасаныя, недагледжаныя валасы. Ні дзêўка, а ку́чма. Я й у вôчы ёй каза́ла так. Кл.

**Л**

ЛАМІ'НА *р. -ы, жан.* 1. Ламачына, непатрэбная (зламаная, зношаная) прылада, рэч, кавалак бервяна. Пазьбіра́лі б усê вацётые ламі́ны. Кл. 2. Гультай, лежабо́к. Хіба́ той ламі́на падмо́жэ? У яго́ ў само́го на адну́ печ дроў. Кл. Хіба́ мо' ў салда́тах праву́чаць. Ну, дзе́ ж! Ні зрабіць што, ні зьбêгаць куды́. Ламі́на — й усё. Пас. Я. К. Параўн.: *неўстава́ка.* Карэл. р-н.

ЛАТУ'ТА *р. -ы, агульн.* Неахайны чалавек; тое, што *лаху́дра, лаху́дры* (гл. *лаху́дра* ў вып. 1959 г.); можна меркаваць, што *лату́та* ад *ла́та* (параўн.: *увесь у ла́тах, увесь на ла́тах*). Адназо́ ба́цькі й аднаê ма́ткі, а няро́ўныя дзіця́ткі: адна́ як ля́лька, а друга́я лату́та, надзêне но́вае, а яно́ як старо́е вісíць на ёй. Н. ж.

ЛАЎЧА'К *р. -а́, мужч.* Лаўкач; *лаўча́к* ад *ло́ўкі* (спрытны, умелы), з метатэзай *к* і *ч*. Такі лаўча́к, што й с агню́ ву́скачыць. Байл. Хве́дар

лôўкі быў, ні тóе, што ён. С тым рабіць што — лаўчáк! Кл.

ЛА'ХАЦЬ (*лáх(к)аць*) *-а-еш, -а-е, неперах., незаконч.* Бегаць з настойлівымі пошукамі. Рáніца прыдзе — пабêг, лáхае, каб закурыць. Кл. Каб чагó? А то выпіць лáхкалі с канцá ў кáнец. Кл.

ЛЕНАВА'ТЫ *прым.* Гультаяваты. Лянавáты не сьвіннавáты, прыпéчэ — заварушыцца й схаменéцца. Глуск.

ЛІ'ЗІКІ *р. -аў, адз. няма.* Ласункі (як супрацьпастаўленне трывалай страве, напрыклад мясу, кашы). Тóе дзіця́, што хлêба с сáлам, гуркá ці капýсты з картóпл[е]м зьзêсь, а ні тóе, што лізікаў жджэ́. То салóдзянькаго, то жаўткá б[е]зь б[е]лкá ці б[е]лкá б[е]ж жаўткá. Зуб. Хібá на такíх лізіках растýць? В. Параўн.: *смачнаéды* (смачнаéдаў хóча). Рэч. р-н.

ЛІ'ПІНА *р. -ы, жан., множн. няма.* 1. Ліпавая драўніна. Ліпіна на начôўкі йдзе, хоць на штó лёгка. Байл. 2. Асобнае ліпавае дрэва. Глуск. 3. Белы, бяскроўны. Вéльмі схварэла. Каб бáчылі! Йдзе й саўтáяцца ў бакí, а самá — ліпіна. Пас. Я. К.

ЛІХО'ТКА *р. -і, жан., множн. няма,* ад *ліхó* (гл. *ліхó* ў вып. 1959 г.). Кепска, дрэнна. А наштó Вêры гаварыць і сварыцца? Хіба ёй ліхôтка? На двайíх душэ́ю, на ўсём гатóвам — і хáта й лапáта, усé сваé (усё сваё) — п'яцсóт пéньсяйі. Каб такýю ліхôтку ўсім дóбрым людзям да сьмéрці! Кл.

ЛІХО'ЦЦЕ *р. -я, ніяк., множн. няма, зніжальн.* (пра чалавека). Так называюць злоснага, ліхога (гл. *ліхі* [1] ў вып. 1959 г.). Ах ты маé (маё) ліхôцьце! Чагó ж ты такóе (дзіця) ліхóе?

Кл. Наштó вам чапáць тóе ліхóцьце? Зь éю ж ні ўгуля́яце. Кл. Ах ты чарнóцьце-ліхóцьце (гл. *чарнóцце*)! Барб.

ЛУЗА'НЧЫК *р. -а, мужч.* Спелы арэх, які сам вылузваецца, вывальваецца, з шапачкі. У лузáнчыкі пад вóсянь ці ўвóсянь хадзíць. Хадзí й зьбірáй па зямлí. Кл.

ЛУПА'Ч *р.-á, мужч.,* ад *лупáты* (гл. *лупáты* ў вып. 1959 г.). З вялікімі вытарашчанымі вачыма. Хто лупáты, той лупáч. Хал.

ЛЫГА'ЦЬ *-á-ю, -á-еш, перах., незаконч.* 1. Браць на повад (вала, карову). Чагó стаў? А лыгáць хто пóйдзе? — Сам лыгáй, я табê ні падзёньнік. Кл. Гл. *залыгáць, залы́гваць, злыгáць* у вып. 1959 г. 2. Лёгка і хутка лавіць, хапаць што-небудзь жывое (качак, рыбу), келзаць. Тарэ́нта, дак той усю́ рáніцу на тôй я́мцэ. Бач, лыгáе й лыгáе акунê. Пас. Я. К. Параўн.: З вудай дзядзька шчасце мае: язёў занадзіць і келзае. Я. Колас.

ЛЫ'ГІ *(лы́гі) р. -аў, адз. няма, зняважл.* Доўгія тонкія ногі. На тваê лы́гі тут паўдня́ хады́. Глуск.

ЛЫ'НДАЦЬ *(лы́ндаць, шлы́ндаць) -а-еш, -а-е, неперах., незаконч.* Лынды біць. Кл., Сл. Параўн.: у руск. мове *бить баклуши. Шлы́ндаць* (побач з *лы́ндаць*) ужываецца, мабыць, пад уплывам сінонімаў, якія пачынаюцца з *ш: швэ́ндаць* (*-цца*), *шны́рыць* і інш. Што йім рабíць? Дзень па тым гóрадзе лы́ндалі. Пас. Я. К.

ЛЫ'СІНА *р. -ы, жан.* 1. Лысіна. Такí малады́, а лы́сіна. Сым. 2. Пляма на лобе ў жывёліны. З лы́сінаю рóдзіцца, з лы́сінаю й здóхне. Вольн. 3. Невялікая палянка сярод лесу, сярод

балота. У Сы́цькавум Лу́зе тры лы́сінкі ву́касіў. Дзьвê капê бу́дзе. Кл. 4. Пустыя, голыя мясціны на сенажаці, на пасевах. Ці мо сêялі так, ці штò? Адны́ лы́сіны на ўсёй пшанìцы. Пас. Чырв.

ЛЫ'СІЦЬ *-ш-у, -с-іш, перах., незаконч.* З большага абчэсваць (бервяно, дрэва), рабіць «лысіны», «лысінкі». Кл.

ЛЬ *часціца,* ужываецца ў неазначальных займенніках: *хтоль, штоль, якіль;* у неазначальных прыслоўях: *дзель* (дзе-небудзь), *куды́ль, я́кіль* (як-небудзь). Нашто́ ты, Міша, апара́т е́ты ўзяў? Шчэ хтоль на даро́зе во́зьме да адберэ́. Кл. Хто рабі́цьме, то штоль ме́цьме, а ні рабі́цьмеш, то нічо́го не бу́дзе. Барб. Дай хоць які нôж. Хоць якіль дай, хоць тупы́. Кл. Мо й ні так, мо й ні до́бра зро́бім, але зро́бім. Я́кіль бу́дзе. Кл. Каб я́кіль хоць да Малі́нава дату́пацць. Сл.

ЛЮДНЕ'ЦЬ (*люднêць*) *-е́-еш, е́-е, неперах., незаконч.* Станавіцца лепшым, выхаваным, змяняцца і знешне. Гл. *вы́людняць.* Людзкíе (дзеці) на лю́дзях люднêюць, а наш ні ву́людняў, а папа́ўса. Адзі́н — і той зьêхаў у сьвêт да нêйдзе зь недо́брымі сышо́ўса. Хал. Параўн. прыказку У лю́дзях людне́юць, а ў ле́се дзічэ́юць.

## М

МАЗЕ'ПА *р. -ы, жан. і мужч.* Размазня. Мабыць, слова ўспрынялося з такім значэннем па першай частцы слова *маз-,* параўн.: *мазаць, размазаць.* Хіба́ така́я мазе́па абêд лю́дзкі згату́е? Кл. Нашто́ ж ты сказа́ла на яго́ мазе́па? Барб.

МА'ЛІЦЦА *-юся, -ішся, незаконч.* Паводзіць сябе як малое дзіця, лічыць сябе малым. Німа́ чаго́ ёй усе́ (усё) ма́ліцца. Ро́ўная з ба́цькам, а ўсе (усё) мале́нька, ўсе (усё) ма́ліцца. Кл. Параўн.: Усё малішся. Гады недзе скруціла, урвала. І. Пташнікаў.

МАМА'Й *р. -я, мужч., зняважл.* Дужы, здаровы, але неразумны. Хіба́ с тако́га мама́я толк бу́дзе? Ні на што́ ён ні на́ўчыцца. Кл.

МАНЬКУ'ХА (*манькýха, манькуціха*) *р. -і, жан., зняважл.* Ілгуння. Пута́ясса (пытаешся), што ето манькýха? Бо ма́ніць, то й манькýха, манькуці́ха. А то ка́жуць, манькýт. Ці на ба́бу, ці на мушчы́ну, як ма́ніць, то ска́жуць: «Манькýт ве́льмі». Кл. Гл. *манькýт, мане́й, мане́ка* ў вып. 1959 г. Манькуці́ха — ад *манькýт.* У тае̂ манькуці́хі ці до́йдзеш пра́ўды? Ці разьб[е]рэ́ш, чыя́ пра́ўда, а чыя́ не? Пакôйны ба́цько казаў, што ў яе ні язык, а саба́чы хвôст. Кл.

МАНЬКУЦІ'ХА гл. *манькýха.*

МЕ'ЛЕНЫ *прым. (дзеепрым.).* Параўн.: *ме́лены* і *мялю́.* Карміць сьвіньне́й лêпей ме́ляным, цэ̂лае на ко́рму ні та́к. Байл. Ме́ляны пе́рац. Кл.

МЕЛЯЯ' *р.-і, агульн.* Той, хто меле языком, бясконца многа і пустога гаворыць. Параўн.: у руск. мове *пустоме́ля.* Над Рыгôрчыкаваго німа́ меляйі. Так і ба́ба ні адна́ ні ўмêе. Кл. І гаво́рыць, і гаво́рыць, і гаво́рыць,— а ўсе (усё) тôлькі ме́ле, вêдамо — м[е]ляя́. Кл.

МЕ'СЦЕЧКА (*мêсьцячко(а)*) *р. -а, ніяк.* Мясцінка. Паслýхаяш, дак пакажý мêсьцячка — чо́рна я́гад. Кл. Я зна́ю тако́е мêсьцячка, дзе грыбôў хоць касо́ю касі. Пас. Я. К. У цябе́

мêсьцячко дóбрае. Кл. Параўн.: у руск. мове *местечко.*

МЕ′ША *р. -ы, жан.* Страшыдла, уяўная пачвара, што «блукае ноччу», «сядзіць у цёмным кутку»; *мéшаю* палохаюць малых дзяцей. Чагó ты йдзеш у сêнцы? Там мéша. Ні йдзì! Плáкаць? Маўчы́, а то мéша ў сêнцах. Пас. Я. К.

МО′ЛАНЫ *прым.* (*дзеепрым.*). Молаты. Е й пшанíца, е й жы́то, й ячмéнь. Але ўсе (усё) нямóланае. Кл. Гл. *мéлены.*

МУ′СІБЫЦЬ (*мýсіб*(*у*)*ыць*) *пабочнае слова.* Мабыць, мусіць. Ужываецца побач з *мáбыць* (апошняе часцей). Ты, мýсібуць, адзíн зьêзьдзіш: нêшто сьпíна пабóльвае мнê. Кл. Параўн.: Ты мýсібыць, пальчáткі обміняць хóчаш. Бярэз. р-н.

МУТ *р. -у, мужч.* 1. Муць (БРС). Зьбярôмся, змýцім вóду, мýту нарóбім, дак ры́ба наверх тôлькі хапáй. Глуск. Вадá вéльмі мýтна. Чагó ты́е вудакí стая́ць? Хібá такíм мýтам злóвіш ры́бу? Кл. Стаў пацсáку (гл. *падсáка* ў вып. 1959 г.) ў мут, а я пабóўтаю, то ў мýт пôйдзе ры́ба сьмелêй. Пас. Я. К. Каб мут асêў. Кал. 2. Блытаніна, заблытанае разуменне, тлумачэнне. А што ён? Пра што тôлькі — ў ягó вêк мут. Зь йім ні разьбярэ́сься. Глуск. 3. У фразеалагізме *мýту напусцíць* (*мýту нарабíць*). Зразумелае і відавочнае падаць як незразумелае, загадкавае. А ён тут вукрýчваўса, дак тôлькі мýту напусцíў. Кл. А ты б расказáў, як былó. Чагó ты мýту нарабíў? Глуск. Параўн.: той мут (мужч.). М. Багдановіч; чэшск. *rmut* (мужч.), серб. *мутеж* (мужч.).

МЯЛЬЧА′К (*ме*(*я*)*льчáк*) *р. -á, мужч.* Не-

глыбокая мясціна ў рэчцы, сажалцы, бродзе. Печкурэ̂ лю́бяць на мяльчаку́. Кл. Не йдзе̂це на глыбо́кае, на мяльчаку́ купа́йцяся. Пас. Я. К. Тут я́му ву́мыло, а там мельча́к стаў: нагна́ло песку́. Байл.

МЯНЁК *р. -ньк-а́, мужч.* Мянтуз (Lota Lota). Параўн.: літоўск. *menke.* Німа такіх сма́чных пупкô ў (гл. *пупо́к* 2), як зь мянькôў. Кл. Найлêпей лавіць мянькôў узімку, ў пілі́паўку. Пас. Я. К.

## Н

НА *прыназ.* 1. З *він. скл.* пры абазначэнні прадмета, на якім іграюць. На балала́йку ву́чыцца йграць. Сым. Той до́бра гра́е на балала́йку. Хал. Параўн.: На ба́ян так ло́ўка йгра́я. Чэрвень. Сустракаецца як новае і спалучэнне з *месн. скл.* Умêе граць на гармо́ніку. Хал. 2. З *він. скл.* пры абазначэнні любой працы, звязанай з нарыхтоўкаю сена, у спалучэнні з дзеясловамі *е́хаць, ісці́.* Паêхалі на сêна (касіць траву, растрасаць пракосы, грэбці сена, зносіць копы, скідаць стагі і г. д.). Усê да аднаê душы́ пашлі́ на сêна. Пас. Я. К. 3. Пры абазначэнні аб'екта размовы ў спалучэнні з дзеясловамі *каза́ць, гавары́ць, свары́цца, крыча́ць* і інш. Упікну́ў яму́ старшыня́, а ён і ка́жа на старшыню́: «А сам старшыня́ хіба́ ўмêе?» Н.-Андр. 4. Пры абазначэнні аб'екта, якім з'яўляецца сельскагаспадарчая культура, у спалучэнні з дзеясловамі *ара́ць, драпакава́ць.* А ў нас на жы́та пачалі́ ара́ць (араць поле, на якім пасеюць жыта). Вольн. На картôплі мо́жна ўво́сень і ні ара́ць. Кл. Па́пар на жы́то ўвéсну мêлянько ару́ць. Байл. 5. Пры абазначэнні

аб'екта ў спалучэнні з прыметнікамі *багаты, бéдны, слáбы* і інш. Ты ні багáты на табáк? Н. ж. На м'ёд сёлята год бêдны. Кл. Ты слабы́ на жывôт, то й ні падымáй калóды. Кл.

НААПО'РВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., закончн., ад апóрваць* (гл.). Схадзí наапóрвай сьлíвак. Пас. Я. К. І дзе ты наапóрваў такíх кручкóў? Кл.

НАБАТАВА'ЦЬ *-ý-ю, ý-еш, неперах., закончн.* Насварыцца на каго-небудзь, але ціха, няголасна і нязлосна, павучальна. Гл. *пабатавáць.* Жэ́ня ж мôй харóшы. Набатавáла на ягó за грóшы й шкадýю: у ягó й свôй рóзум ужэ е. Пас. Я. К. На егó набатýеш, а ён пры́дзе й як нічóго не былó. Барб.

НАБА'ЧЫЦЦА *-уся, -ышся, закончн.* Многа пабачыць, убачыць. За сваé (сваё) жыццé нарабíласа, нахадзíласа. А чагó тôлькі набáчыласа! Чагó тôлькі наглéдзеласа! Кл.

НАБУ'ХАЦЦА [1] *-а-юся, -а-ешся, закончн.* Многа выпіць. Набýхаясса квáсу, што жывôт забалíць. Кл. Дарвáўся да чужóго, так набýхаўся, што нôг ні зьмêніць. Барб.

НАБУ'ХАЦЦА [2] *-а-юся, -а-ешся, закончн.* Накашляцца (пры цяжкім і частым кашлі). Галавá балíць с кáшлю. Цалю́ткі дзень, усéньку нôч бух і бух. Набýхалася, што галавá развáльваяцца й вóчы баля́ць. Пас. Я. К.

НАБУ'ХАЦЦА [3] *-а-юся, -а-ешся, закончн.* Напáдацца. Пачынáла хадзíць, дак бух і бух. За дзéнь набýхаяцца, дак уся ў сінякôх. Барб.

НАВАЛАКЦІ' (*навалакцí*(*чы́*)) *-к-ý, -ч-эш, перах., закончн.* Навалачы́. Тагó скóра разабрáлі, але ўжэ пасьпêў навалакці казённае адзéжы. Н. ж.

НАВЕ́СЦІ (*навéсьці*) *-д-ý, -дз-éш, перах., законч.* 1. Завесці, прывесці. Наштó нав[е]лá пôўну хáту дзяцéй? Тôлькі падлóгу замарáлі, пяскý нанéсьлі. Пас. Я. К. 2. Паказваючы дарогу, прывесці каго-небудзь да каго-небудзь ці чаго-небудзь. Судзíлі ж судóм тагó, што наўёў на парцізáнаў (на партызанскую стаянку). Глуск. 3. Навастрыць. Дай, навядý вам пілý. Хібá такóю тупóю рэ̂заць? Кл. Маé (маё) жалязка ў гэбліку ступìлася. Трэ́ба як навéсьці. Глуск. 4. Нараджаць. Багáта сьвіньня́ парася́т навялá? Н. ж. 5. Наразводзіць, нагадаваць. На тры́ душы́ хібá стôлькі рабíць (працаваць) трэ́ба? Усé (усё) мáло вам. Падумаць: пóўны двôр курэ́й, індыкí, гусéй нав[е]лí. Глуск. 6. Наладзіць (музычны інструмент). Сьцíхніце, хай нав[е]дзé скры́пку. Пас. Чырв.

НАВІ́ЛЬВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, з він. і без яго, незаконч.* Гл. *падві́льваць.* Так падвільваць, каб мяч апускаўся на таго, хто павінен біць па мячы; навільваць — падаваць так, каб праціўнік не мог далёка паслаць мяч. Кл.

НАВЫЗБІ́РВАЦЬ (*навы(у)зьбíрваць*) *-а-ю, -а-еш, законч.* Гл. *вы́збіраць, вызбíрваць.* Ідзêце, навызьбíрваяце йгрýшак. Кл. С травы́ навузьбíрвалі. Кл.

НАВЫСМЫ́КВАЦЬ (*навусмы́(ý)кваць*) *-а-ю, -а-еш, законч.,* ад *высмы́кваць* (гл.). Брыгадзíр хацêў наманíць, навусмýкваў бôльшаго лёну да ў раён пасылáў: пабáцьце наш лён. А ты́е хібá дурны́е? Ягó й цóпнулі за рýку. Кл.

НАВЫЦАЦКО́ЎВАЦЬ (*навы(у)цацкôўваць) -а-ю, -а-еш, перах., законч.* Гл. *вы́цацкаваць, выцацкóўваць.* Бувáло на п'я́цянку на-

НАВЕ′СЦІ (*навéсьці*) *-д-ý, -дз-éш, перах., законч.* 1. Завесці, прывесці. Нашто́ нав[е]ла́ пôўну ха́ту дзяце́й? Тôлькі падло́гу замара́лі, пяску́ нане́сьлі. Пас. Я. К. 2. Паказваючы дарогу, прывесці каго-небудзь да каго-небудзь ці чаго-небудзь. Судзі́лі ж судо́м таго́, што наўёў на парціза́наў (на партызанскую стаянку). Глуск. 3. Навастрыць. Дай, навяду́ вам пілу́. Хіба́ тако́ю тупо́ю рэ̂заць? Кл. Мае́ (маё) жаля́зка ў гэ́бліку ступі̀лася. Трэ́ба як наве́сьці. Глуск. 4. Нараджаць. Бага́та сьвіньня́ парася́т навяла́? Н. ж. 5. Наразводзіць, нагадаваць. На тры́ душы́ хіба́ стôлькі рабі́ць (працаваць) трэ́ба? Усе́ (усё) ма́ло вам. Падумаць: по́ўны двôр курэ́й, індыкі́, гусе́й нав[е]лі́. Глуск. 6. Наладзіць (музычны інструмент). Сьці́хніце, хай нав[е]дзе́ скры́пку. Пас. Чырв.

НАВІ′ЛЬВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, з він. і без яго, незаконч.* Гл. *падві́льваць.* Так падвільваць, каб мяч апускаўся на таго, хто павінен біць па мячы; навільваць — падаваць так, каб праціўнік не мог далёка пасляць мяч. Кл.

НАВЫЗБІ′РВАЦЬ (*навы(у)зьбі́рваць*) *-а-ю, -а-еш, законч.* Гл. *вы́збіраць, вызбі́рваць.* Ідзêце, навызьбі́рваяце йгру́шак. Кл. С травы́ навузьбі́рвалі. Кл.

НАВЫСМЫ′КВАЦЬ (*навусмы́(у́)кваць*) *-а-ю, -а-еш, законч.,* ад *высмы́кваць* (гл.). Брыгадзі́р хацêў наманіць, навусму́кваў бôльшаго лёну да ў раён пасыла́ў: паба́цьце наш лён. А ты́е хіба́ дурны́е? Яго́ й цо́пнулі за ру́ку. Кл.

НАВЫЦАЦКО′ЎВАЦЬ (*навы(у)цацкôўваць*) *-а-ю, -а-еш, перах., законч.* Гл. *вы́цацкаваць, выцацко́ўваць.* Бува́ло на п'я́цянку на-

Хацêлі надукава́ць, каб разьбіць йіх. А ён: «Мнê зь е́ю жыць!» Барб.

НАЗНАРАКІ′ *прысл.* Назнарок, знарок (ужываюцца і *знаро́к, назнаро́к*). Ты, му́сіць, назнаракі́ ёй сказа́ла? Хал. Ці ду́маць? Назнаракі́ пе́рлася за сьвêт. А тут пацалу́й у прабо́й і верта́йся дамо́й (звычайна *дадо́му;* ужыванне *дамо́й* тлумачыцца рытмічнымі ўмовамі). Сл.

НАКАСЯ′К *прысл.* Перакошваючы, абыякава, няправільна. У прымаўцы Сяк, так, накася́к, абы не па-лю́дску.

НАКЛЮ′НУТАЕ *дзеепрым.,* ужываецца ў спалучэнні са словам *я́йка.* Ужэ́ ўсê (яйкі) наклю́нуліся (г. зн. у шкарлупіне з’явіліся трэшчыны, хутка павінны вылупіцца птушаняты), тôлькі адно́ н[е]наклю́нутае. Кл.

НАЛАЗУРКАВА′ЦЬ *у́-ю, -у́-еш, перах., законч.,* ад *лазуркава́ць* (гл. *лазуркава́ць* у вып. 1959 г.). Нападсіньваць, падсініць, нападсіньваць. Мая́ Га́нна лю́біць лазуркава́ць (бялізну). А сёні ні налазуркава́ла й шкаду́е. Кл. Налазурку́йма й мы сваё. Кл.

НАЛА′ПІЦЬ *-пл-ю, -п-іш, перах., законч.* Налажыць, нашыць латку. Нала́піць кажу́х. Нала́піць сьвіту. Каму́ ла́піць, каму́ шыць, каму́ м’ёд, гарэ̂лку піць. Кл.

НАЛА′ХАЦЦА (*нала́х*(*к*)*аца*) *-а-ешся, -а-ецца, законч., зніжальн.* Набегацца ў пошуках. Гл. *ла́хаць, пала́хаць, папала́хаць.* Ці мнê? Немавêд чаго́! Нала́хкаласа за дзе́нь. Кл.

НАЛУПЦАВА′ЦЬ *-у́-ю, -у́-еш, перах., законч.,* ад *лупцава́ць.* Што́ ты ўсе (усё) так гаво́рыш? І слу́хаць ніхо́рашэ: «лупцава́ць, налупцава́ць...» Лупцôўкаю ні пяраста́віш. Кл.

НАЛЫГА'ЦЬ *-á-ю, -á-еш, перах., законч.*, ад *лыгáць* (гл.). 1. Набраць на повад (валоў, кароў) (гл. *залыгáць, залыгваць, злыгваць, злыгіч* у вып. 1959 г.). Налыгáлі валôў дванáццаць, на бôйню завядýць. Кл. 2. *Перан.* Налавіць вудачкаю буйных рыбін. За рáніцу такíх акунёў налыгáў, што пóўнае вядрó налажыў, усé (усё) на яме, ля мóсту. Кл. О, брат, налыгáў! Да ўсê (акуні), як адзíн. А я дýмаю, штó еты Тарэнта ўсю чысьцянька рáніцу зь ямы ні схóдзіць? А ён, брат, акунê лыгáе. Кл.

НАПАВІДО'КУ *прысл.* Тое, што і *напавідóцы* (гл. *напавідóцы* ў вып. 1959 г.). Далéко (ад вёскі пасвіць) байíцца, а тут усé (усё) напавідóку. Хал.

НАПАДДУКО'ЎВАЦЬ (*напа(у)ддукôўваць) -а-ю, -а-еш, перах., законч.* Гл. *дукавáць*. Старáя нападдукôўвала, дак і сварыліся. Кл. Дзяцíны, вêдамна, нівялíкі рóзум, на штó хóчаце йіх мôжно напуддукôўваць. Барб.

НА'ПАЛ *прысл.* Напалáм, на дзве роўныя часткі (ужываецца і *напалáм*). Разрэж нáпал. Кл. Ты нáпал разламí. Я й так, бясь цябé напалáм дýмаю разьдзялíць. Кл.

НАПАРО'ЗНІК (*напарôзьнік*) *р. -а, мужч.* Гл. *напарóзніца*.

НАПАРО'ЗНІЦА (*напарôзьніца*) *р. -ы, жан.* Жанчына, якая, зайшоўшы да кагосьці на часінку, доўга стаіць на парозе (ля парога, ля дзвярэй) і гаворыць, пытаецца. Бáбы адны напарôзьніцы? А мушчыны й не? А ватэты які? Напарôзьнік. Сл. Бач, ужэ сýняцца напарôзьніца тáя: «Я тôлькі на часíнку...» Сл.

НАПА́ШЧАНЫ *дзеепрым.* Ста́лі жаць, дак малака́ прыба́віла карôўка. Напа́шчана прыхо́дзіць, тôлькі пôйлячка яко́га дай. Кл. Ты нінапа́шчаных (кароў) ніко́лі ні прыганя́яш. Стара́ясься напа́сьціць. Пас. Я. К. Як ні напа́шчаные ко́ні, а патко́рміш, то лêп[е]й бу́дзе. Байл.

НАПРО́ВЯСНЕ (*напро́вясьне*) *прысл.* 1. На самым пачатку вясны. Нêяк напро́вясьне, 'шчэ ні сусі́м весна́ була́, прысла́ў гро́шай. Кл. 2. Увесну. Напро́вясьне, ужэ́ зеленêць ста́ло усе́ (усё), ве́льмі ця́жку блака́ду рабілі. Стр. Параўн.: з такім самым значэннем *напро́весне* ў гаворцы Давыд-Гарадка.

НАРАБІ́ЦЦА *-л-юся, -ішся, законч.* Напрацавацца. За свае́ (сваё) жы́цьце нарабі́ласа, нахадзі́ласа. А чаго́ тôлькі наба́чыласа! Кл. Хіба́ так цяпе́р жыву́ць? Хіба́ стôлькі ро́бяць? Бува́ло наро́бісса за дзе́нь, по́куль пры́дзеш з Заграбе́льля, нôг ні пацягці́. А гаспада́рку ж дагле́дзь. Нарабі́ўся ні нарабі́ўса — дагле́дзь. Кл. С твайі́м здарôўям, сыно́к, за вêк наро́бісься. Пас. Я. К.

НАРЭ́ЗКА (*нарэ̂зка*) *р. -і, жан.* Вузкая палоса сенажаці. У твайго́ ба́цька сянако́су ці було́ тры дзесяці́не, а нарэ̂зак мо' два́ццаць. Кл. Параўн.: *заго́н* — вузкая палоса поля. Кл.

НАСПО́РВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, законч.,* ад *спорваць* (гл.). Хадзêце, дзя́дзько, я вам сьлі́вак наспо́рваю. Кл. Нашто́ наспо́рвалі ластаўчаня́так? Пас. Я. К.

НАСТРЫ́КА́ЦЬ *-а́-ю* і *-а-ю, -а́-еш* і *-а-еш, перах., законч.* Насцябаць крапівою. Крапі́ваю настры́кала. А кажу́ць, што крапі́ваю й лê-

чаць, настрыка́юць баля́чае мêсто, дак го́йіцца. Кл. Пара́ўн.: такое самае значэнне *настрíка́ць*. Мсцісл.

НАТА'ЛІ'ЦЬ *-ю* і *-ю, -íш* і *-іш, перах., законч.* Задаволіць, насыціць жаданне, патрэбы. Завíснага ні ната́ліш, а мёртваго ні паста́віш. Кл. Пара́ўн.: ...пражора, так што яго нічым не наталіш. А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926.

НАЎЧЫНЯ'ЦЬ *-я́-еш, -я́-е, перах., законч.* Гл. *учыні́ць* [1], *учыня́ць* [1]. Хадзêм дадо́му, наўчыня́ям ала́дак, а то пагавары́лі пра ала́дкі, дак захацêлася. Кл.

НАХАРАШЫ'ЦЬ *-у́, -ыш, перах., законч.,* ад *хараш*ы́*ць* (гл.). За дзе́нь таку́ю ку́чу буракôў нахараш*ы́*ла! Паба́ч: усê адзíн у адзíн. кру́глянькіе, на ўсю́ ку́чу мо' два́ццаць расама́тых. Такíе нахаро́шаные до́бр[э] пры́муць. Кл. А нахараш*ы́*ўшы, закапа́ям, к весьнê. Пас. Я. К. Ты б прыêхала й нахараш*ы́*ла сабê капу́сты, шко́да ж аддава́ць каро́ве. Н. ж.

НАХЛІ'СТАЦЦА *-а́-юся, -а́-ешся, законч.* Насёрбацца. Ве́льмі спа́сны Алексе́й, по́куль закуры́лі, ён і нахліста́ўся. Кл. Нахліста́ўшыса, ні пако́сіш. Байл. Кру́пніку нахлíстаўся, а паку́ль рабíць—êсьці хацêцьмеш. Кл.

НАЦУКРАВА'ЦЦА *-у́-юся, -у́-ешся, законч.* Наласавацца, здаволіцца, атрымаць асалоду (гл. *цукро́ўка* ў вып. 1959 г.). Былí ў го́сьцях, ну й нацукрава́ліся: што тôлькі хо́чаш! Глуск. Дож ліў, а мы ў садку́, ў Рэ́йтанаў. Пад я́блынамі бêло. Якíх тôлькі хацêлі. Ада́ле давалí йім (гаспадарам саду) самíм я́блык. І нацукрава́ліса, й нарагата́ліса. Кл.

НАШПУЛЯ'ЦЬ (*нашпы(у)ляць*) *-я́-ю, -я́-еш, перах., законч.,* ад *шпуля́ць* (гл.). Набіць. Што ты зь йіх кпіш? Такі ўжэ здараве́ц (гл. *здараве́ц* у вып. 1960 г.)... Само́го ў Адэ́лі нашпуля́лі й маўча́ў. Н. ж.

НЕ'ГАДЗЬ *р. -і, жан., множн. няма.* Непагадзь, непагода. Тако́ю не́гадзьдзю ваўкачэ́ча цяга́яцца. Вайц. За не́гадзь хаць вы́сьплюся. Кл. Бага́то сêна зь не́гадзі прапа́ло. Кл. У не́гадзь па̂сьціць тру́дно. Байл. У не́гадзь ўся́ка ваўкарэ́зіна цяга́яцца. Вайц.

НЕДАЛЕ'ТАК *мужч.* Параўн.: у руск. мове *несовершеннолетний.* Параўн.: кніжн. *непаўнале́тні.* У Байлюко́х нядалêткі й дзяды́ ўжэ нарабілі сêна на ўсю́ зі́му. Кл. А што ён? 'Шчэ нядалêтак. Зуб. Ці нідалêтак, ці падрôстак. Кл.

НЕДАПЕ'КА *р. -і, агульн., зняважл.* Прастак, прыдуркаваты. На прастака́ ска́жуць: «нідапе́ка». Кл. У ту́ю палі́цаю йшлі то валача́шчыя які́я, то недапе́кі ўся́кія. Лю́дзкі ў палі́цыю пашôў бы? Не! Глуск.

НЕЗДАЛЕ'КА *р. -і, агульн.* Той, у каго мала фізічнай сілы (гл. *нездале́ць, нездале́тны* ў вып. 1959 г.). Дзе таму́ ніздалêку жаніцца? Глуск. Ро́зуму не ве́льмі што й нездалêка. Хал.

НЕЗДАЛЕ'ТНІК *р. -а, мужч.* Нямоглы, фізічна слабы. А ты й зма́лку ніздалêтнік. Кл. Гл. *нездале́тны, нездале́ць* у вып. 1959 г.

НЕЗДАЛЕ'ТНІЦА *р. -ы, жан.* Нямоглая, фізічна слабая (гл. *нездале́тны, нездале́ць* у вып. 1959 г.). Дзе мнê, старôй нездалêтніцы, у ты́е гры́бы паўзьці? Н.-Андр.

НЕ'ЙЧЫ *займ.* Нечы (тут *ней-*, як і ў займенніку *нейкі*). Нêйчы сабáка шшалêў у Касáрычах. Хал. За сваê грóшы хібá? За нêйчые вы́піў. Кл. Ішлí па вýліцы. Бáчу — кашалёк. У кашалькý пáшпарт, папêркі ўсякія. Я ў міліцаю. Пабáцьце тут нêйчы кашалёк і нêйчые дакýманты. В. У йіх свайíх (грабляў) німá, а, кáжаш, з нêйчымі пашлí грэ́бці. Пас. Я. К.

НЕ'КАЛІ *прысл.* Калісьці, бывала. Нêкалі ўсê выцацкôўвалі (гл.) рушнікí. Кл. А вы́цацкаваные сваê харашэ̂йшые за куплёные рушнікí. Сл.

НЕНАВІ'ДНІК *р. -а, мужч.* Мізантроп. Параўн.: у руск. мове *человеконенавистник.* Такóму нінавíднiку нікóлі ніхтó ні ўгóдзіць. Ён сам сябé нінавíдзіць. Такáя й сястрá ў ягó нінавíдніца. Ні людзі, а нінавíднікі. Кл. Гл. *ненавіснік, ненавідніца, ненавісніца.*

НЕНАВІ'ДНІЦА *р. -ы, жан.* Гл. *ненавіднік.* Такóе ненавíдніцы на сьвêце німá. Барб.

НЕНАВІ'СНІК *р. -а, мужч.* Той, каго ненавідзяць. Два сыны́, дак адзíн нінавíднік (гл.), а другí нінавíсьнік. А бáцько ў йіх буў чалавêк як чалавêк. Кл.

НЕНАВІ'СНІЦА *р. -ы, жан.* Тая, якую ненавідзяць. Гл. *ненавіснік.* Дзíво, што ўсім нінавíсьніца? Яна крывôтніца (гл.) вéльмо. Барб.

НЕНАЕ'ДНІЦА *р. -ы, жан.,* ад *ненаéдны* (гл. *ненаéднік* у вып. 1960 г.). Тýю нянаêдніцу хібá зямлю́ сырáя накóрміць. Глуск. Параўн.: Свёкар быў звер і скупеча, «зямля ненаежная». Я. Брыль.

НЕПАТРЭ'Б'Е *р. -я, ніяк., множн. няма.* Непатрэбнае, нявартаснае (пра рэчы). Вêда-

ма, пяраяжджа́ючы, адны́ збы́ткі. Стра́ты то̂лькі. Як ту́т, то й то́я, й то́я трэ́ба, а пяраво́зіць — ніпатрэ́б'я. Глуск.

НЕПАТРЭ'БНІК р. -а, мужч., зняважл. (як сведчанне былых адносін). Непатрэбны (пра чалавека), той, хто адбіўся ад людзей і людскіх спраў. Чаго́ ты хо́дзіш, што не̂йкі ніпатрэ́бнік? Чаму́ табе̂ нічо́го ні трэ́ба? Ідзе́, дак ду́маяш, ён дрэ́мле. Со́ўгаяцца (гл. *со́ўгацца* ў вып. 1959 г.), як ніпатрэ́бнік. Кл. Саслабе̂ў, што й гавары́ць німа́ чаго́. Усядно́, як н[е]патрэ́бнік які. Кл. Гл. *непатрэ́бніца, непатрэ́бшчына.*

НЕПАТРЭ'БНІЦА р. -ы, жан. Гл. *непатрэ́бнік, непатрэ́бшчына.* А хіба́ ўжэ я ніпатрэ́бніца? Я тут лі́шня? Кл.

НЕПАТРЭ'БШЧЫНА р. -ы, жан., множн. няма. Тое, што не мае каштоўнасці, вартасці. Завалі́лі кладо̂ўку ўся́каю н[е]патрэ́бшчынаю, што ні ўле̂зьці. Кл. Нагавары́лі не̂йкае ніпатрэ́бшчыны. Кл. Пабáч, чаго́ тут то̂лькі!.. Трэ́ба е́тае каму́? Нашто́ тут така́я ніпатрэ́бшчына? Завалі́лі ўся́каю ніпатрэ́бшчынаю. Глуск. Параўн.: І сапраўды прадстаўнікі: сустрэліся працоўныя двух суседніх народаў. Дагэтуль яны не сустракаліся яшчэ ні разу як гаспадары жыцця, і ад гэтага, відаць, так многа было на свеце ўсякай непатрэбшчыны. Я. Брыль. Гл. *непатрэ́бнік, непатрэ́бніца.*

НЕСУСВЕ'ТНІК р. -а, мужч. Нялюдскі (гл. *нялю́дскі* ў вып. 1959 г.); такі нядобры, якога «ў свеце няма». Чаго́ ты с тым нісусьве̂тнікам хо́дзіш? Хіба́ да дабра́ дахо́дзісься? Пас. Я. К. Гл. *несусве́тніца, несусве́тны.*

НЕСУСВЕ'ТНІЦА (*нісусьвêтніца* і *н[е]сусьвêтніца*) *р. -ы, жан.* Гл. *несусвéтнік.* Н[е]сусьвêтнік ці н[е]сусьвêтніца — дак тóе сáмае. Е н[е]сусьвêтнікі й н[е]сусьвêтніцы. Паліцáйі н[е] людзí, а н[е]сусьвêтнікі. Хал.

НЕСУСВЕ'ТНЫ *прым.* Гл. *несусвéтнік.* Ці ж вêрыць йім? І дачкá й мáці нісусьвêтные манькуты́ (гл. *манькýт* у вып. 1959 г.). Кл. Валацýга ты н[е]сусьвêтны. Зуб. У тагó нісусьвêтнаго гультая́ хібá што бýдзе лю́дзкае? Пас. Я. К. Гл. *несусвéтнік, несусвéціца.*

НЕСУСВЕ'ЦІЦА *р. -ы, жан.* Мана (гл. *святáя манá* ў вып. 1959 г.), абы-што. Прыхóдзіў, малôў нêйку несусьвêціцу. Хал.

НЕЎСПАДЗЕ'ЎКІ *прысл.* Неспадзявана (ужываецца і *неспадзявáна*). Шукáла, прапýтвала — ніяк. А тут н[е]ўспадзêўкі — сáмі панажэ̂ (гл. *панажы́* ў вып. 1959 г.) ў хáту прышлí. Я, бач, забýласа спутáць у ц[е]бé. Кл. Вêра шчасьлíва. Ўсе (усё) жыцьцé лёгко жылá. А тут н[е]ўспадзêўкі зяця такóго ўзялí. Грóшы штомêсяца йдуць. Кл. Параўн.: Неўспадзеўкі дзіця ў дзеўкі (прымаўка).

НЕЎСТАВА'КА *р. -і, мужч. і жан.* 1. Гультай, з расслабленаю воляю, бестурботны. Такóму неўставáку й ты́сячаю ні памагцí. Стр. 2. Знясілены. Сл. Параўн.: Хібá с такíмі неўставáкамі зрóбіш? Сін. Слаб. Карэл. р-на.

НЕ'ХТАЧКА (*нêхтачко(-а)*) *форма ацэнкі* ад *нéхта.* А ў нас нêхтачка е! Ўгадáй, хто ў нас. Пас. Я. К.

НЕ'ЧАГА (*нêчаго(а)*) 1. *Займ.* Чагосьці. Нечаго набралі цэлы мех. Кл. А я ж вам нечага прывёз. Пас. Я. К. 2. *Прыслоўе прычыны.* Ча-

госьці, з нейкае прычыны, дзеля чагосьці. Чагó ён прыхóдзіў? Нéчага трэ́ба былó. Кл. Нêчаго зьêхаліся ўсê з Малíнава, з Байлюкóў, з Бая́нава, Бярэ́жак. Пас. Я. К.

НЕ'ШТАЧКА (*нêштачко*(*а*)) *форма ацэнкі* ад *нéшта*. От у м[е]нé е нêштачка расказáць! Ні чýла ты!.. Барб. А я нêштачко знашóў. Хал.

НІК *выклічнікава-дзеяслоўнае слова* тыпу *хоп, кідзь, бах*. Тôлькі ў хату — то нік сюды́, то нік туды́. Кл. Гл. *нікаць*. Параўн.: *нык*. Мсцісл.

НІ'КАЦЬ *-а-еш, -а-е, неперах., незаконч*. Заглядаць, куды не просяць, не жадаюць. А чагó я туды́ бýду нікаць? Хібá чагó ні бáчыў? Кл. Пры́дуць — то ўсю́ды апшáраць. Нікаюць бяс канцá. Сюды́ нік, туды́ нік. Ні хóчу, каб хадзілі да нікалі тут. Кл. Параўн.: *ны́каць*. Мсцісл.

НІЧО'ГЕНЬКІ *прым., форма ацэнкі* ад *нічóгі* — слабы, кволы (гл. *нічóгі* ў вып. 1959 г.). Ці ж жы́цьме такóе нічóг[е]нькае куранятко? Барб. Разýмны й вýчыцца дóбрэ, але ж нêйкі вéльмі нічóг[е]нькі; êсь мáло, слабéнькі. Барб.

НО! *выклiч*. Ну! Так паганяюць каня. Но! Сівы! Хал. Нó, пашлí, кóнікі! Кл. Нó! Каб здôх! Чуць крáтаяцца. Вольн.

НО'КАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.*, ад выклічніка *но* (гл.). Ну ты й хурмáн! Тôлькі нóкае. Но й но! Ты рэдко пудганя́й, але пудганя́й, а то ўсю дарóгу нóкае тôлькі! Кл.

НО'КНУЦЬ *-у, -еш, неперах., законч.*, ад *нóкаць* (гл.). На такíх кóнях êхаць дóбра. Тôлькі нóкні — й пабêглі. Сым. Гарáчы (конь),

а Валóдзя па-цыгáнску нóкнуў, дак і па дузê (дуга зламалася). Пас. Я. К.

НО'РА р. нóры, жан. Нарá. Крóтава нóра. Кл. Нóру закапáлі. Кл. Загнáлі (лісу) ў нóру. Пас. Я. К. Крôт на градзê нóру зрабíў. Глуск.

НЫ'РКА р. -і, жан. Нырэц (птушка). Ці стралéц такí, ці стрэльба такáя, а мо' нырка самá — п'яць разôў стрэліў і ні забíў. Кл. Падбíў нырачку за дзéнь — і ўся спажыва. Байл. Увóсень на нáшай яме нырку чáсто бáчым. Пакуляяцца й зьлецíць нéкуды. Кл.

НЯГЕ'ГЛІК (*ніг'éг'лік, няг'éг'лік*) *р. -а, мужч.*, ад *няг'éг'лы* (нямоглы, кволы, няўдалы). Хібá табê, такí няг'éг'лы, зь йім бóрацца? Кл. А хтó за такóга н[е]г'éг'ліка пôйдзе? Барб.

НЯГЕ'ГЛІЦА (*нягéгліца, нігéгліца*) *р. -ы, жан.* Гл. *нягéглік.* Што з вáшаю нягéгліцаю там зрóбіш? Кл.

НЯЗГРА'БНІК *р. -а, мужч.* Нязграбны (пра мужчыну). Хай сабê нязгрáбнік сам, а што зрóбіць — усé (усё) згрáбнае. Глуск.

НЯЗГРА'БНІЦА (*ні(я)згрáбніца*) *р. -ы, жан.* Нязграбная. Гл. *нязгрáбнік.* А дзê каб усíм пáні? Сам які, а на кагó: «нязгрáбніца»... Кл.

НЯЎРЫ'МСТА (*ні(я)ўрымста*) *р. -ы, мужч. і жан.* Той, хто не можа ўбыць, пасядзець на адным месцы, паспешлівы. Такí ніўрымста дзяцéй вучыць не бýдзе. Ямý каб за якóго брыгадзíра. Бяроз. Параўн.: у руск. мове *непоседа.*

НЯЎРЫ'МСЦІК (*ні(я)ўрымсьцік*) *р. -а, мужч.* Няўрымслівы, няўрымста (гл.). А ты ні бýдзь такí ніўрымсьцік. Кл.

ПАБА′НІЦЦА *-юся, -ішся, законч.* Памыцца ў лазні. Сходзім пабаніўшыся ў кіно? Ты пабанься, тагды пра кіно. Трэба й мнê схадзіць пабаніцца. Глуск.

ПАБАТАВА′ЦЬ *-ў-ю, -ў-еш, неперах., законч.* Пасварыцца на каго-небудзь, але нягласна, ціха, нязлосна, павучальна. Ці ж работа? Увуклі па вечарынках бадзяцца. Дак я батаваць стала. А ён, бôльшы, й кажэ: «Стары стану — дак на вечарынкі забуду». Кл. Я й кажу: німа хаткі, дзе німа звадкі. То малое не так зробіць, то старое спамуліцца. Дак хіба за ўсе й сварку на ўвесь сьвêт? Пабатаваць пабатуй, але вачэй вуймаць не трэба. Баян. Пабатавала, а сама думаю: нашто? Кл.

ПАБЛЁЎТАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., законч.,* ад *блёўтаць* (гл.). Паблёўталі (рыбы) й пырасталі. Атышлі нêйдзе. Кл.

ПАБУЯ′ЦЬ *-я-е, -я-юць, неперах., законч.,* ад *буяць* (гл. *буяць* у вып. 1960 г.). 1. Вырасці на націну. У нас пабуялі картоплі. Націна зьлягла, а картоплі — тôлькі завязь. Уюнішчы. 2. Страціць здольнасць хутка рухацца, рэагаваць, адчуваць боль галавы. А мы за лêто мо' па п'яць разôў схадзілі, нанасілі па пуду буякôў, а й раз ні пабуялі. Кл. Цяцярукі пабуяюць і сядзяць, як дурныя. Вайц.

ПАВА′ЖЫЦЦА [1] *-уся, -ышся, законч.* Вызначыць сваю вагу. Спорылі, хто цежэйшы, дай пашлі паважыцца мо' дзе хіба ў кладôўку. Кл.

ПАВА′ЖЫЦЦА [2] *-уся, -ышся, законч.* Паспрабаваць, адважыцца. На жалабу, думаце,

пôйдзе? Ні паважыцца. Н.-Андр. Параўн.: Дні паднявольныя болей не вернуцца; Эх, не надзенуць нам пут... Хай хто паважыцца, хай хто памерыцца — Сам імі будзе ён скут! М. Чарот.

ПАВО́ДЧЫК (*павôджчык, павôччык*) *р. -а, мужч.* 1. Нятоўстая і нядоўгая вяроўка з «вухам» спецыяльнага прызначэння, напрыклад, для злыгвання валоў, пераносу саломы, сена (гл. *пóвад* у вып. 1959 г.). Кл., Вольн., В. Залыга́й на павôччык. Вайц. 2. Абрывак нятоўстай вяроўкі. Тут дро́ту трэ́ба, павôччык парве́цца, гніе́. В. Вазьмі́ вала́ на до́бры павôджчык, бо пан[е]се́ — й касьце́й ні зьб[е]рэ́ш. Кл. Вазьмі́ ту́ю салôмку ў павôджчык да ў хлёў зан[е]сі́. Нашто́ каб мо́кла. Кл.

ПАВЫЗБІ́РВАЦЬ (*павы(у)зьбі́рваць*) *-а-ю, -а-еш, перах., законч.* Уважліва і чыста пазнаходзіць і пазбіраць што-небудзь дробнае. Наўмы́сьня нась́ıпала (зерня) ў траву́, хай, ду́маю, грабу́цца (куры), то ў гра́ды ні ла́зіцьмуць. То, скажэ̂ця, як вам кажу́ павызьбі́рвалі да ка́ліва. В. У грыбы́ заранêй. А то ўсê павызьбі́рвалі. Глуск.

ПАГАРАВА́ЦЬ *-у́-ю, -у́-еш, неперах., законч.* Папрацаваць (настойліва і працяглы час, усё жыццё). І сын, і ба́цька Ламашкі пагарава́лі!.. Пас. Я. К. Пагару́[е]ш, то й набу́дз[е]ш. Само́ нішто́ ні пры́дзе ў ха́ту. Кл.

ПАГАРБА́ЦЕЦЬ *-е-е* (*адз.*), *-е-юць* (*множн.*), *неперах., законч.* Парабіцца гарбатымі. Спара́дкуй жэ́рдачкі, а то пагарба́цяюць. Кл. Так мо́гуць пагарба́цяць. Сым. Гл. *гарбаце́ць, згарбаце́ць.*

ПАГО'Н [1] *р. -у, мужч., множн. няма.* Дарога, па якой гоняць статак (на пашу, на вадапой). Тудóю пагôн зрабілі. Кл.

ПАГО'Н [2] *р. -у, мужч.* Парастак на дрэве (часцей ужываецца *пáрастак).* Наабразáў увéсну галíн, дак за лêто пагóнаў нараслó. Кл. Параўн.: *пагóн* — парастак на дрэве. Пярэжары Маладз. р-на.

ПАГРЫ'ЗА'ЦЬ *-á-е* і *-а-е, -á-юць* і *-а-юць, з він. і без яго, законч.* Папасвіцца, пагрызці травы. Ганêм (кароў) на атáву. Хай пагрызáюць. Кл. Пагры́заюць на пôжні (гл. *пóжня* ў вып. 1960 г.) да бяжкóм у затôн піць. Кл.

ПАДАВЕ'НЬ *р. -ўн-я, мужч.* Вілы (рагаціна) з кароценькімі рожкамі, падаўнём падаюць снапы. Глядзêце ж, н[е] зламêце падаўня́ майгó. Гадôў сóрак жывé. Кл. Вілкамі падавáць ні тóе. Сусíм другóе дзêло падавéнчык. Лёгко й спры́тно, спраўнêй.

ПАДВІЛІ'ЦЬ (*па(у)двіліць*) *-ю, -іш, з він.* (мячык) *і без яго, законч.* Гл. *падвільваць.* І падвіліць трэ́ба ўмêць. Кл.

ПАДВІ'ЛЬВАЦЬ (*па(у)двільваць*) *-а-ю, -а-еш, з він. і без яго, незаконч.* Падкідаць мяч у гульні, якая называецца «салавей» (гл. *салавéй* [2] у вып. 1960 г.), або падкідны мячык (гл. *падкідны́ мя́чык* у вып. 1960 г.). Можна думаць, што *падвільваць* ад таго кораня, што і *віля́ць:* не проста падкідаць угару мяч, а так, каб праціўнік не мог пацэліць па мячыку. Адзíн падвíльвае, а ўсê ў пóлі, выбягáюцца. Пас. Я. К.

ПАДВЯЧО'РКАЦЬ (*па(у)две(я)чóркаць*) *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* і *законч.* Падсілкавацца пад вечар (паміж полуднем і вячэ-

раю ў доўгі летні дзень). Пакуль тая вячэра! Каб чаго трошкі падвячоркаць. Кл. Параўн.: у руск. мове *полдничать.*

ПАДДУКАВА'ЦЬ *-ў-ю, -ў-еш, перах., закoнч.* Гл. *дукаваць.* Па йім і відаць: паддукуюць, прыдзе й нейкі ні такі, гаварыць ні хоча. Байл.

ПАДДУКО'ЎВАЦЬ *(па(у)ддукôўваць) -а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Гл. *дукаваць.* Паддукоўвалі, покуль ні разлучылі. Самі сабою й жылі б. Н. ж.

ПАДДЗЯЛІ'ЦЬ *(па(у)дзьдз(е)ліць) -ю, -іш, неперах., законч.* Лоўка і нечакана ўдарыць каго-небудзь. Сеня Тэклін — гулялі ў м'яччыка — так падзьдз[е]ліў яму пад здухавіну. Кл. Як бугаê бораюцца, страшна гледзêць. Адзін аднаму як падзьдзêліць, здаецца, й кішкі вон. Кл.

ПАДЗЮ'ДКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, законч.* Гл. *дзюдкаць, дзю-дзю-дзю.* Падзюдкай, то й прыб[е]гуць (свінні). Н. ж.

ПАДЛЕ'ГЧЫ *(па(у)длегці(чы)) -ж-аш, -а, неперах., законч.* 1. Легчы побач з кім-небудзь. Пад раніцу халаднавата, то прыбêгла й падлегла ля мяне. Сым. 2. Непрыкметна паддобрыцца, падладзіцца, падысці. Хоць каго паставяць за старшыню, то сядно падляжа, падыйдзе хаць пат каго. Вольн. Такі, дак дзіво, хітры, пудлёг, пудлёг да й узяў с такім пасагам. Кл. Параўн. з такім самым значэннем: Прыехаў пан з паняй. І падлёг ён пад мяне, каб аддаць яму кашалёк, падлёг і падлёг. Беларускія народныя казкі (са зборнікаў Е. Р. Раманава). Мінск, 1962. Параўн.: *падлегчы* — легчы побач. БРС.

ПАДЛЮ'КА *р. -і, агульн.* 1. Слабая, худая, нявартасная жывёліна. А мо' табê на таку́ю жы́тку гавары́ць і ні трэ́ба было́? Хіба́ забы́ў, што маў? Падлю́ку на тры́ рублê, што да Глу́ска прыстава́ла. Вольн.

ПАДМАГЧЫ' *(па(у)дмагці(чы́)) -у́, -аш, неперах., законч.* Дапамагчы крыху. Так разгрузілі грэ́бяльку, што кôнь стаў, ні зь мêста. До́бр[э], што йшлі мушчы́ны да ўсê ра́зам падмаглі́ ву́яхаць на сухо́е, а то й начава́ць с канём прышло́со б. Кл. Падмажэ̂це мнê падня́ць (мяшок на плечы). Барб. Як змôг, так падмôг. Барб.

ПАДМЕ'ЦЦА *(па(у)дмêцца) -е́-юся, -е́-ешся, законч.* Паабяцаць, дакляраваць (даць што-небудзь, зрабіць што-небудзь). Ты ж пудмêўса. Нашто́ ж круці́ць? Пудмêўса — то й дава́й. Кл. Брыгадзі́ра пашука́ю. Ні падмêяцца даць (каня), дак пайду́ ў шо́фяра папрашу́са. Н. ж. Гл. *паме́цца* ў вып. 1959 г.

ПАДМІКІ'ЦІЦЬ *(па(у)дмікі́ціць) -ч-у, -ц-іш, перах., законч.* Нечакана і трапна пажартаваць з каго-небудзь, але не жорстка, не з'едліва. Зь йім рабі́ць хо́рашэ. Ро́біць і раска́жэ. А што не та́к, то ве́льмі лôўко пудмікі́ціць. Кл. І я цебе́ не ра́з падмікі́чу. Байл.

ПАДМЯВА'ЦЦА *(па(у)дме(я)ва́цца) -а́-юся, -а́-ешся, незаконч.* Абяцаць, дакляраваць. Гл. *падме́цца.* А табê н[е] трэ' было́ падмева́цца. А раз падмêўса, то йдзі зрабі. Н. ж. Ідзе й про́плач гаво́рыць: «Хто прасі́ў падм[е]ва́цца?» Н. ж.

ПАДПРЭ'ГЧЫ *(па(у)тпрэ́гці(чы)) -у́, -э́ш, перах., законч.* 1. Прыпрэгчы (другога каня, вала да запрэжанага). С тако́го гру́зкаго

мêста хібá вўцягне адзін вôл? Мýсіш патпрэ́гці йшчэ аднагó. Кл. 2. Перан. Узяць каго-небудзь на дапамогу. Багáта снапôў на пóлі. Адны́ ці спрáвяцца! Хібá вас, хлôпцы, трэ́ба патпрэ́гці? Пас. Я. К.

ПАДРАПАКАВА'ЦЬ *-ý-ю, -ý-еш, з він. скл. і без яго, законч.*, ад *драпакавáць* (гл.). Падрапакавáлі б, то раўнêй былó б, і арáласо б лêп[е]й. Кл.

ПАДТА'КІЧ (*па(у)ттáкіч*) *р. -а, мужч.* Той, хто толькі падтаквае каму-небудзь, ніколі не запярэчыць, стараецца дагадзіць. Нóваму старшыні паттáкіча ні трэ́ба, ямý брыгадзір трэ́ба. Вольн. Путтáкічаў і пудлíзьнікаў му не лю́бім. Кл.

ПАДТРА'ЎНАЯ *(па(у)ттрáўна) прым.*, ужываецца ў спалучэнні з *касá.* Падтраўная каса так асаджана, што пры касьбе ўразаецца «пад траву», у зямлю, у карэнне. Трэ́ба ўмêць і асадзíць кóсу. У Сідóра пракóсы — што гідко пазірнýць на йіх. Дзе кýп'е паўразáе, а дзе шчыткі тôлькі пазьбівáе. Асáджвай, што б ні паттрáўна і ні патрáўна былá. Кл. Параўн.: *патрáўная* (гл.).

ПАДХВАЦІ'ЦЬ *(па(у)тхвацíць) -ч-ý, -ц-іш, перах., законч.* Перасіліць, перагнаць, прастудзіць, напаіўшы, разгарачанага каня. Гаспадарэ̂, ліха мáтары! Патхвацíлі каня́, а прызнавáцца баяцца. Ён жэ й̂ відáць: патхвáчаны. Кл.

ПАДЦЫГА'НІЦЬ (*па(у)ццыгáніць*) *-ю, -іш, -іць, перах., законч.* Ашукаць, падмануць. Зь йім ты ні злáдзіш. Ні аглéдзісься — паццыгáніць. А тагды́ нія́кае с табóю кампáняйі. Пас. Я. К.

ПАЗГІ′НДЖВАЦЦА *-а-юцца, -а-л-іся.* Гл. *гіндзіцца, згіндзіцца.* Ужываецца ў множным ліку. Ко́рму было́ ма́ло, дак і німа́ травы́, а ўжэ пасу́ць. Ля́паюць бе̂дны[е] зуба́мі, пазгінджваліса, што й ні пазна́ць йіх. Кл.

ПАЗО′РНАСЦЬ (*пазо̂рнасць*) *р. -ц-і, жан., множн. няма,* ад *пазо́рны.* Вартасны на погляд, прыгожы (гл. *пазо́рны* ў вып. 1959 г.). Што с тае̂ пазо̂рнае (каровы)? Зь яе пазо̂рнасьці? Малака́ ты даёнку надо̂й, хоць с худо́е й ніпазо̂рнае. Кл.

ПАЙГРА′ЦЬ [1] *-а́-ю, -а́-еш, з він. і без яго, законч.* Пайгра́ць на балала́йку (sic!). Хал. Пайгра́ць на гармо́нік. Сым.

ПАЙГРА′ЦЬ [2] *-а-еш, -а-е, законч.,* ад *іграць* [2] (гл.). Пабуяніць. Хай сабе̂ йгра́е. Пайграе й на то̂м са́мум ме̂сьце ся́дзе. Кл. Пайгра́ў і дайгра́ўса, прагна́лі з до́брае слу́жбы. Стр.

ПАКАРЖАЦЕ′ЦЬ (*пакаржаце̂ць*) *-е́-еш, -е́-е, неперах., законч.* Гл. *каржаце́ць, закаржаце́ць.* Ану́чы так пакаржаце̂лі, што абу́цца н[е] мо̂жна. Байл. Целя́ці трэ́ба се́мяня, а так ап траве̂ пакаржаце̂лі. Байл.

ПАКАЦЁЛКА *р. -і, жан.* Кацёлка (качулка). А ў Машні́чах на пакацёлку ка́жуць качо́лка. Зуб.

ПАКЕ′ЎЛЯЦЬ *-я-ю, -я-еш, неперах., законч.,* ад *ке́ўляць* (гл. *ке́ўляць* у вып. 1959 г.). Зьбілі так, што паке́ўляў зь ме̂с[е]ц — ацсадзі́лі пе́чань — і пам'ёр. Кл.

ПАКО′ЎЧАНЫ *дзеепрым.* ад *пако́ўчыць* (гл. *ко́ўчыць*). Нашлі́ дзе гуля́ць! З лёнам. Дак пако́ўчаны ўвесь. Аж душа́ балі́ць. Кл.

ПАКО'ЎЧЫЦЬ *-у, -ыш, перах., законч.* Гл. *коўчыць.* Ці ж розум? Тôлькі заслала, мо' час прайшло, а яны пакôўчылі ўсê пасьцелі. Кл. Жылу пакоўчыш, але хіба пяражуеш? Пас. Я. К. Покуль зубы — пад'ясі. А то м'яса ці чаго хіба зьзêсьці? Пакоўчыш дый тôлькі. Н. ж.

ПАЛАЗУРКАВА'ЦЬ *-ў-ю, -ў-еш, перах., законч.,* ад *лазуркаваць* (гл. *лазуркаваць* у вып. 1959 г.). Палазуркаваць — пападсіньваць. Хто як скажэ: хто палазуркаваць, а хто папацьсіньваць. Кл. Ты ні лазуркавала? Трэба палазуркаваць. Мо' ні ўсе (усё). Конча палазуркуй ахвіранкі, рушнікі. Кл.

ПАЛА'ХАЦЬ (*палах(к)аць*) *-а-еш, -а-е, неперах., законч.* Пабегаць у пошуках. Кл. Гл. *лахаць, папалахаць.* Палахкалі, каб купіць, і не знайшлі. Пас. Я. К.

ПАЛЕ'ТКУ *(палêтку) прысл.* Улетку, летам (ужываецца і *ўлетку*). Палêтку прыêхаў, ажаніўса зь дзêўкаю з-за Глуску й паêхаў. Дак. Параўн.: Але ось раз палѣтку высунуліса сабѣ дзѣд з бабаю з хаты. А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911.

ПАЛІПЕ'ЦЬ (*паліпêць*) *-пл-ю, -п-іш, неперах., законч.,* ад *ліпець* (гл. *ліпець* у вып. 1959 г.). 1. Патрымацца, паслужыць (пра рэчы). Сёлята абояў ні будам зьдзіраць, хай паліп'яць. Кл. Паліпіць страха да лêта, а там накрыям. Пас. Я. К. 2. Пажыць нейкі час (пра хворага ці старога). Старая, а хочэ паліпêць на сьвêце. Дзе бачылі! Жывы пра жывое. Слабенька, а трохі ліпіць на сьвêце. Н. ж.

ПАЛУ'КАШ *р. -а, мужч.* Палукашак. За такім гаспадарэ́м (мужам), то й жо́нка с палу́каша згу́біцца (сэнс: за кепскім мужам жонка вельмі худая, што нават можа згубіцца, вываліцца са сплеценага з тонкай лазы палукаша). Усяê й падзя́кі, што мо' с пуд у палу́кашы канюшы́ны даў. Кл.

ПАЛЮДНЕ'ЦЬ (*палюднêць*) *-é-еш, -é-е, неперах., законч.* Гл. *люднéць.* Малáя былá, то такáя нічóга, такáя нічóга (гл. *нічóгі* ў вып. 1959 г.)! Ду́малі, што й расьцí ці бу́дзе. А ц[е]пéр, бач, палюднêла, адны́м слóвам, стáла дзêўка як дзêўка. Пас. Я. К.

ПАЛЯТУ'ХА *р. -і, жан.* Пра жанчыну, якая бегае (лётае!) з хаты ў хату, любіць пачуць і разнесці плёткі. Не бу́дзь такóю палету́хаю, то й нічóго ніхтó казáць на цебé не бу́дзе. Сл. Параўн.: *пахáтуха* (гл. у вып. 1959 г.).

ПАМА'ЛІЦЬ *-ю, -іш, перах., законч.* Паменшыць. Наштó ж такí вялíзны мêх? Ягó трэ́ба пама́ліць — паву́зіць і пакарацíць. Ж. Гл. *памаліць гады́, гады́ змаліць.*

ПАМЕРКАВА'ЦЦА *-ý-емся, -ý-ецеся, -ý-юцца, законч.* 1. Падзяліцца. Давáй, Я̂начко, памерку́ямса: тых у цебé німá, а вацéтых бага́то, ты мнê (дасі), і я табê. Кл. Памярку́ймасо, Зóся, ты мнê гусíных, а я табê куры́ных. Пас. Я. К. 2. Паладзіць, памірыцца. Пярастáньце сва́рыцца! Нія́к не памярку́юцца. Бо вазьму́ дубцá, то памярку́ю Вас. Кл. Мíшка! Ты ж бôльшанькі: памярку́йся зь йíмі. Н. ж.

ПАПАГА'СІЦЬ *-ш-у, -с-іш, з він. і без яго, шматкратны* ад *гасіць.* Гл. *гáсіць.* За нôч умéрзла так, што час гáсіў. Папагáсіў, пóкуль апсêк. Кл.

ПАПАЛА'ХАЦЬ (*папалáх(к)аць*) *-а-еш, -а-е, неперах., шматкратны з падвойнаю прыстаўкаю* ад *лáхаць* (гл.), палáхаць (гл.). Учóра ўсê папалáхкалі. Хібá ў йіх двôр лю́дзкі? Ці хлёў як хлёў? Хапíліся — нíмá цялу́шкі. Давáй шукáць. Шукáлі, шукáлі, лáхкалі, лáхкалі. Папалáхкалі ўсê, знайшлі пад рáніцу. Кл.

ПАПАНО'КАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., шматкратны* ад *нóкаць* (гл.). Угру́зьлі з вóзам на вайціхôўскай грэ́блі. Папанóкалі... А ён (конь), пáдлю, тôлькі крутнé хвастôм, папярабірáе нагáмі, а вóзу ні б[е]рэ́. Кл.

ПАПАРВА'ЦЬ *-у́, -éш, перах., шматкратны* ад *ірвáць.* Хвалíўса, што ў сад, у Міхасёў, улêзьлі дак вот папарвáлі я́блык. Кл. У фразеалагізме *жыватьі папарвáць.*

ПАПЕРАБІРА'ЦЬ (*папярабірáць*) *-á-ю, -á-еш, неперах., законч., шматкратны* ад *перабіраць.* Гл. *папанóкаць.*

ПАПЕРАПАДА'ЦЦА (*папярападáцца*) *-а-ецеся, -а-юцца, законч.* Пастая́лі пры рацэ̂ (каровы), пажавáлі жавáку, дак бáчыш — папярападáліса. Кл.

ПАПРЫЛАБУ'НЬВАЦЦА *-а-юцца, -а-л-іся, законч.* Гл. *прылабу́ніцца.* Ні табê, ні брáту ні прôйдзе так. Папрылабу́ньваліса, ду́маюць, што ўсê й забу́ліса, якí[е] вы лю́дзі? Кл.

ПАСАЎТА'ЦЦА *-á-ешся, -á-ецца, законч.,* ад *саўтáцца* (гл.). Пасаўтáюцца с прьізбы на прьізбу, пахóдзяць с канцá ў канéц (вёскі), а тагдьі за стôл... Кармí йіх... Кл. Галóдные ж. Пасаўтáліса па гóлым вьігане. Што там зьêлі? Пас. Я. К.

ПАСАЎТНУ'ЦЦА *-ўся, -ешся, законч.*, ад *саўтаццa* (гл.). Пахіснуцца. Ішла зь ягад. Пасаўтнуласа й усê ягады расыпала. Кл.

ПАСМІРНЕ'ЦЬ (*пасьмірнêць, пасьмірэ̂ць*) *-é-ю* і *-э́-ю; -è-еш, -э́-еш, неперах., законч.* Супакоіцца, ураўнаважыцца, прыціхнуць, сціхнуць. Яму жôнка памагла вылюдзкавацца (гл.). У рукі ўзяла, дзêці пашлі, прабралі ўсê разам, дак і пасьмірнêў. Пасьмірэ̂ў бы хоць які. Раз у савêт вызвалі да пагаварылі, да пастрашылі... Калі ні хочэш жыць зь людзьмі, рабіць с усімі, то выбірайся ацьсюль. Глуск. Камандуе: «Ні буду вучыцца, кіну школу». А тагды схадзіла ў школу. «Так і так»,— расказала. Пагаварылі й пасьмірнêў. Пярастаў вырабляць да камандаваць. Байл.

ПАСМІРЭ'ЦЬ (*пасьмірнêць* і *пасьмірэ̂ць*) *-э́-ю, -э́-еш, неперах., законч.* Гл. *пасмірнéць*.

ПАСПІРА'ЦЦА *-á-юся, -á-ешся, законч.*, ад *спірáцца* (гл. *спірáцца* ў вып. 1959 г.). Паспрачацца. Я табê пасьпіраюся! Ты слова, а ён табê шэсь. Сл. Параўн.: Дунай з морам пасniраліся А за дзеваньку сіраціньку. Мора кажыць: я яе ўтаплю, Гэту дзеваньку-сіраціньку. Дунай кажыць: валной выкіну Гэту дзеваньку-сіраціньку. П. В. Шейн. Белорусские народные песни. СПб, 1874.

ПАСТАЛЫ' *р. -óў.* Лапці. У нас на лапці пасталы мало калі гавораць. Хіба хто сьмêхам скажа. А — я быў ля Жыткавічаў — там: пасталы. Кл.

ПАСТАЎЛЯ'ЦЦА *-я́-ешся, -я́-ецца, незаконч.* Ганарыцца, заносіцца. Прыдуць у клуб.

Дак усê як хлôпцы, а ён пастаўля́яцца, што ты́чкаю но́су ні даста́няш. Кл.

ПАСТРЫ'КА'ЦЬ *-а́-ю* і *-а-ю, -а́-еш* і *а-еш, перах., законч.* ад *стры́ка́ць* (гл.). Ла́зіцьмяце (у агарод) — нарву́ крапі́вы да пастрыка́ю па нага́х го́лых. Кл. Параўн.: *пастріка́ць.* Мсцісл.

ПАСЦЕ'ПВАЦЦА (*пасьцêпваца*) *-а-юся, -а-ешся, незаконч.* 1. Пацíскацца ўсім целам, плячыма (калі холадна або пры нервовым стане). Атыдзêце аттýль: з вакна́ хо́ладно, дак усé (усё), ба́чу, пасьцêпваяцяса. Кл. 2. Абтрасацца. Верабе́йчык вы́лязе с кублéчка й пасьцêпваяцца. Пас. Я. К.

ПАСЦЕ'ПВАЦЬ (*пасьцêпваць*) *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* Пацíскаць, паторгваць плячыма. Гл. *пасцéпвацца.* Ён зма́лку так: калí што, пасьцêпвае плячмí. Кл. Параўн.: *пацéпваць.* Загор'е Карэл. р-на.

ПАТАРО'КАЦЬ *-а-еш, -а-е, неперах., законч.,* ад *таро́каць* (гл.). Мы тут таро́каям (гл. *таро́каць*), то й ты з на́мі сяда́й. Патаро́каям ра́зам. Кл.

ПАТРА'ЎНАЯ (*патра́ўна*(*я*)) *прым.,* ужываецца ў спалучэнні з назоўнікам *каса́.* Патраўная каса так асаджана, што пры касьбе зразае вяршкі травы, ідзе «па траве». Аса́джвай (касу), што б ні паттра́ўна, ні патра́ўна була́. Кл. Параўн.: *падтра́ўная* (гл.).

ПАТРАЎНО' *прысл.,* ужываецца ў прыказцы-прымеце Як камарно́, дык і патраўно́. Кл. Патраўно́ — бага́то травы́.

ПАТРО'МКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., законч.,* ад *тро́мкаць* (гл.). Прыхо́дзілі, патро́мкалі на тваю балала́йку. Нêчаго хацêлі, му́сіць. Кл.

ПАЎДЗЁННІК (*паўдзёньнік*) *р.-а, мужч.* Насякомае (у гарачы поўдзень паўдзённікі гудуць у вышыні і нагадваюць рой пчол). Го́рачэ, ціхо, адны́ паўдзёньнікі зьвіня́ць да гуду́ць. Байл. Параўн.: Полуднячкі, загудзелі, Палудніваць захоцѣлі. П. В. Шейн. Белорусские народные песни. СПб, 1874.

ПА'ЎПРЫЦА *р. -ы, жан.* Палка, якою круцяць камень у жорнах. Кл. Параўн.: пурплиця—дощечка, на якій тримаеться спідній і верхній гончарний круг. А. А. Москаленко. Словник діалектизмів українських говірок Одеської області. Одеса, 1958. Жо́рнаў на се́лішчы бо̂г ве́д як даўно́ німа́, а па́ўпрыца да вайны́ на паліцы валя́ласа. Кл.

ПАЎРУБЕ'ЛЬ *р. -бл-я́, мужч., множн. паўрублé* і *паўрублí.* 1. Манета на 50 капеек. У нас мо' з два́ццаць ца́рскіх паўрублёў было́. Глуск. Скажы́, а е́то ко̂лькі? Рубе́ль ці паўрубе́ль? Я й ні пазна́ю паўрубля́. Кл. 2. 50 капеек любым наборам манет. Тры́ццаць і два́ццаць — то паўрубе́ль, п[е]дзьдзяся́т капе́як. Пас. Я. К. Параўн.: на вокладцы першага выдання (1908 г.) зборніка паэзіі Я. Купалы «Жалейка»: цана поўрубель.

ПАХАРАШЫ'ЦЬ *-у́, -ыш, перах., законч.,* ад *харашы́ць* (гл.). Ты ўсю капу́сту пахарашы́ла? А мая́ йшчэ ніхаро́шана. Пас. Я. К. Пахарашы́ўшы, накíнь на яê по̂сьцілку. Н. ж. Таку́ю пахаро́шану прадава́ць? Ой, не! Шко́да! Ніпахаро́шаных (буракоў) не мо̂жно зако̂пваць. Барб.

ПАХІЦА'ЦЬ *-а́-ю, -а́-еш, перах., законч.,* ад *хіца́ць* (гл.).— Ко́ла ні́як ні вы́цягчы.— А ты пахіца́й сюд-туд. Кл.

ПАХІЦНУ'ЦЦА *-у́ся, -е́шся, законч.* Пахіснуцца (ужываецца і *пахісну́цца*). Ішла́ да пахіцну́ласа. Ду́маю, што́ ма́е быць,— ажно́, ба́чыце, хво́ра. Ключ.

ПАЦУБЧЭ'ЦЬ *(пацубчэ̂ць) -э́-е, неперах., законч.,* ад *цубчэць.* Ты ні мачы́! Намо́чыш — зра́зу пацубчэ̂е, тагды́ аніяк ра́ды ні дасі́. Кл.

ПАЦЫКА'ЦЬ *-а́-ю, -а́-еш, перах., законч.,* ад *цыка́ць* (гл. *цыка́ць* у вып. 1959 г.). Цыка́ў, цыка́ў (убіты ў зямлю кол) — ні вы́рваў. На́ ты пацыка́й. Кл. Ба́чыш, ма́ма, два зубы́ цыка́юцца. Нашто́ до́ктар? Пацыка́ю й вы́рвяцца. Пас. Я. К.

ПАЦЯГУ'ХА *р. -і, жан.* Тое, што і *паха́туха* (гл. *паха́т͡ўха* ў вып. 1959 г.). На пытанне: «Чаму сказалі пацягу́ха?» — адказалі: «Бо тôлькі й вêдае, што па ха́тах цега́яцца. Цега́яцца, то й пацегу́ха». Сл. Гл. *палятýха.*

ПАЦЯЖЫ'ЦЬ *-у́, -ыш, перах., законч.* Уцяжарыць, зрабіць цяжэйшым. Параўн.: у руск. мове *утяжелить.* Трэ́ба пярарабі́ць, паплаўкі́ до́бра, а во́лава ма́ла, пацяжы́ць (дадаць волава) трэ́ба. Пас. Я. К.

ПАША'МАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., законч.,* ад *ша́мацьь* (гл.). 'Шчэ зь ве́чара паша́мала нêшта ў сêнцах, дак усю́ нôчку агню́ тушы́ць бая́ліса. Кл.

ПАЯДА'ЦЬ *-а́-ю, -а́-еш, неперах., законч.* Наесціся. Н[е] дай м'я́са, дак бу́дзе пазіра́ць. Ці кру́пнік, ці што, сядно́ ні пая́да́е: трэ́ба каб м'я́са хоць шмато́чак, хоць кро́шку, хоць ма́лячку. Кл. Сёня вы́гада каро́вам: до́бра пая́да́лі. Пас. Я. К.

ПЕ'КУР *р. -а, мужч.* Птушка Capella gallinago L. Песню пекура перадаюць так: Пёку, пе̇ку, сало́ху сьпе́ку, бе-ге-ге (або: бі-гі-гі)! Кл. Параўн.: у руск. мове *бекас; бака́с.* Заг. Карэл. р-на. Баранчык божы ў паднябессі Бляе маркотна над балотам, як бы шукае ён каго там, і гэта смутнае бляянне ў цішы балот у час змяркання на сэрцы жалем аддаецца. Я. Колас; беларускае прозвішча *Пе́кур.*

ПЕРАБА'ВІЦЬ *-ўл-ю, -в-іш, перах., законч.* Перавезці (праз балота, праз раку). А трӭба ж пяраба́віць то́е се̂но. Ні скіда́ць жэ яго́ за рако́ю ў сто̂г. Кл.

ПЕРАДНАВА'ЦЬ *-у́-ю, -у́-еш, неперах., законч.,* ад *днава́ць* (гл.). Мы ў блака́ду раз пяраднава́лі пац са́мым но́сам у не̂мцаў. Як застраля́юць над на́мі! Ото́ стра́шна было́! Але зато́е ні шука́лі. До́бра пяраднава́лі. Пас. Я. К. Мы й наду́малі: пераднава́ць, а ўно̂чы гайда́ ацьсю́ль. Сл.

ПЕРАЗ *прыназ.* Праз, цераз (ужываюцца і *праз, цераз*). Мігну́ў не̂хто л[е] вакна́, а тагды́ пярас пло̂т. Кл. Перэз плот уцекала. Ой, едзь, Яську перэз тры селе. M. Federowski. Lud białoruski... Warszawa, 1936.

ПЕРАЛА'З *р. -у, мужч.* Мясціна ў высокім плоце, дзе можна пералазіць. Кл. Суседзе блізко, й да яго́ пярала́з нізко. Глуск.

ПЕРАЛЕ'ЖАНЫ *дзеепрым.* ад *пераляжа́ць.* Пры́муць уся́кі, ле̂тась пярале́жанаго лёну заве́зьлі машы́н п'яць. Кл. Крыха́ таго́ лёну й той п[е]рале́жаны. Н. ж.

ПЕРАПАРАВА'ЦЬ *-у́-е, (буд. ч.), -а-л-а (прош. ч.), неперах., законч.* Ужываецца ў

фразеалагізме *пара́ перапаравáла* — мінуў час, даўно настаў час.

ПЕРАПА'СЦІСЯ *-д-у́ся, -дз-е́шся, законч.* Выгаладацца так (пра жывёлін), што «бакі ўпадаюць», «бакі сышліся». Ганêце ўжэ на па́жу (на пашу). А то пярапáласа карóва, яж бакí сышлíса. Кл.

ПЕРАСТА'ВІЦЬ [1] *-ўл-ю, -в-іш, перах., законч.* Пераставіць. Пярастáўма сюды́ канáпу. Вольн.

ПЕРАСТА'ВІЦЬ [2] *-ўл-ю, -в-іш, перах., законч.* Зрабіць памяркоўным, змяніць характар, перавыхаваць, навесці на добры шлях, на добры лад. Му́чыўся, му́чыўся, ўсе (усё) ду́маў, а мо' палêпшае, мо' пярастáвіць (жонку). Адáле й разышлíся. Дзе ты бáчыла? Чорт чóртам. Хібá пярастáвіш? Пас. Я. К. Штó ты ўсе (усё) так гавóрыш? І слу́хаць нехóрашэ: «лупцавáць, налупцаваць...» Лупцôўкаю ні пярастáвіш. Кл. Ці ты яго перастáвіш? І малы́ ён быў такí чóрт. Сл.

ПЕРАСТАНАВІ'ЦЬ *-ўл-ю́, -óв-іш, перах., законч.* Пераканаць каго-небудзь. Навáжыласа, узялá ў гóлаў, і хóт ты штó ёй! Яé хібá пярастанóвіш? Як наду́маласа, так зрабíла. Кл. Кáжаце, ні пярастанóвіш. Каб дóбры бáцько да ўзяў у рабóту. Пас. Я. К.

ПЕРАШАШО'ЛІЦЬ *-ю, -іш, перах., законч.*, ад *шашóліць* (гл.). Што кáжаш! Я, далібóг, насушы́ла мêх канпóту — йгру́шы, я́блыкі. Дак ду́маяш — пярашашóлі (дзеці). Пас. Я. К.

ПЕРАШУФЛЁЎВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Гл. *перашуфлявáць.* Два раз пярашуплёўвалі. В. Перашуплёўваць ця́жко, ў рóце гôрко стáло. Сл.

ПЕРАШУФЛЯВА'ЦЬ *-ю-ю, -ю-еш, перах., законч.* Пералапаціць (збожжа, зерне). За два днê пярашуплюям увéсь сьвіран (усё збожжа, што ў свірне). Кл. Забы́ліся на жы́та, трэ́ба было́ пярашуплява́ць. В. Паку́ль што, дава́й перашуплю́ймо. Сл.

ПЕСЧУГА' *р. -і, жан., множн. няма.* Вельмі пясчаная глеба. На такôй пешчузê каб грэ́чку, то нêшто й сабра́ў бы. Зуб. На Калю́гу — туды́, на Юзафо́во, Ма́кавічы — там бага́то пескôў, пешчу́га́ адна́. Н. ж. Пешчуга́, а сад, як у Слу́цку. В.

ПЕ'ТРЫЦЬ *(пêтрыць) -у, -ыш, неперах., незаконч.* Разумець. А ты́ што тут пе́трыш? Нічо́га ты не пе́трыш. Глуск.

ПЕЧАЯ' *р. -і, жан., множн. няма.* Пякотка. Нябôжчык ба́цько трôшкі ззêсь сьвêжаго хлêба, то на паўдня́ му́ка, печая́ змýчыць. Кл. А ў нас хто як: хто пяча́йка, хто пячая́. Пас. Я. К. Параўн.: *жо́га.* Мсцісл.

ПІСАВА'ЦЬ *-ý-ю, -ý-еш, перах., законч.* Ва́шай каро́ве трэ́ба ро́гі падрэ̂заць, ве́льмі пісýе. Чуць като́ру (карову) ро́гам — і расьпісýе. Байл.

ПІСЯГА'ТЫ *прым.* Назва масці — з вузкімі палоскамі іншага колеру. Нагадава́лі бычкôў пісяга́тых. Такýю мась люблю́. Кл. Раз нêяк êхалі, дак кôнь пісяга́ты, пад уюна́ такі́. Кл.

ПІСЯ'ЖЫЦЬ *-у, -ыш, перах., незаконч.* Біць так, каб рабіць пісагі (гл. *пíсяг* у вып. 1959 г.). Ці й е такí гад! Хíба́ чалавêк? Хíба́ душа́ е? Дарва́ўся да каро́ву (каровы), ўсю на пісягі́ зрэ̂заў. Так пíся́жыў, уся́ зрэ̂зана, мо' драця́нкаю яко́ю (пугаю з дроту). Кл.

ПІЦЕ'Ц *р. -á, мужч.* Піток (ужываецца і *пітóк*). Кл., Н.-Андр. Я ні піцéц, а вы ж нікóлі ні любілі яé. Барб.

ПЛАТНЯ'К *р.-á, мужч.* Мажны мужчына. Васіль быў такі харóшы, такі хлóпцам быў платня́к, а сухóты ўвабрáлі. Кл.

ПЛА'ХА *р. -і, жан.* 1. Плаха. Каб на начоўкі плаху ліпы знайці. Сл. 2. Частка сахі. І плáху рабілі з дóшкі. Сл.

ПЛАЦІ'НА *р. -ы, жан.* Жэрдка з плоту. Гразь па вýшы. Дак хто йдзе — плаціну раз! І пашóў. Клáдка й гатóва. Кл.

ПЛЫЎЦЕ'ЦЬ (*плыўцêць*) *-іць, неперах., незаконч.* Плаваць у тлушчы, пра страву, у якую паклалі многа тлушчу. Лю́біць грэ́цку кáшу да каб тýку стôлькі, што аж плыўціць. Кл. Ці стôлькі мáзаць (аладкі маслам)? Яж (аж) плыўця́ць. Н. ж.

ПО'ДПІРКА *(пôтпірка) р.-і, жан.* Падпорка. Павêць тôлькі на пôтпірках стаййць. Кл. Уся́ стôль на пôтпірках. Н. ж.

ПО'ДСВІНАК (*пóцьсьвінак,* часам *пацьсьвíнак*) *р. -нк-а, мужч.* Падгадаванае, ладнае парася (на 30—40 кг). Два пôцьствінкі гадýю. Кл. У вáс, тут, кáжуць, пôцьсьвінка купіць лёгко. Н.-Андр. Параўн.: *пацьсьвíнак.* Мсцісл. Пацсвы́нак. Угл., Казек., Юзаф. Мінск. р-на.

ПОК *выклічнікава-дзеясло́ўнае слова* тыпу *хоп, бразь, бах.* Гл. *пóкнуць.*

ПО'КНУЦЬ *-е, -уць, неперах., законч.* 1. Трэснуць, лопнуць. А на дýлі багáта такíх (груш), што пóкнулі (трэснула, лопнула скурка) й ні пáдаюць. Кл. 2. Гукапераймальнае. Вазьмý ліст ліпóвы на рýку, як стýкну — дак

по́кне, што с пугача́. То̂лькі пок! Кл. 3. Гучна стукнуць, ударыць. Кл.

ПО′ЛІЎКА *р. -і, жан.* 1. Булён. По́ліўкі сь пе̂ўнікам навары́ла. Пас. Я. К. 2. Юшка з рыбы. Злава́ў на по́ліўку ры́бы. Н. ж.

ПО′РКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, незаконч.* 1. Калупаць, пароць. Пабра́лі (дзеці) дубцэ̂ дай по̂ркаюць маю́ граду́. Я ра́ніцу рабі́ла, а цепе́р станаві́са й папраўля́й. Кл. 2. Рыць, рыцца. Ву́гнала парася́та папа́сьціць. Хай, ду́маю, пагрыза́юць (гл. *пагры́за́ць*). Дак, до́хлі (гл. *до́хля*) на йіх німа́, ні грызу́ць (траву), а по́ркаюць, шука́юць не̂йкае тра́сцы. Кл. Пазала́зілі ў я́му й не̂што дзень по́ркаюцца — дзіця́чы заня́так. Сл.

ПО′ЎНІК (*по̂ўнік*) *р. -у, мужч., множн. няма.* Поўня. Ужэ́ ме̂сячык пат по̂ўнік. За́ўтра й по̂ўнік. Глуск. Шчэ да по̂ўніку дзенько̂ў п'яць. Хал. Параўн.: у руск. мове *полнолуние.*

ПО′ЦЕРАБ (*по́цяраб*) *р. -у, мужч.* Расцярэбленая (расчышчаная) паляна. Гл. *церабіць* у вып. 1959 г. П[е]рад калга́самі (перад калектывізацыяй) пацяраб́о̂ў нарабі́лі. Кл. На по́цярабе накасі́ў коп са тры́ (сена). Кл. Цахлі́лі саба́кі, цахлі́лі й вы́гналі лася́ на машні́цкі по́цяраб. Вайц.

ПО′ЧАПКА *р. -і, жан.* Вос́ілка. Не́сла в[е]дро́, а по́чапка — хале̂ра на [е]е̂ — пярарва́ласа, дак усе̂ валёнкі аблі́ла́. Кл. Параўн.: *по́сілка* (гл. у вып. 1959 г.).

ПРАВЕ′РШЧЫК (*праве̂ршчык*) *р. -а, мужч.* Рэвізор, кантралёр; той, хто правярае. На по́язьдзе праве̂ршчыкі біле́ты правяра́юць.

То̂лькі пасе̂лі, аж захо́дзяць два праве̂ршчыкі. Зуб. Раві́зія бу́дзе. З Глу́ска праве̂ршчык прые̂хаў. Сл.

ПРАДА'ННЕ *р. -я, множн. няма.* Тое самае, што і *продаж* (ужываюцца абодва словы, часцей — *про́даж*). З Глу́ську прышла́ да абе̂ду. До́бра схадзі́ла. На прада́ньне ніčо́го ні бра́ла. Кл. А ў ва́с грыбо́чкаў на прада́ньне сабра́ласо тро́хі? Дак.

ПРАДРАПАКАВА'ЦЬ *-у́-ю, -у́-еш, з він. і без яго, законч.,* ад *драпакава́ць* (гл.). Прадрапаку́ям удо́ўж і ўпо́пярак да вы́барануям, то й ні бу́дзе пы́рніку. Вайц.

ПРАКО'БАЦЦА *-а-ешся, -а-ецца, законч.* Прамарудзіць, працуючы павольна, без вынікаў. Ці то́лк? Прако́баласа да паўдня́, а што зрабі́ла? Кл.

ПРАЛІПЕ'ЦЬ (*праліпе̂ць*) *-пл-ю, -п-іш, неперах., законч.,* ад *ліпе́ць* (гл. *ліпе́ць* у вып. 1959 г.). 1.Пратрымацца, паслужыць непрацяглы час. Зі́му масто́к мо' й праліпі́ць, а навесьне̂ — па́стка дый го́дзі. Кл. 2. Пражыць (пра хворага, старога) непрацяглы час. Ве́льма, Хве́дарко, апара́цая була́ ця́жка. Мо' й праліпе̂ў бу гадо́к ці бо̂льш. А та́к?.. Кл.

ПРАЛЫ'СІЦЬ *-ш-у, -с-іш, з він. і без яго, законч.* 1. Паспешліва падмесці толькі сярэдзіну хаты, пакоя. Ці ж со́раму німа́? Загада́ла ха́ту ву́мясьці, дак пралы́сіла на сере́дзіне й ду́мае: так трэ́ба. Кл. 2. З большага ачысціць ад чаго-небудзь мясціну. Хіба́ так і кла́сьці аго́нь? Трэ́ба сьне̂г пралы́сіць тро́хі. 3. Зрабіць сякерою на дрэве, бервяне «лысінкі» — зачэсы. Перш як раскі́даць (хлеў), трэба пралы́сіць ко́жну дзяраўя́ку й напіса́ць на ўся́кай

(нумар). Бо як ні напі́шаце, то як склада́цьмеце? Байл. Ля По́ўкаціны я пралы́сіў тры хвôйкі, сухасто́йіны. Пад'ếдзяце й ля паля́нкі ўба́чыце назна́чаные. Кл. 4. Зрабіць у лесе, хмызняку прасеку. Тудо́ю паếдам. Каб так пралы́сіў, тут ні гру́зка. Пас. Я. К.

ПРАСАЎТА́ЦЦА *-а́-ешся, -а́-ецца, законч., ад саўта́цца.* (гл.). Прасноўдацца (гадзіну, дзень, пэўны час), прашвэндацца. Паўдня́ прасаўта́ласа, німа́ калі́ й рабіць. Пас. Я. К. Чаго́ да Глу́ска? Абы дзе́нь прасаўта́цца? Пас. Чырв.

ПРАСІ́НКА *р. -і, жан.* Каліўца проса, прасяное зярнятка. Кл., Пас. Я. К. Балі́ць і балі́ць ву́шко. Аж дактôрка й дастае́, ду́маяце, тры прасі́нкі. Н.-Андр.

ПРАСТАСТА́ВІЦЬ *-ўл-ю, -в-іш, перах., незаконч., складанае слова.* Ставіць перпендыкулярна або нахілена пад вялікім вуглом. Ве́льмі прастаста́віце кро́квы. Нашто́ так прастаста́віць? Так яно́ й хо́рашэ й заце́каць ні так бу́дзе, але лі́шняго ні трэ́ба, ні прастаста́ўце так. Кл.

ПРАТХЛА́ННЕ *р. -я, ніяк.* Перадышка, прасвятленне (ад клопату, працы). Усе́ (усё) ж лếцячко пратхла́ньня ні было́: то то́е, то то́е. А мнê й пратхла́ньня німа́. Глуск.

ПРАЦІ́ВЕНЬ *р. -ўн-я, мужч.* Непрыяцель, праціўнік. У прыказцы Браця Рыгорка, станя й праціўню твайму горка. Сым.

ПРАЧУ́ТКА *р. -і, жан.* Чутка, гаворка. Хадзі́ла така́я прачу́тка, што ажані́ўса нêйдзе (недзе) дале́ка. Н. ж. З вайны́ ні чу́ткі, ні прачу́ткі. Зуб.

ПРО'РАСЛЯ (*пррасьля, прóрась*) *р. -сл-і, -сц-і, жан.* Прорасць. Тóе (сала) б[е]с прóрасьлі, пацсмáж. Кл. С прóрасьляю смачнêйшае. Н.-Андр. У сáле два пáсачкі прóрасьці.

ПРО'РАСЦЬ (*прóрась*) *р. -сц-і, жан.* Гл. *прóрасля.*

ПРЫВАРЫ'ЦЬ[1] *-ý, -ыш, перах., законч.* Згатаваць страву, якая хутка варыцца. Што ў бóга дзень бягý й бягý. Дык дзêці сáмі сабê прывáраць крýпніку ці чагó. Бяроз.

ПРЫВАРЫ'ЦЬ[2] *-ý, -ыш, з він. і без яго, законч.* 1. Прыварыць. Тут, мýсіць што, лêпей бýдзе прыварыць, бо заклёпкі не тáк. Зуб. 2. Моцна сцебануць, хвасянуць, так ударыць, каб аж «прыстала», «прыварылася». Так прывары́ў пýгаю, што ён аж увагнýўся. Сл.

ПРЫВЕ'СЦІ *-д-ý, -дз-éш, з він. і без яго, законч.* 1. Прывесці. На вы́ган бягý, канá трэ́ба прывéсьці. Хóчу да Глýска зьêзьдзіць. Пас. Я. К. 2. Паслужыць шляхам куды-небудзь, паказаць шлях да чаго-небудзь. Як ісьці́ па сьлядáх, дак ісьці́. Сьляды́ й прывялí пат хáту. Вольн. 3. Нарадзіць (ідаць, як адгалосак старадаўняга табу). Такýю харóшу̂ цялýшку прывялá нашá карôўка, што й рэ̂заць дальбôг, грэ̂х, шкóда вéльмі. Пас. Я. К. Што пóльзы, што багáто парасят прывялá сьвіньня́? На базáры на зíму не хóчуць купля́ць. Н. ж. Параўн.: з тым самым значэннем *навéсці.* Кóжну вéсну хлёў парася́т навéдзе, такáя плôдна. Н. ж.

ПРЫВІ'ЦЦА *-éшся, -éцца, законч.* 1. Прыкруціцца; калі ўюць вяроўку, то ў вяроўку можа ўкруціцца, увіцца што-небудзь пабочнае. Хібá ацьсêкці кавáлак абóры, глянь прывілó-

со чо́ртвѐд што. Байл. 2. Назойліва прычапіцца. Што зь е́ю? Прывіла́са пчала́, ні адагна́ць. Кл. Чаго́, бяда́, прывіла́са? З жартоўнай народнай паэмы «Бяда». Кл.

ПРЫДУ′ХА *р. -і, жан., множн. няма.* Такі стан вады пад лёдам, калі яна бяднее на кісларод, загніваецца, тады гіне рыба. Адзі́н год у во́зяры була́ прыду́ха. Ото́ набра́лі лю́дзі ры́бы! Кл. Ха́ўкаеш, як ры́ба ў прыду́ху. Пас. Я. К. Гіне, як ры́ба ў прыду́ху. Там йім (пра акружэнне немцаў у 1944 г. пад Бабруйскам), як ры́бе ў прыду́ху. Байл., пас. Я. К. У то̂м бало̂цы за зі́му пагі́не ры́ба, хіба́ мо' ўюны́ ўцале̂юць. Пе́ляк (гл. *пе́лька* ў вып. 1959 г.) ні бу́дзе: заме́рзьне, а пад лёдам прыду́ха бу́дзе. Кл.

ПРЫКАЗА′ЦЬ *-ж-у́, -ж-аш, неперах., законч.* 1. Падмацаваць прыказкаю, прымаўкаю, параўнаннем, добразычлівым ці зламоўным пажаданнем. Трахі́м уме̂е. Ска́жэ й прыка́жэ. Дак хло́пцы по́ўзаюць: сьме̂шно. Кл. 2. Гаварыць у рыфму. Як што ка́жа, то й прыка́жа. Во ён ска́жа й прыка́жа, як у ве́ршыку ці ў сьцішку́. В.

ПРЫКА′ЗВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* Гл. *прыказа́ць.* Та́я й ска́жа й прыка́жа, ска́жа як зьвя́жа, ве́льмі прыка́зваць уме̂е. Сым. Пла́кала й прыка́звала. Кл. Дзень пры-чы́твала й прыка́звала. Глуск.

ПРЫЛАБУ′НІЦЦА *-юся, -ішся, законч.* 1. Прытуліцца да каго-небудзь, да чаго-небудзь (напрыклад, да печкі). Бач, се̂ла на лано́, прылабу́ніласа, й до́брэ маёй уну́чаццэ. Кл. 2. Прыладзіцца і непрыкметна жыць. Ка́жуць, не̂йдзе правінава́ціўся й пяра̂ехаў сю-

ды́, прылабу́ніўса, што на яго́ ніхто́ нічо́га й ні́якага. Глуск.

ПРЫЛАБУ'НЬВАЦЦА *-а-юся, -а-ешся, незаконч.* Гл. *прылабу́ніцца.* Ён такі́!.. Прылабу́ньвацца ўмêе. Вайц.

ПРЫРАБІ'ЦЬ *-бл-ю́, -б-іш, з він. і без яго, законч.* 1. Прырабіць. Хай бы ты ру́чкі прырабі́ў, сусі́м атвалі́ліся. Сл. 2. Прыбудаваць. Ха́та но́вянька, але ж цêсна, наду́маў прырабіць трысьцêнак. Хай ро́біць. В. Сêнцы й цераз гôд прыраблю́. Сым. 3. Зарабіць дадаткова. Акла́д ні ве́льмі што (невысокі), але прыраблю́ йшчэ со́тню, то жывôм ніштó (някепска). Сл. 4. Прычараваць, начараваць. Ка́жэ, што сы́ну прыро́бляно (хворы: нехта начараваў). Хто ваце́таму вêрыцьме? Сьмêх тôлькі. Отбок (гл. *бок* у вып. 1959 г.) лю́дзі даўнêй вêрылі: як хворы — дак нêхто прырабі́ў; прападзе́ тава́рына — дак прырабі́ў нêхто. Вы́думалі прырабля́ньне. Кл.

ПРЫРАБЛЯ'ННЕ *р. -я, мужч.,* ад *прырабіць.* Гл. *прырабіць* (4).

ПРЫРАЗА'ЦЬ [1] *-а́-ю, -а́-еш, перах., незаконч.* Гл. *прырэ̂заць.* Прырэ̂залі (карову) й шкаду́ям. Мо' й жыла́ б. Ні трэ́ба было́ прыраза́ць. Кл.

ПРЫРАЗА'ЦЬ [2] *-а́-ю, -а́-еш, перах., незаконч.* Гл. *прырэ́заць* [2]. Закôн е такі́, што сядзі́бы прыраза́ць ні мо́жна. Кл. Як во́ля прышла́, дак па́нскае землі́ ўсім, у каго́ ма́ло, прыраза́лі. Сл.

ПРЫРЭ'ЗАЦЬ [1] (*прырэ̂заць*) *-ж-у, -ж-аш, перах., законч.* Зарэзаць (хворую ці параненую жывёліну). З на́шае каро́вы нічо́га ні

бу́дзе. Ба́чыш, ідзе́ й саўта́яцца (гл. *саўта́цца*). Му́сіць, прыр̂эзаць трэ́ба. Кл. Лісавêта каро́ву сваю́ прыр̂эзала. Кл.

ПРЫРЭ′ЗАЦЬ² (*прыр̂эзаць*) *-ж-у, -ж-аш, перах., законч.* Дадаць (зямлі, сенажаці). Нам па́нскае (зямлі) прыр̂эзалі. Калі́ ето? У два́цацаць трэ́йцям? Кл. Прышла́, старшыня́, каб мнê сядзі́бу прыр̂эзалі. В.

ПРЫСЕ′БРЫЦЦА *-ышся, -ыцца, законч.* Паддобрыцца і нешта атрымаць, узяць. Сыны́ мо' й со́вясные, а ба́цько — ні дай бôг! Дзе выпіва́ць ся́дуць — і ён тут, падгаво́рыцца й прысе́брыцца ча́рку кульну́ць. Глуск. Ото́, брат, стара́ясса! Прысе́брыўса да глады́шкі, то ўсю глады́шку малака́ як за сябе́ закі́нуў. Кл. Параўн.: *ся́бры́на, ся́бра, ся́бар.*

ПРЫСТАВА′КА¹ *р. -і, мужч. і жан.* Той, хто хутка страчвае сілу на працы, пры пераходзе. Хіба́ на такôм гультайі́ (пра каня) заêдзеш? А той слабе́нькі, дак прыста́не ў даро́зе. Вазьмі́ прыстава́ку, дак у даро́зе наму́чысса. Хал. На язы́к, то й ён бы́стры, а рабі́ць — то прыстава́ка. Байл.

ПРЫСТАВА′КА² *р. -і, мужч. і жан.* Той, хто дакучае чым-небудзь, чапляецца, прыстае да каго-небудзь. Мы йіх ба́чылі!.. Такі́я прыстава́кі, каро́ста каро́стаю... Кл. Параўн.: у руск. мове *приставало.*

ПРЫСТА′ВІЦЬ *-ўл-ю, -в-іш, перах., законч.* 1. Прыставіць што-небудзь да чаго-небудзь. Я прыста́ўлю драбі́ну. Кл. 2. Паставіць гатавацца ў печ страву. Ты ж, сыно́к, пабу́дзь у ха́це: абêд прыста́віла. Ападзе́ жар, то ці сусі́м зачы́ніш, ці прычы́ніш ю́шку. Кл. На

сьнêданьне наскрабéш і прыстáвіш картóпляў і сáла сьпякôм. Кл. 'Шчэ на абêд нічóго ні прыстáвіла. Кл. Сáмі палýднувацьмяце. Прыстáвіла капýсту й кáшу, а малакó ў кладôўцэ. Кл. 3. Прывезці, прынесці, падáць. Тôлькі, гавóрыць, парáдак навôдзь, а я табê ўсе (усё), што трэ́ба, ўсе (усё) чы́сьцянько прыстáўлю. Пас. Я. К. Параўн.: Я, кажа, усё табе буду прыстаўляць. Аддай, дзед, ён жа ўсё нам будзе прыстаўляць. Беларускія народныя казкі (са зборніка Раманава Е. Р.). Мінск. 1962.

ПРЫХАПІ'ЦЦА *-пл-юся, -п-ішся, законч.* Прырвацца, дарвацца, прагна накінуцца на што-небудзь (у тым ліку на працу). С пóля йшлі, ўжэ на вéчар сóнячко. Бáчым, бáба аднá гарýе, баразён тры ні скапáла. Мы прыхапíліся ўсê разам, як стôй вы́капалі да нóчы й зьвезьлі. Кл.

ПРЫ'ХАПКАМ *прысл.,* ужываецца з дзеясловам *рабіць*. Рабіць (што-небудзь) пры́хапкам — рабіць сяды-тады, у вольную ад звычайнага занятку часіну. Пры́хапкам багáто ня зрóбіш. Кл. Калí ўвéчарэ, калí рáно — пры́хапкам сêна трохі нанасíў. На зíму й бýдзе. Кл. Гл. *пры́хваткам* у вып. 1959 г.

ПРЫХАХУ'ЛІЦЦА *-юся, -ішся, законч.* Хутка і збольшага прывесці сябе ў парадак. Ты 'шчэ й прыхахýліцца не пасьпêла, а давáй за алáдкі! Сл.

ПРЫХВАЦІ'ЦЦА *-ч-ýся, -ц-ішся, законч.* Тое, што і *прыхапíцца* (гл.).

ПРЫЧЫНДА'ЛЛЕ *р. -я, ніяк., множн. няма.* Начынне, прылады. Ватэ́то рыбáк! Усякаго прычындáльля! Чагó тут німá! А кручкôў! А блёстак! Глянь, што за блісьня́! Такóе

блісьні ні ра́з не ба́чыў. Хал. Сабра́ў кава́ль усе́ сває́ (усё сваё) прычында́льле. Кл.

ПРЫЧЫ′НКА *-і, жан.* Зачэпка. Ліхі́ чалаве̂к і за лучы́нку зно̂йдзе прычы́нку. Кл. Яму́ сварыцца? Німа́, то прыду́мае прычы́нку. Баян.

ПТА′ХА *р. -і, жан.* Вялікая птушка. Каб ба́чылі! Што за пта́ха! Зь е́льніку ўзагна́ў. Мо' з гусь. Хіба́ мо' глушэ́ц той? Кл.

ПУПО′К [1] *-пк-а́, мужч., памянш.* ад *пуп.* Барб., Дубр.

ПУПО′К [2] *р. -пк-а́, мужч.* 1. Малако ў рыбы (семянная залоза і гармоны, якія яна выдзяляе). Пупкі́ быва́юць смачне̂йшыя за ры́бу. Пас. Я. К. Раз дак мы навары́лі адны́х пупко̂ў і йікры́. Німа́ пупко̂ў, як з мянько̂ў (гл. *мянёк*). Кл. 2. Перан. Мянушка на чалавека, які вельмі любіў пупкі, і колер твару яго нагадваў вараныя пупкі. Кл. Параўн.: Відаць, не адзін напалоханы шчупакамі касяк напароўся на нябачаную капронавую смерць. Як заўсёды, старая сілява пазасядала ў вочках жабрамі, а моладзь, падсіляўнікі — пупкамі. Я. Брыль.

ПУЦЬ *р. -і, жан.* У вялі́ку пуць. В. Шчасьлівае вам пуці́. Сл. До́брае вам пуці́! Гла́дкае вам даро̂жкі. Кл.

ПЧАЛАДЗЁР *р. -а, мужч., зняважл.* Той, хто выдзірае пчолы (мёд), злодзей. Ву́ ж рада́кцая (вы ж супрацоўнікі рэдакцыі газеты)! Я заявіла вам на е́таго пчаладзёра-зло́дзяя. На су́д яго́ трэ́ба. Глуск.

ПЭ′ХКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.,* ад гукапераймальнага *пэх.* Курыць і, выпускаючы дым, рабіць «пэх». Так даёлі (гл. *дае́сці* ў вып. 1959 г.) зь е́стым курэ́ньнем. Зьбяру́цца

да цалю́ткі ве́чар пэ́хкаюць. Адну́ (цыгарку) за друго́ю. Н. ж.

ПЯНСА′К *р. -у́, мужч., множн. няма.* Груца, буйныя ячныя крупы. Што мнê выцéты ваш рыс? Ні смáку, ні наêдку зь яго́. Во! Засквáрыць дóбрэ кáшы сь пенсаку́! Ці крýпніку дóбраго! Н. ж. Параўн.: *панцáк, грýца.* Угляны Мінск. р-на.

ПЯРЭ′ЕДЗІ *р. -яў, адз. няма.* Аб'едкі, выбіркі (у кармушцы, яслях, цэбры). Чаго́ ж на двôр? Пярэ́ядзі трэ́ба ў хлеў, каро́ве пад но́гі. Кл.

ПЯРЭ′СТЫ *прым.* Назва масці: з вялікімі белымі і чорнымі, белымі і чырвонымі ці бурымі плямамі. А як пярэ́стаго паганя́лі? Пярэ́! пярэ́! Кл. Пярэ́стых жараб'я́т не гаду́юць. Вайц.

ПЯЧА′ЙКА *р. -і, жан., множн. няма.* Як пячáйка, то со́ды вазьмі́. Барб. Ш чаго́ б такáя пячáйка? В. Гл. *печая́.*

## Р

РАБЭ′ЙЗА *р. -ы, агульн.* Так гавораць на таго, у каго на твары вяснушкі, рабацінне (гл. *рабацéнне* ў вып. 1960 г.). Глуск.

РАГА′Ч *р. -á, мужч.* 1. Частка сахі, яе аснова. Сл. 2. Саха. Параўн.: Прышо́ў багáч, кідай рагáч, бяры́ сявéньку й сêй памалéньку. Сл.

РАДАБО′ДЗІНА *р. -ы, жан.* Грубая рэдкая тканіна (гл. *радабо́ддзе* ў вып. 1959 г.). Мо́да такáя, зь нêйкае радабо́дзіны по́льты шыць. Кл.

РАЗАБРА'ЦЦА *-у́ся, -э́шся, законч.* 1. Тыя значэнні, што і ў літаратурнай мове. Гл. БРС. 2. Ачысціцца (небу ад хмар, аблакоў), прасвятлець. З ра́ніцы так, скажы́, насу́піласо й прыпа́рыло. Ду́мала, дож на ўве́зь дзень. Ада́ле (гл. *ада́ле* ў вып. 1959 г.) разабра́ласо. Кл. Каб разабра́лася, пад' êхаў бы ў Глуск. Вайц. Мо' й разьберэ́цца надвôр'е к ра́ніцы. Хал.

РА'ЗАВАЦЬ (*ра́за(у)ваць*) *-у-ю, -у-еш, неперах., незаконч.* Рабіць што-небудзь адзін раз за пэўны адрэзак часу (напрыклад, раз на дзень есці). А ці пра́ўда, што ваце́ты то́ўсты Гры́ня зімо́ю тôлькі ра́зуе? А лêтам, ка́жуць, два раз на дзе́нь êсь. Глуск.

РАЗА'ЧКА *р. -і, жан., множн. няма,* у спалучэнні *раза́чка рэ́жа (рэ́зала, зарэ́зала).* Раза́чка — рэзь, нясцерпны рэзкі боль у жываце. Чаго́ там раве́ш? Што? Раза́чка рэ̂жэ? Кл. Нашто́ зрэ̂залі (дрэўца)? Каб йіх раза́чка рэ̂зала. Пас. Я. К.

РАЗБАЗЫ'РАЦЬ *-а-еш, -а-е, неперах., законч.* Разбэсціцца, раздурэць, разбудрацьb (гл. *разбу́драць* у вып. 1959 г.). Разбазы́раў, рабіць ані́ ні хо́ча. Глуск. Ох і разбазы́ралі! Кру́пніку не хо́чуць, капу́сты не хо́чуць. Тôлькі каб лі́зікаў вам!.. Глуск.

РАЗБАЗЫ'РЫЦЬ *-у, -ыш, перах., законч.* Разбэсціць, раздурыць. Сам віна́ваты: ты ж разбазы́рыў йіх, ты й пара́дак навôдзь. Я разбазы́рыў йіх? Яны́ й са́мі разбазы́ралі. Глуск.

РАЗБІРА'ЦЦА (*разьбіра́цца*) *-а́-юся, -а́-ешся, незаконч.* 1. Тыя значэнні, што і ў літаратурнай мове. Гл. БРС. 2. Распагоджвацца

(гл. *разабра́цца*). Схаджу́, гля́ну ці разьбіра́яцца. Н. ж. Пашо́ў вêтрык, мо' й разьбярэ́цца, дась бôг. Кл. Параўн.: На дварэ́ бы́тта пачало́ разьбіра́цца. Купа Мядз. р-на.

РАЗГАГО'КАЦЦА *-а-юся, -а-ешся, законч.* Раскрычацца. Пара́ й сьці́хнуць. Разгаго́каліса, што мо' ў Глу́ску чува́ць. Кл. Гл. *гаго́каць* у вып. 1960 г.

РАЗГАСЦЯВА'ЦЦА *-ю́-юся, -ю́-ешся, законч.* Доўга гасцяваць. Разгасьцява́ўся Гры́шка, ўсё сьвя́та ў го́сьці то йдзе, то êдзе ў го́сьці. Пас. Я. К. 2. Доўга прымаць, мець у сябе гасцей. Во́ Ната́льліны разгасьцява́ліса: трэ́йці дзень го́сьці. Кл.

РАЗДАБЫ'ТКІ (*раздабы́(у́)ткі*) *р. -аў, адз. няма,* ужываецца з дзеясловамі *пайсці́, пае́хаць, пабе́гчы.* Пайсці на раздабыткі — пайсці на пошукі чаго-небудзь. Са́мі гультаê, дак усé (усё) на раздабы́ткі хадзі́лі. То таго́, то таго́, а ў самі́х вêчно то ма́ло, то німа́. Кл.

РАЗДО'БРЫ *прым.* Вельмі добры. Звычайна ўжываецца ў спалучэнні з *до́бры.* У йіх і са́мы до́бры раздо́бры чалавêк ні ўжыве́. Пас. Я. К. С тако́ю сьвякру́хаю хай до́бра-раздо́бра нявêстка, то лад хіба́ бу́дзе? В. Хто нядо́бры, а ты раздо́бры? Глуск. Параўн.: у руск. мове *добрейший, предобрый.*

РАЗДУРО'НЕЦ *р. -нц-а, мужч.* Гл. *ро́здур.* Ты такі́ хіба́ буў? З вас (з братоў) і аднаго́ тако́га раздуро́нца ні було́. Кл. Ой, раздуро́няц ты мôй! Хі́транькі такі́ раздуро́нчык! Усé (усё) каб яму́ й яму́. Пас. Я. К.

РАЗНЯДУ'ЖАЦЦА *-а-ешся, -а-ецца, законч.* Расхварэцца. Була́ ба́ба як пень. А нêшто разьнеду́жаласа, й ні́як хваро́бу не збу́дзе.

Стр. Зь ётакай лёжні й разьнядўжацца мôжно. Кл. Параўн.: *разнягóдзіцца, раздажджы́цца.*

РАСАМА'ТЫ *прым.* 1. Калматы, лахматы, касматы (пра чалавека). Прыхóдзілі цыгáнкі, дак усé (усё) ў йіх пад нáськіх, але расамáтые. Па-нáські ў хўстках, мо' каб йіх ні пазнáлı Кл. 2. З мноствам каранёў (пра буракі, моркву). За дзéнь такýю кýчу буракôў нахарашы́ла (гл.). Пабáч: усê як адзíн, на усю́ кýчу мо' двáццаць расамáтых. Кл.

РАСКІДНЫ' *прым.* Неэканомны, негаспадарлівы, не беражэ таго, што мае; бесталкова ставіцца да рэчаў, маёмасці. Ажаніўса ж. Мо' й пярамêніцца, ні бýдзе такí раскідны́. Хібá жôнка прывýчыць жыць. А то такí раскідны́! Жáлаваньне даю́ць што мêсец, а ў хáце дóбраго анічагéнькі ж німá. Кл.

РАСКО'Л *р. -а, мужч., множн. раскóлы.* Хуліган, жорсткі і нелітасцівы. Той раскôл хлóпца майгó с клáдкі ў рэ̂ку скапсанýў. Кл. Такí ўжэ сібéрны, да такí раскôл, што ва ўсім рóдзе ні былó такóга. Такóга раскóла сьвêт ні бáчыў. Глуск.

РАСПАТВО'РАНЫ *дзеепрым.* Раздураны. Хібá маê дзêці булí такíе распатвóраные? Кл.

РАСПАТВО'РВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Гл. *распатвóрыць.* Ты ўсе (усё), што я́, я́ вінавáты. А хібá ні ты распатвóрыла? Кл.

РАСПАТВО'РЫЦЦА *-ышся, -цца, законч* Распусціцца пры чыімсьці патуранні, раздурэць. Патурáцьмеш, пакýль распатвóрыцца. Глуск.

РАСПАТВО'РЫЦЬ *-у, -ыш, перах., законч.* Распусціць пры патуранні, раздурыць. Хібá

хто? Са́м вінава́ты. Распатво́рыў, што ніякаго ла́ду, што й сло́ва сказа́ць ні да́сь. Глуск.

РАСПІСЯ'ЖЫЦЬ (*расьпісяжыць*) *-у, -ыш, з він. і без яго, законч.,* ад *пісяжыць* (гл.). Зрабіць пісагі (гл. *пісяг* у вып. 1959 г.) на скуры жывёліны. Каб хаць пама́заць чым. Бач, расьпісяжылі каро́ву, дак му́хі рôй ро́ям. Кл.

РАСПУ'КВАННЕ *р. -я, ніяк.,* ад *распу́кваца* (гл. *распу́кваца, распукну́цца*). Раскрыццё пупышак, бутонаў (кветак). У са́мае распу́кванне са́ду. Кл.

РАСПУ'КВАЦЦА *-а-еца, незаконч.,* ад *распукну́цца* (гл.). Распу́кваяцца вішня — тагды́ хо́раш[э], а як асыпа́яцца — шко́да. Кл. Ужэ́ й вярг'іня распу́кваяцца. Пас. Я. К.

РАСПУКНУ'ЦЦА *-н-е́цца, законч.* Раскрыцца пупышцы, бутону (кветцы). Ско́ра без распукне́цца. Кл. А наш без ранêй распукне́цца за ва́ш. Пас. Я. К.

РАСТАРО'П *р. -у, мужч., множн. няма.* Тое, што і *растаро́п'е* (гл.). Растарôп, у чаравічках, нôч нахо́дзіць,— а ён на кірма́ш (на фэст), хоць ты што зь йім! Кл.

РАСТАРО'П'Е *р. -я, ніяк., множн. няма.* Многа гразі (увесну, увосень), дождж ці снег, бездараж, ха́лепа. У тако́е растаро́п'е ў Глу́сяк на кані хіба́ заêдзеш? Мо' каб кôнно (вярхом на кані). Кл. З Во́сава таго́ — ці вясна́ ці во́сянь — ні прыêхаць, ні прыці́. Адзі́н раз у растарôп'е пашла́ й наза́д вярну́лася. Кл.

РАСЦЫКА'ЦЬ *-а́-ю, -а́-еш, перах., законч.,* ад *цыка́ць* (гл. *цыка́ць* у вып. 1959 г.). Расхістаць. Кінь ты, аччапіса, расцыка́яш, то рас-

кідаяцца. Кл. Дава́й расцыка́йма (слуп). Бу́дзе кла́дка. Кл.

РАСЧА'ПАЦЦА (*рашча́пацца*) *-а-ецца, законч.* Гл. *ча́пацца* (1). Крук саўсі́м рашча́паўся. Нêкалі так бу́дзе, што вядро́ абарве́цца. Сь сямí хат па во́ду йдуць, а што рашча́паўса крук, ніхто́ ні ба́чыць. Кл.

РАСЧЫНІ'ЦЬ[1] (*рашчыні́ць*) *-ю́, -іш, перах., законч.* Расчыніць (дзверы, вокны). Рашчыні́ на часі́нку (дзверы), хай сы́йдзе смурôд. Кл.

РАСЧЫНІ'ЦЬ[2] (*рашчыні́ць*) *-ю́, -іш, перах., законч.,* ужываецца з назоўнікамі *хлеб, аладкі, цеста.* Тое, што і *у́чыні́ць* (гл. *учыні́ць*[1]). Рашчыні́ла хлêб, да ба́чу, што замесі́ць ці бу́дзе чым: мукí ма́ло. Кл.

РА'ТА *р. -ы, жан.* Частка плацяжу, доўгу; параўн.: у руск. мове *взнос.* Плаці́лі пада́так ні ўве́сь зра́зу. Дзьвê ра́це або тры ра́це. Аддасí пе́ршу ра́ту, а да́ляй другу́ю, а тагды́ трэ́йцю. Дава́лі акладны́ ліст. Пі́саласа пе́рша ра́та, друга́я ра́та. Кл. У в. Трухан. Слуц. р-на слова *ра́та* ўжываецца і для абазначэння часткі работы. Слова *ра́та* прыводзіцца ў шматлікіх беларускіх слоўніках, напрыклад у слоўніку І. Насовіча: ра́та — условленная арендная плата, у слоўніку Максіма Гарэцкага (1921 г.): ра́та — рассрочка платежа; у БРС яно прапушчана. Слова *ра́та* бытуе ў Маладз., Люб., Асіп., Слуц., Мін. р-нах.

РАЎНАВА'ЦЬ *-у́-ю, -у́-еш, перах., незаконч.* 1. Выраўноўваць пляцоўку. Дава́й раўнава́ць на кла́сы. В. 2. Параўноўваць. А што йіх тут раўнава́ць? Ты ні раўну́йся зь йімі. Кл.

РАЧЫ'ЦЦА *рóчуся, рóчышся, рóчыцца, незаконч.,* ужываецца толькі з дзеясловам *бажыцца* для ўзмацнення. Бóжыцца-рóчыцца, што не ён. А囯 наштó бóжысься-рóчысься? Н.-Андр.

РАШЫ'ЦЬ[1] *-ý, -ыш, перах., законч.* Рашыць. Пашці ніграматны, а ўсяку задачу рóшыць. Хал.

РАШЫ'ЦЬ[2] *-ý, -ыш, перах., законч.* 1. Распусціць, разбазарыць, без толку страціць. Там нябагáты панóк жыў. А памёр, дак сыны́ рашы́лі ўсе (усё), што сáмі служы́ць стáлі. Вольн. Хібá рóзум? За дзьвê нядзêлі рашы́ла сто рýблікаў. 2. Знішчыць каго, сябе. Нêйкі ў Гітляра спадрýчны быў, дак той у страхý дзяцéй свайíх, жôнку, адáле й сябé рашы́ў. Кл.

РАШЭ'ЦЬКА (*рашэцько(а)*) *р. -а, мужч.,* звычайна *множн.: рашэцькі, р. -цьк-аў.* Вельмі вялікі (параўн.: *рэ́шата*) і стары, нягодны (грыб). Наштó вы нанéсьлі такíх рашэцькаў? Хібá ж ето грыбы́? Лю́дзі абыхóдзілі, а вы й рáдые былí! Адны́ рашэцькі! Кáжаце, рашэцькі. Рашэцькі ні рашэцькі, а вýсусьце (высушце), то ўзíмку як нôйдзяце. Кл.

РО'ЗДУР *р. -у, мужч., множн. няма.* 1. Раздуранасць. З рóздуру ўсе (усё), што хóчэш: п'юць, кýраць, мáняць. Н. ж. У вас рóздур дзêцем. Хіба ето так трэ́ба? З рóздуру рóзуму не бýдзе. Барб. 2. Раздураны. Той бôльшы (хлапчук) вéльмі рóздур, такí раздýрны, што дáляй нíмá куды́. Кл.

РО'СКІДКА *р. -і, жан.* 1. Роскідка ўтвараецца, калі пачынаюць узорваць ад межаў. На рôскідцэ прóсо пасêю. Кл. 2. Мяжа, утвораная

на сярэдзіне загону. Ро́скідка, хаць што сêй,— пуста́я. Вêдамо, до́бру зе́млю зьве́рнуць на бакі́, а тут — што на таку́. Кл. 3. *Прысл.* На зі́му трэ́ба заго́ны ўро́скідку ара́ць. Тагды́ сêяць у склад (гл.). Кл. Параўн.: *ро́ськіць* (ро́скідзь). Кліны Бялын. р-на.

РО'СЛЫ *прым.* Той, які прарос, прарастае (пра збожжавыя зярняты). Чаму́ мнê, старшы́нько, кладаўшчы́к ро́слаго ячме́ню даў? Ці ж такі́ (рослы) êсьцімеш? Байл. З ро́слага жы́та хлêба ні сьпячэ́ш: расплыве́цца ў пе́чы. Калац.

РО'СЛЯ (*рôсьля*) *р. -і, жан., множн. няма.* Рост (працэс); росля (як і літаратурнае *расліна*) — з ростьлі́на; параўн.: у чэшск. мове *rostlina.* Халадэ́ча, дак німа́ ні на што́ рôсьлі. Усе́ (усё) дзёбам седзі́ць, рôсьлі німа́. Кл. Два пôцьсьвінкі (гл. *по́дсвінак*) гаду́ю. Нêшто рôсьлі на йіх німа́. Вêдамо, асянчукі́. Кл. Рôз бу (рос бы), да бôг рôсьлі ні да́ў. Кл. Жжаўцêлі гуркі́ (націна, лісце), й рôсьлі німа́ на йіх. Кл. Ве́льмі пôзные (кураняты). Вы́вяліся — жніво́ канча́лі. Нôч до́ўга, пахалада́ла. Сядзя́ць дзёбам (гл. *дзёбам сядзе́ць),* рôсьлі на йіх ані́ німа́. Ці й будзе зь йіх што? Кл.

РЫ'ЗІНА *р. -ы, жан.,* ад *ры́за* (гл. *ры́за* ў вып. 1959 г.). Старая, падраная вопратка. Да́йце ма́ма, ры́зіну еку́ю, на но́гі накі́нуць; по́куль даêдам, но́гі зôйдуцца. Вацéтым стары́м палíто́м укручу́ — ні зьме́рзнуць. Н. ж.

РЫ'ПАЛКА *р. -і, жан., насмешл.* 1. Дрэнны гармонік. Купілі нêйкую ры́палку, дак тôлькі ду́рацць цэ́лы дзень. Каб гармо́нік да гармо́нік, а то ры́паюць. Барб. 2. Няўмелы гарманіст. Ры́палка, а не музы́ка. Барб.

РЫШТА'НЕЦ. Гл. *арыштанец.* Трэба думаць, рыштанец (арыштанец) — пад уплывам *рыштаванне, рыштунак.*

РЭ'ГТЫ *р. -аў, адз. няма.* Вельмі энергічны і гучны смех. Отó ж рэ́гтаў было́! Кла́ліса аць сьмêху зь [е]гó. Сл.

## С

САЛО'ХА *р. -і, жан.* Неахайна апраненая, увогуле неахайная жанчына. Адна́ дачка́ й та́я сало́ха нêйка. Кл. Параўн.: Салоха — прозвішча. Беш.

САМАГО'ГА (*самаго́га*) *р. -і, агульн.* Ганарысты, фанабэрысты чалавек. Така́я самаго́га! «Я', брат!» «Ого! Я', брат!» Глуск. Параўн.: Які ён гога! які дока! Як ён нясе сябе высока! Я. Колас; Дайте ему только нож да выпустите его на большую дорогу, зарежет, за копейку зарежет! Он да еще вице-губернатор — это Гога и Магога. М. Гогаль.

САМАЛЮ'БІЦА *р. -ц-ы, жан.* Самалюбівая жанчына. Ні бу́дзь тако́ю й до́ма, й дзе. Самалю́біцу нідзе́ ніхто́ ні лю́біць. Кл. Гл. *самалю́бец* у вып. 1960 г.

САМАЯ' *р. -і, агульн.* Той, хто вечна выстаўляе сябе, часта гаворыць пра сябе. Параўн.: «сама я», «сам я». Яна́ ў йіх ве́льмі самая́. Кл.

СА'ННІ'К *р. -а* і *а́, мужч.* Майстра рабіць сані. Ваш ба́цька быў до́бры са́ньнік. Мо' дзяся́цяра сане́й прадава́ў за зіму. Кл. Цяпе́р лянуюцца са́мі рабіць са́ні. Глядзя́ць, мо гато́вых паткі́нуць. І саньнікôў ма́ла дзе е. Вайц.

САРАМО'ЦЦЕ *р. -я, ніяк., множн. няма.* Сорам, ганьба. Паêхаў зь йімі, тôлькі сарамôцьця набрáўся. В. Стаў раскáзваць, дак абы-штó, сарамôцьця слýхаць. В. На бáцьку кáжа «ты». Сóрам, сарамóцьце. Н. ж.

САСКЛЕ'ЦЬ *-é-ю, -é-еш, неперах., законч.* Тое, што і асклець (бытуюць абодва словы). Плáцьце (бялізну) прáла (гл. *праць* у вып. 1959 г.) на рацэ̂. То, скажы́, так зьмéрзла, так зьмéрзла! Дзé мая й душá бêдна сядзêла? Сасклêлі рýкі. Сасклêла саўсíм. Кл.

САТКА'ЦЬ[1] *-ý, -эш, перах., законч.* Выткаць. Ты саткáла сваê ўцірáньнікі? Кл.

САТКА'ЦЬ[2] *безасаб.* Саткала ў баках (у грудзях) — сціснула ў баках (у грудзях). Тáк саткáло ў бакôх, што й азвáцца ні маглá. Барб.

САЎТА'ЦЦА *-á-юся, -á-ешся, незаконч.* 1. Ісці хістаючыся. Такí слабы́, што хáты ні пярôйдзе. Йдзе, й хадá саўтáяцца. Кл. Трэ́ба прырэ̂заць (парсюка): хвóры. Ну, ўзганêм. Бач, саўтáяцца. Кл. 2. Сноўдацца, швэндацца, хадзіць без справы. Хібá ў Глýску пáжа? Павыганя́юць (кароў) на тýю пáжу, саўтáюцца, галóдные. Вайц. А вам усé (усё) німá рабóты? Сóраму німá. Саўтáюцца па вýліцы. Пасаўтáюцца, а тагды́ — за стôл. Кл.

САЦВІ'ЧНІК (*сацьвíчнік*) *р. -у, мужч., множн. няма.* Салома сацвіцы (гл. *сацвíца* ў вып. 1959 г.). А наштó звóдзіць сацьвíцу. Зьвелí німалáду наштó. Сацьвíца на кáшу. А сацьвíчнік на рэ̂зку (гл. *рэ́зка*[2] ў вып. 1959 г.). Сêчка дóбра (гл. *сéчка*[2] ў вып. 1959 г.) с тагó сацьвíчніку. Кл.

САЧЫНІ'ЦЦА. Адзначаны толькі інфінітыў і безасабовая форма прошлага часу — *сачыніласо* (*сачынілася*). *Сачыніцца* — здарыцца, *сачынілася* — здарылася. Нічóга зь йім ні сачыніласо, ні зрабіласо. Кл. Штó там у йіх сачыніласо? Хал. Мáла што маглó сачыніцца ў дарóзя? Усяк і ўсé (усё) бывáя. Вольн.

СВІНАРЫ'ЙНІК (*сьвіннарыйнік*) *р. -у, мужч.* Кавалак сенажаці, канюшыны, поля, зрыты свіннямі, увесь на ямах. Такí ў нас пóплаў (гл. *пóплаў* у вып. 1960 г.). А хібá касіцьмуць? Адзін сьвіннарыйнік.

СЕ'ДЖА (*сêджа*) *р. -ы, жан.* Засада (на ваўкоў). Даўнêй, я малéнькі буў, на сêджу хадзілі. Вóўка й на сêджы цяжко ўпал[е]вáць. Сл. Параўн.: *сíжа* (у рыбалоўстве). Мсцісл.; Пашоў на сежу, бо дзікі кабан унадзіўся ў грэчку да чыста вытаўк. Czesław Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia rzeczyckiego. Warszawa, 1938.

СЕ'ЧКА (сêчка) р. *-і, жан.* Рыба Cobitis taenia L. А на сêчку раз акуня злавíў. Кл. Параўн.: *сéкаўка.* Сёмк. Гар. Мін. р-на. Гл. *сéчка* [1], *сéчка* [2] ў вып. 1959 г.

СЁЛЕТАК (*сёлятак, сягóлятак*) *р. -тк-а, мужч.* Сёлетні, гэтага года. Адзін мêх сёлятку, а мêх залêткаваго. Кл. Тры ўсіх, і ўсê сягóляткі. Кл.

СЁЛЕТКА [1] (*сёлятка, сягóлятка*) *р. -тк-і, жан.* Сёлетняя, гэтага года (напрыклад, пшаніца), з сёлетняга ўраджаю; жывёліна, птушка да году (не «леташняя»). Спутлюймо пшаніцы, каб сёляткі — смачнêйшы пірôг бýдзе. Кл. Мая аднá (курыца) сягóлятка пачалá нéсьціса. Кл.

СЁЛЕТКА[2] (*сёлятка, сягóлятка*) *форма ацэнкі* ад *сёлета, сягóлета.* Угадáй, хто сёлятка ў гôсьцях у нас бýдзе? Кл. А сягóлятка й ты ў шкóлку. Кл.

СЁРБ *выклічнікава-дзеяслоўнае слова* тыпу *хоп, кідзь,* ад *сёрбаць.* Гл. *сёрбала.*

СЁРБАЛА (*сёрбало (а)) р.-а, агульн., ацэначнае* тыпу *боўдзіла.* Той, хто, едучы́, гучна сёрбае. Бакі́ пападрывáць! Стáнуць êсьці, дак усê сёрбаюць на ўсю хáту. Сёрбалы, дай гóдзі. Тôлькі сёрб, сёрб! Кл.

СЁРБАЛА[2] *форма прошлага часу,* ад *сёрбаць* (*сёрбаць* і *сярбáць*). Кл.

СІВУ'ЛЯ *р. -і, жан.* 1. Дзяўчына, якая робіць штосьці, вытварае, як малое. Такáя сівýля, а ў ля́лькі гуля́ць. Кл. 2. Перастарка. Сівýля тáя ні лю́біць нікóга, прас тóе й векýе аднá. Кл.

СІЛО'С *р. сілóсу, мужч., множн. няма.* 1. Сілас. Сёлята сілóс вéльмі прыдáчны. Такóго сілóсу мо' нікóлі не былó ў нас. Барб. 2. Перан. Мешаніна. Нêйкага сілóсу пастáвіла. Намêшано чагó хóчаш там. Глуск. На вінягрэ́т кáжуць сілóс. Вайц. Параўн.: *сілóс, сілóсу, сілóсам.* Трасц. Барыс. р-на.

СКАПСАНУ'ЦЬ *-ý, -éш, перах., законч.* Саштурхнуць, спіхнуць. Ці чýла? Той раскôл хлôпца майгó с клáдкі ў рэку скапсанýў. Кл.

СКІДА'ЦЬ[1] *-á-ю, -á-еш, перах., незаконч.* Скідаць. Кл., Сл., Хал., Зуб., Вольн.

СКІДА'ЦЬ[2] *-á-е, -á-юць, перах., незаконч.* Абарціравацца. Тры гады́ падрáд скідáла (кабыла) жараб'я́, дак хóчуць збуць (збыць). Кл.

СКІ́НУЦЦА [1] *-у-ся, -еш-ся, законч.* Скінуцца. Кл., Барб., Хал.

СКІ́НУЦЦА [2] *-уся, -ешся, законч.* Распрануцца да галізны, поўнасцю распрануцца. Ну, скіда́ймася купа́цца. Я скі́нуўся, а ты бая́ка — байі́сься халôднае вады́. Кл. Скі́нься, хай дôктар зірне́ на тваê пле́чы. Кл.

СКІ́НУЦЦА [3] *-уся, -ешся, законч.* Засмецічца (пра збожжа). Мае́ про́со усе́ (усё) чы́сьцянько скі́нуласо лебедо́ю. Кл. Бач, ячме́нь аўсо́м скі́нуўса. Кл. У такіх прыкладах, відаць, адлюстроўваецца творны склон так званага *скідвання-ператварэння* (вядзьмак скінуўся ваўком; скінулася дачушка шэраю зязюляй).

СКЛАД [1] *р. -у, мужч., множн. няма.* 1. Канстытуцыя (будова цела). Склад у жарэ̂бчыка харо́шы, а бêгу ані. Лêпш спаклада́ць. Начо́рта тако́е на развôд! Што́ с таго́ скла́ду, калі́ бêгу німа́. Пас. Я. К. 2. Крыж (у каня). А ў ётага (каня) склад, што ў сьвіньні́. Пас. Я. К.

СКЛАД [2] *р. -у, мужч.* Лад, парадак. У каго́ які склад, так і жыве́. Глуск. У фразеалагізме *ні скла́ду ні ла́ду.* Сым.

СКЛАД [3] *р. -у, мужч., множн. няма.* Стык «скінутых», «складзеных» з двух бакоў барознаў. Паждôм Міхася́, хай ён пачне́ склад. Бо з нас хто складзе́ ні склад, а тôлькі крыву́лю. Кл. На скла́дзе (ячмень) дôбры, а зь ме́жак ліхі́, рэ̂дкі, дрôбны. Пас. Я. К. У фразеалагізме *скла́сці склад* — «скласці» дзве першыя баразны. Міха́сь, той, брат, складзе́ склад, як па ліне́йцэ. Кл. 3. *Прысл. ускла́д.* Усклад (узараць загон) — так, што першыя

дзве баразны адкідаюцца адна насупраць другой. Картôплі ў рóскідку (гл. *рóскідка*) ні гадзíцца, серадз загóна пустóе бýдзе, бýдам арáць усклáд. Кл.

СКЛАД[4] *р. -у, мужч., множн. склады́.* Склад (памяшканне). Зь яê зрабілі склад. Кл.

СКЛАД[5] *р. -у, мужч., множн. склады́.* Малóе, ў шкóлу ня хóдзіць, а ўжэ й бэкая па складôх. В.

СКЛАДА'НЧЫК *р. -а, мужч.* Ножык-сцізорык. Параўн.: у руск. мове *складной ножик.* Дай мнê складáнчыка. Я табê ні шкадавáў свайгó, а ты свайгó складáнчыка ні даéш. Папрóсіш і ты. Дáм я што!.. Пас. Я. К. А ў кнíзе чытáў: сьцізóрык. Кл.

СКО'ЎЧАНЫ *дзеепрым.* ад *скóўчыць.* Гл. *кóўчыць, пакóўчыць, скóўчыць.* Дýмай ты! Увéсь-усéнькі лянóк скóўчаны! Хібá ето рóзум? Распýста. Кл. Уся́ канюшы́на скóўчана. Пас. Я. К.

СКО'ЎЧЫЦЬ *-у, -ыш, перах., законч.* Гл. *кóўчыць.* Ці ж лáд? Ці ж парáдак? Разьдзêўся б і лёг. А то й пасьцéль скóўчыў, і адзéжу ўсю скóўчыў. Бáчыш, скóўчаны піжáк, што пажавáны ўвесь. Кл.

СКО'ЧКА *р. -і, жан.* Расліна Sempervivum soboliferum Sims. Кл. Параўн.: *скóчка.* Шэм. Слуцк. р-на; *рэ́па.* Купа Мядз. р-на; *кóтка, множн. кóткі.* Пуст. Докш. р-на. Назва *скóчка* звязана з тым, што пры размнажэнні ад адной расліны як бы «адскоквае» другая. У нáс скôчкамі магілы апсáджваюць. Кл. Ці бо цьвітýць скôчкі? Кл. Мо' с паўгóду вісêлі пац стôльлю. А зьня́ў — сяднó (усё адно) што ўчóрэ прынéсьлі тых скóчак с кладôў (могі-

лак). Ка́жуць, што пасадзі́ ў агаро̂джчыку, то ўцячэ. Дзе́ й дзе̂няцца ско̂чка е́та? Кл.

СКО'ЧЫЦЬ *-у, -ыш, законч.* 1. Скочыць. Кл., Хал., Зуб. Хуценька збегаць, з'ездзіць куды-небудзь, да каго-небудзь. Ско̂ч, сыно́к, па на́шу сакерку. У дзе̂да Трахі́ма. Кл. Я й сама́ ско́чыла б — машы́ны ж бяско́нца йдуць. А на каго́ ж дзіця́? Сама́ паду́май. Пас. Я. К.

СКРУЦІ'ЦЦА *-ішся, -іцца, законч.* 1. Тыя значэнні, што і ў літаратурнай мове. 2. Звар'яцець, здурнець, знялюдзець. Цітко̂ў круці́ўса, по́куль скруці́ўса. Кл. Дальбо̂г скруці́ўса; дзе̂ці, гаспада́рка, а ён — у пры́мы, кінуўшы ўсе (усё). Хал. Зра́зу е̂сьці ні ўзяў (сабака), ада́ле кі́дацца стаў. Ба́чым, скруці́ўса. Кл. Параўн.: Як мяне забралі ў астрог, то я вельмі нудзіўся, да чуць, чуць не скруціўся. Czesław Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia rzeczyckiego. Warszawa, 1938.

СЛЕ'ПЕНЬ *р. -ен-я, мужч.* Сляпень, насякомае Tabanas bovinus. Пас. Я. К., Кл., Байл. Сьле́пень, хале̂ра, ве́льмі куса́яцца. Кл. На сьле́пяня, я́зя ўлаві́ў. Кл.

СЛІЗГАТА' *(сьлізката́) р. -ы́, жан., множн. няма.* Слізгота. Што та́к сёні сьлі́зка, што така́я сьлізката́, што пярайці́ шлях ні змагла́, збая́ласа ўпа́сьці. Кл.

СЛІЗГО'ЦЦЕ *(сьлізко̂цьце) р. -я, ніяк., множ. няма.* Слізгата. Ну й сьлізко̂цьце сёні. Байл.

СЛІ'МЕНЬ *р. -ен-я, мужч.* Земнаводнае Angulis fragulis Lin. Кл. Сьлі́мень го̂ршы за гадзю́ку. Кл. Сьлі́мень сьляпы́ саўсі́м. Кл. Параўн.: Слімы — назва ўчастка (лес, палян-

ка). Можна думаць, што *Слімы* — ад таго кораня, што і *слімень*.

СЛЯПІ'НДРА *р. -ы, агульн.* Слепаваты; той, хто кепска бачыць. Сьляпіндра той ко́сы (касы́), зачапіў да ўсю вêшалку лёну абурыў. Кл.

СМАКАНУ'ЦЬ (*смак(а)ну́ць*) *-у́, -е́ш, перах., законч.* Гл. *смакну́ць.*

СМАКНУ'ЦЬ (*смак(а)ну́ць*) *-у́, -е́ш, перах., законч.* 1. Чуць-чуць, крышачку глынуць чаго-небудзь вадкага, крышачку каўнуць (гл. *каўну́ць* у вып. 1959 г.). Нêшто захварэла, пад грудзьмі баліць. То за дзень тôлькі мо' з напа́рстак сыро́вадкі смакну́ла. Кл. Мо' б хаць ча́ю смакану́ў? Пас. Я. К. 2. Паспытаць чаго-небудзь вадкага. На́, смакні́ майго́ ква́су. Кл.

СМЕХАТУ'ХА *р. -і, жан.* Рагатуха (ужываецца і *рагату́ха*). Віда́ць, што дзêўка: 'шчэ ў калы́сцэ, а ўжэ сьмяхату́ха. Кл.

СМУЧА'Й *р. -ю, мужч., множн. няма.* Расліна Eriophorum vaginatum L. Можна меркаваць, што *смуча́й* ад *смы́каць* (выцягваць, выскубваць): расліна лёгка выцягваецца («высмыкваецца»). Тава́рына лю́біць смуча́й. А ў на́с буў рабе́нькі вôл, дак той як уба́чыць мох, то й палêз, хоць па чэ́раво, ўвесь смуча́й зьзêсь. Смуча́й цяля́та лю́бяць. Кл.

СМЯЛЯ'К *р. -а́, мужч.* Смяльчак (у мове моладзі звычайна *смяльча́к*). У Бая́наве быў такі́ Зялёнка. Што за сьм[е]ля́к! Але йшчэ ў ту́ю во́йну дзе й дзêўся, нêйдзе ў Краншта́це. Вайц.

СО'ЛКАЯ *прым.* ад *соль.* Мусіць, ваце́та разьме́ляна сôль ні така́я сôлка, як драбко́вая. Разьме́лянае бôльш сы́плю. Кл.

СО'ЎГАЛА *(со́ўг'ало(а)) р. -а, агульн., зняважл.,* ад таго кораня, што і *со́ўг'аццa* (гл. *со́ўгацца* ў вып. 1959 г.). Бесклапотны чалавек, які сноўдаецца без справы і заняткаў. Нашто́ ўжэ той, а й ён ажаніўса. Каза́лі, каму́ такі́ жані́х трэ́ба? Ідзе́, дак ду́маяш — дрэ́мле. Со́ўг'аяцца, як ніпатрэ́бнік. Со́ўг'ало нêйкі. Кл.

СПАДПЕ'ЧЫЦЬ *(спа(у)тпêчыць) -у, -ыш, перах., законч.* Ненарокам выдаць чыесьці намеры, не разумеючы, што так можна прычыніць непрыемнасць. Усе́ (усё) было́ б до́бра, але Чыруні́ха спатпêчыла. Кл.

СПАКАЙНЕ'ЧА *р. -ы, жан.* 1. Спакой, урачыстая цішыня. Там у йіх прыдо́ба. Там спакайне́ча. До́брэ ў йіх. Кл. 2. Вельмі памяркоўны чалавек, спакайня́ка (гл.). Каб на до́брага, дак с тако́ю спакайне́чаю жыць мôжна было́ прыпява́ючы. Кл.

СПАКАЙНЯ'КА *р. -і, агульн., давальн.* і *месн. -к-у (мужч.), -ц-ы (жан.).* Спакойны, памяркоўны, патульны. Ён до́ўго ні ўбуў за старшыню́. Дзе́ яму! Такі́ спакайня́ка. Трэ́ба дзе й нава́жыць і панастыра́цца. А ён бôльш слу́хае. Барб. Пры такôй спакайня́цэ мôжно жыць. Барб. С такі́м спакайня́кам мôжно жыць і жыць, а то кру́ціцца. Барб. І сам до́бры, й жôнка така́я спакайня́ка. Кл.

СПАРО'ЦЬ *-у́, -аш, перах., законч.* 1. Скінуць, збіць што-небудзь. Дава́й спо́рам ты́я я́блыкі сьпêлыя, што ў са́мянькам шчытку́ (гл. *шчыто́к*). Пас. Я. К. Вазьмі́ вудзі́льна й спары́ (закінутую на дах шапку). Кл. 2. Зруйнаваць (птушынае гняздо). Ла́стаўку спаро́ў, дак рабаце́нне на ліцы́. Кл. 3. Выжыць (каго-небудзь з пасады). Дату́ль хадзі́ў, дату́ль парôў, па-

ку́ль спарôў. Прыêхалі з Глу́ска й зьня́лі с старшыні́ (з пасады старшыні сельсавета). Кл.

СПАТРЭ́БІЦЬ *-бл-ю, -б-іш, перах., законч.* Выкарыстаць, скарыстаць што-небудзь. Ты бок (гл. *бок* [2] у вып. 1959 г.) ні спатрэ́біла тых ні́так, што асталі́са? Кл. Сабра́ла бôльш за тры́ капê яéчак. Натра́пліліся го́сьці, то да аднаго́ спатрэ́біла. Кл. Мо' ж ты ня ўсю́ хва́рбу спатрэ́біла? В. Параўн.: у руск. мове *использовать.*

СПЕРАЗА́ЦЬ (*сьпе(я)раза́ць*) *-ж-у́, -ж-э́ш, перах., законч.* Агрэць, лупцануць, сцебануць. Слу́хаў таго́ хло́пца, слу́хаў, ада́ле (гл. *ада́ле* ў вып. 1959 г.) як сьпераза́ў па плéчах. Байл. Параўн.: узяў гэто я кій да як сперазаў таго барана. А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911.

СПЕ́РЦІ (*сьпéрці*) *сапру́, сапрэ́ш, перах., законч.* 1. Загнаць куды-небудзь далёка. Ну й дзе йіх (хлопцаў) чорт сьп'ёр? Куды́ йіх сагна́ла нічы́ста сіла? Н. ж. Што́ за ўрэ́дные хлôпцы? Сьпéрлі нêйдзе гусéй. Што йім гу́сі?! Ко́жнянькі дзень, сапру́ць ліхавêд куды́. В. 2. Сагнаць у адно месца. Дзêці дзêцьмі: сьпéрлі тры чарады́ тава́ру на адну́ паля́нку. Хіба́-то па́жа (паша)? Йім вéсяло, а каро́ва гало́дная ўвéчары пры́дзе. Пас. Я. К. 3. *Спéрла* — сціснула (у грудзях, у баках). Жывôт балі́ць, у бакôх сьпéрло. Кл. Сьпéрла ў гру́дзях, ні дыхну́ць, ні сказа́ць. Вольн. 4. Прагнаць, зняць з пасады. Даўно́ сьпéрлі (з пасады крамніка), што апшчы́тваў: трэ́ба даць п'яць, а дась тры капêйкі. Барб. 5. Скінуць. Кінуло на ўха́бу, дак са́ні с каладаю сьпéрло ў кана́ву,— наму́чыліса. Кл. Ту́ю вéсну така́я вада́ была́, што сьпéр-

на мôст. Сым. 6. Зваліць на каго-небудзь. Вінава́тыя трох, а сьпе́рлі на аднаго́. Зуб.

СПІСАВА'ЦЬ (*сьпісава́ць*) *-у́-е, -у́-юць, перах., законч.,* ад *пісава́ць* (гл.). Я каза́ў дзя́дзьку, што ро́гі трэ́ба ўрэ̂заць. А то ўсê каро́вы сьпісу́е. Байл.

СПІСЯ'ЖЫЦЬ (*сьпісяжыць*) *-у, -ыш, перах., законч.,* ад *пісяжыць* (гл.). Кажу ж табе: гад ён, так спісяжыць карôўку! Кл.

СПІЦА'К (*сьпіца́к, сьпіча́к*) *р. -а́, мужч.* Шыла з цвёрдай драўніны, косткі, якім шыюць каробкі з лубу. Сьпіца́к свôй. Аж два. Адзі́н з галі́ны, е́лка цьво́рда. Мо' два́ццаць гадкôў жыве́. А другі — кôстка. Сл. З тым самым значэннем: *суга́к, бада́к, падпле́тка.*

СПО'РВАЦЬ *-а-ю, -а-еш, незаконч.* Тое, што і *апо́рваць* (гл. *апо́рваць* [1]). Ты ні так спо́рваяш. Дай хіба́ я. Пас. Я. К.

СПО'РКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, законч.,* ад *по́ркаць* (гл.). Скалупаць, зрыць. Кл. Уве́сь загôнчык спо́ркалі парася́ты. В.

СПРАКАВЕ'ЧНЫ (*спрака*(*у*)*вêчны*) *прым.* Спрадвечны. А ў нас тут спракавêчны лêс. Нêйкі тур да зубрэ̂ былі́ даўнêй. Зуб. Параўн.: спра́ку-ве́ку.

СПРАКУВЕ'ЧНЫ *прым.* Гл. *спракаве́чны.*

СПРОБ Проба. Ужываецца побач са *спро́ба.* Дава́й на спрôб: хто да́ляй закі́ня — я ці ты? Ні хо́чу с табо́ю на спрôб: ты скру́ціш. Пас. Я. К. Гл. *спро́ба.*

СПРО'БА *р. -ы, жан.* Ужываецца побач са *спроб* (гл.).

СПРОБНЫ *прым.* Фато́граф ні ўсê зрабі́ў, тôлькі дзьвê спро́бныя. Побл. Параўн.: Спро́бныя харо́шыя. Я я́к усê бу́дуць? Бялын.

СПРЫТНЯ′К *р. -á, мужч.,* ад *спры́тны.* Ве́льмі ж у бе̂днасці расьлí. А пасьля́ вы́людзкаваліся (гл. *вы́людскавацца*), усе̂ такíе спрытнякí, такíе рабо̂цькі (гл. *рабо́цька* ў вып. 1959 г.). Пас. Я. К.

СПРЫТНЯ′КА *р. -і, жан.* Гл. *спрытня́к.* А ў яго́ й жо̂нка спрытня́ка. Хал.

СПРЫТНЯ′ЧКА *р. -і, жан.* Гл. *спрытня́к, спрытня́ка.* Мару́ся — акура́тна маладзíца. Така́я спрытня́чка ў нас! Н. ж.

СТАГАВІ′К *р. -á, мужч.* Той, хто ўмее добра складаць сена ў стагі. Над ва́шага ба́цька ў нас німа́ стагавіка́. Скíдае сто́га, то нікóлі ні замо́кне (сена), ні скры́віцца, ні падмо̂кне. До̂бры стагавíк! Кл.

СТА′ДНІК *р. -к-а, мужч.* Бугай. Параўн.: у газетнай мове калька *бык-вытворнік.* Што ста́днік, што буга́й — то́е са́мае. Ста́днік у ста́дзе. Барб.

СТАЕ′ННІЦА (*стае́ньніца*) *р. -ы, жан.* 1. Рыса́чка. У Шум'я́тычах даўне̂й гадава́лі. Ну й стае́ньніцы булí! Кл. 2. Кабыла, якую і ўлетку трымаюць на стайні. У старшынí выязна́я стае́ньніца, бра́це, як ля́лька. Кл. Гл. *стае́ннік* у вып. 1959 г. 3. Худая і слабая жывёліна. Куды́ тваю́ таку́ю стае́ньніцу? Хал.

СТАМБО′ЛЬ *р. -ю, мужч., множн. няма.* Гатунак табаку. Каб дзе насе̂ньня стамбо́лю найцí: й пахне́, й расьце́ до̂брэ. Кл. Відаць, ад таго кораня, што і *Стамбул.*

СТАРА′ННІЦА (*стара́ньніца*) *р. -ы, жан.* Старанная жанчына. Чаго́ ж ты, така́я стара́ньніца, сама́ ні рабíла? Вольн. На́ша Мару́ся — стара́ньніца, адны́х грыбо̂ў мо' пуд нанасíла. Н. ж.

СТАРМУСНУ'ЦЬ *-ý, -éш, перах., законч.* Энергічна страсянуць. Ідзêце сáмі страмусьнêце я́блыну, мо' ў вас сіла бôльша. Кл. Той схапіў зáгрудкі да так стармуснýў, што зýбы забрáзкалі да зая́скалі. Н.-Андр.

СТАРЭ'ННЫ *прым.* Вельмі стары. Рыгôр буў бêлянькі-сівянькі. Хто ўбáчыць, дýмае: вéльмі старэ́нны, а ямý мо' год ці два за шэйдзясят. Кл.

СТАЎПЕ'ЧЫК *р. -а, мужч.* Адпілаваны кароткі кавалак нятоўстага бервяна. Усю калóду парэ̂заў на стаўпéчыкі, а тады́ ўжэ выбірáе, што на што. Кл.

СТО'ЛІК *р. -а, мужч.* 1. *Памянш.* ад *стол.* Стóлік наш «памірáе». В. 2. Шуфляда ў стале. Пашукáй у стóліку, там Хвéдзява пальчáтка булá. Кл. Схавай батарэ́йку ў стóлік. Хал.

СТОЎБ *р. -а, мужч.* Слуп. Да абêду аднагó стóўба ўкапáлі. Хібá рабóта? Мóжна былó ўкапáць чаты́ры-п'яць стаўбôў. Кл. Стóўбікаў навазілі на нêшта. В.

СТРУГАНУ'ЦЬ *-н-ý, -н-éш, з він. і без яго, законч.* 1. Стругануць. Як струганýў — і вы́крышыласа жаля́зко. Пас. Чырв. 2. Пра моцны і вельмі халодны, пранізлівы вецер. Ад буды́нку ні атыйці. Як струганé-струганé (вецер)! Ні мýсіла (не магла) грэ́блю пярайці: чы́сто, ні ў лêсе, дак так стрýжэ... Кл.

СТРУГА'ЦЬ *-ж-ý, -ж-аш, з він. і без яго, незаконч.* Гл. *струганýць.* Наштó стругáць йіх? Так палажы́ць мôжно, ні стругáўшы. Мôст ні падлóга. Хал. Каб заледзêў марôз і вêцер éты! Такі ўжэ (вецер) што ні ўтрывáць. Так стрýжэ, што як агнéм пáліць. У дварэ̂ ні тáк. А вýй-

шла на грэ́блю, дак та́к стру́жэ, што йці ні дае́. Кл.

СТРЫ′КА′ЦЦА [1] *-а́-юся* і *-а-юся, -а́-ешся* і *-а-ешся, незаконч.,* ад *стры́ка́ць.* Насіцца, круціцца. Сьвярбіць, што ні ўсе̂дзіш? Дак настры́кайса крапіваю. Кл. Параўн.: з такім самым значэннем *стрі́каццa.* Мсцісл.

СТРЫ′КАЦЦА [2] *-а-юся, -а-ешся, незаконч.* Біцца пстрычкамі, даваць пстрычкі. Сьціхніце! Стры́каюцца, паку́ль адзі́н аднаму́ ў во̂ка. Вазьму́ паўро́зы, настры́каюся! Н. ж.

СТРЫ′КА′ЦЬ *-а́-ю* і *-а-ю, -а́-еш* і *-а-еш, перах., незаконч.* Секчы, сцябаць каго-небудзь крапівою. Кл. Параўн.: з такім самым значэннем *стрі́каць.* Мсцісл. У чэшскай мове *střečkovati* — бегаць (пра жывёлу, якую ўкусіў *střeček*), гізаваць, здракаваць.

СТРЭ′ННІ *прым.* ад *стрый* (бацькаў брат), *стрэ́нні* — са *стрые́чны.* Маладзе̂йшы хто, той ці й ве̂дае што стрэ́ньні. Цяпе́рашнія малады́я ні ве́льмі й зна́юцца. Пас. Я. К.

СТЫКА′ЦЦА *-а́-юся, -а́-ешся, незаконч.* 1. Стыкацца. 2. Не стыка́цца — не затрымлівацца, быць дзе-небудзь вельмі мала. Наш у канцыля́рыі ні стыка́яцца: то яму́ то́е, то друго́е, пашо́ў і пашо́ў. Кл. Весна́, то дзе̂ці до́ма й не стыка́юцца. Глуск. Хіба́ с таго́ пустадо̂мка толк які бу́дзе? Прые̂дзе на каніку́лы ці так, то ўсю́ды абла́хкае, ўсю́ды аббе̂гае, а до́ма й ні стыка́яцца. Пас. Я. К. Параўн.: (з тым самым значэннем) Цалюткі дзень не стыкаецца ў хаце. М. Зарэцкі.

СТЫКА′ЦЬ *-а́-ю, -а́-еш, перах., незаконч.* Зводзіць, сварыць каго з кім. Ці хіба́ ты ні ве̂даў яго́? Хітры, лю́біць стыка́ць. Саткне́, а

тые сва́рацца. А ён збо́ку пасьмі́хвацьмяцца. Барб. Уся́кіх людзе́й бага́то. Була́ ў Мі́нську ў сы́на. Дак нêйкі — забу́ла, як заве́цца, ўжэ сівы чалавêк, дак п'е, гаво́рыць, здэ́цца, ба́цько ўсім. Ада́ле ву́йшаў, то ўсê гôсьці ў адно́: ве́льмі лю́біць стыка́ць таго́ с тым, а таго́ с тым. Кл.

СУГА́К *р. -а́, мужч.* Тое, што і *сьпіца́к* (гл.), *сьпіча́к* (гл. *сьпіча́к* у вып. 1959 г.). Пада́й суга́к. Сл. У ва́с сьпіца́к, у на́с суга́к. Сл.

СУКАВА́ТЫ *прым.* ад *сук.* 1. Сукаваты. Сл., Хал., Кл. 2. Нязграбны. Сукава́таму тако́му ўсю́ды ву́зко. Кл. 3. Занорысты, задзірысты. Бу́дзяш такі́ сукава́ты, то апчэ́шуць. Вайц.

СУКО́НКА *р. -і, жан.* Ануча з сукна. Абгарні (на ногі) суко́нкі. Ве́льмі ж марôз. Бес суко́нак но́гі паме́рзнуць, прасты́неш. Кл. Даўнêй у ла́пцях хадзі́лі й нôг ні маро́зілі, суко́нкі абува́лі. Пас. Я. К. Суко́нкі — дак е́та ану́чы суко́нныя. В.

СУМАРО́К *мужч.,* толькі ў спалучэнні з *найшо́ў.* Каб на йіх сумаро́к найшо́ў! Куды́ яны́ пашлі́? Кл.

СУМНЕ́Ў (*сумн(л)ếў*) *р. -в-у, мужч.,* толькі ў *родн. Без сумле́ву, без сумне́ву* — без сумнення. Тут нашто́ варажы́ць? Бес сумлêву браць трэ́ба. Кл. Раз німа́ сумнêву, то ду́май сама́. Кл.

СУРМІ́ЛА (*сурмі́ло(а)*), *р. -а, агульн.* Нязграбны і суровы, непамяркоўны чалавек. Каб хто́, а той сурмі́ло ні ве́льмі кі́няцца памагці́. Кл.

СУСЮ́ЛЬ *прысл.* Зусюль, адусюль. У на́ш млін ты́е ра́зы сусю́ль наêдзе людзе́й. Атку́ль тôлькі ні ве́зьлі? Сусю́ль êхалі. Кл. Параўн.:

Адусю́ль зьбе̂гліся. Рад. Адусю́ль на ры́бе бываюць. Астр. Гар.

СУХАЛЕ′ССЕ (*сухале̂сьсе*) *р. -я, ніяк., множн. няма.* Хваёвы лес, дзе няма забалацяў, вільгаці. Е ўся́кіе лесы́. Бува́ло йдзеш — хво́йі зь не̂бам гаво́раць, а пад йі́мі то̂лькі йглі́ца (гл. *ігліца* ў вып. 1959 г.). Адно́ сухале̂сьсе. Сл. Туды на цяскі́, на сухале̂сьсе схадзі́. Дажджэ̂, то мо' й ву́расьлі (грыбы). Кл. По́жар прайшо́ў, дак мо' на дзьве̂ ці на тры вярсьце̂ сухале̂сьсе, абгарэ̂лы, дак сухі́ ле̂с. Кл.

СУХАНДРА′ *р. -ы́, агульн.* Вельмі худы, сухі, «толькі косці». Гл. *сухандры́цкі.* Хіба́ ў тако́го сухандры́ сі́ла е? Кл. Каму́ така́я сухандра́ трэ́ба? Байл.

СУХАНДРЫ′ЦКІ *прым.* ад *сухандра́* (гл.). Бу́дзеш такі́ сухандры́цкі, то й у шко́лу ці пры́муць, а на лёччыка й блі́зка ні пу́сьцяць. Пас. Я. К.

СУХАРЭ′БРЫ *прым.* ад *сухія рэ́бры.* Гл. *сухарэ́брык, сухарэ́брыца* ў вып. 1960 г. Такі́х сухарэ́брых (парасят) у на́с зада́рам даю́ць, а ты й цаны́ сухарэ́брыкам ні ска́жаш. Глуск. С тае̂ сухарэ́брае (каровы) бо̂льш малака́, як с тае̂, што з вало́ваю шы́яю. Кл. Хіба́ на такі́х сухарэ́брых (конях) гно̂й вазі́ць? Што́ на йі́х наво́зіш? Пас. Я. К.

СУХЕ′ЧА *р. -ы, агульн.,* ад *прым. сухі* (худы). Такі́ сухе́ча бо́рацца са мно́ю? Аднае́ю руко́ю валю́. Н. ж.

СУ′ША *р. -ы, жан., множн. няма.* Ватэ́такаю су́шаю по́жар (лясны пажар) по̂йдзе. Вольн.

СТУХУ′ЛІЦЦА (*стуху́ліцца* і *сху́ту́ліцца*) *-юся -ішся, законч.* Скурчыцца, увабрацца гала-

ву ў каўнер, рукі пахаваць пад пахі. Нêяк уно́чы йшла да зірк, а ён стайіць, стуху́ліўса й ні азва́ўса. Кл. Ні было́ апара́ту. Мы б зьнялі́, як стая́ў п'я́ны, схуту́ліўшыся. Кл.

СХАМЯНУ'ЦЦА *-у́ся, -е́шся, законч.* 1. Апамятацца, абдумацца. Зайшла́ аж пуд Ва́рту, да й схамяну́ласа: хлêб мôй у пе́чы. Кл. 2. Схамянуцца. Схамену́ласа я, а маê гуро́чкі й расôл залядзенêлі. Кл.

СХУДА'ЦЬ *-а́-ю, -а́-еш, неперах., законч.* Схуднець. *Схуда́ць* ужываецца побач са *схудне́ць.* Кл.

СХУТУ'ЛІЦЦА. Гл. *стуху́ліцца.*

СЦЕПАНУ'ЦЬ *-у́, -е́ш, перах., законч.* Лёгка страсянуць, тармаснуць (напрыклад, дрэўца). Хадзêм, сыно́к, сьлі́вак сьцепанôм, да варэ́ння звары́ць трэ́ба. Кл. Параўн.: Сьцяпане́ш арэ̂шыну — мно́го насы́пляцца (арэхаў). Сін. Слаб. Карэл. р-на.

СЦЁБ *выклічнікава-дзеяслоўнае* слова ад *сцебану́ць* (хвасянуць, выцяць) тыпу *хоп, гоп, бразь.* Паганя́ў у малата́рні да сьцёб пу́гаю, а ён як брыкне́!.. Кл.

СЦО'ПАЦЬ *-а-еш, -а-е, перах., законч.,* ад *цо́паць* (гл.). 1. Нечакана схапіць. От тут, на лучэ́цкай кана́ве мы сцо́палі паліца́я. Пас. Я. К. Краў, по́куль дакра́ўса — сцо́палі. Глуск. 2. Прагна і хутка з'есці. Налілі́ — з бро́вара прыве́зьлі бра́гі — дак сьві́ньне як табê кажу́ па вядры́ сцо́палі. Хал.

СЦУБЧЭ'ЦЬ (*сцубчэ̂ць*) *-э́-е, -э́-ла, неперах., законч.,* ад *цубчэць.* Гл. *цубчэ́ць.* Так сцубчэ̂лі (намочаныя мяшкі), што ра́ды адна́ не да́м. Барб.

СЫБО'ТНЫ *прым.* ад *сыбо́та* (субота). Ты сваé сыбôтнае малакó ўсе (усё) аддасí нам. Тварагý нараблю́. Кл.

СЫ'ПКАЯ *прым.* Сопкая (бульба). Кл., пас. Я. К.

СЫРО'МЛЯ (*сырôмля*) *р. -і, жан., адз. няма.* 1. Сырое (пра страву), негатаванае (гароднiна, садавiна). Бêднянькi жыватóм качáяцца. Дзе ж? Тôлькi й знáе êсьцi то я́блыкi, то мóркву, то якую йшчэ сырôмлю. Пас. Я. К. 2. Недагатаваная страва. Тваê, бáба, картóплi сёнi цьвóрдые, сырôмля. Кл.

СЫРЫ'ЧЫНА *р. -ы, жан.* Кавалак сырамяцi (гл. *сыры́ца* ў вып. 1959 г.). Абôрка парвéцца, пашукáй сыры́чыны. Пас. Я. К.

СШАШО'ЛIЦЬ (*шшашóлiць*) *-ю, -iш, перах., законч.,* ад *шашóлiць* (гл.). Прывéзла два хýнты абарáнкаў. Да абêду й шшашóлiлi (з'елi). Пас. Я. К.

СЯГО'ЛЕТАК. Гл. *сёлетак.*

СЯГО'ЛЕТКА. Гл. *сёлетка.*

СЯДНО'. Усё адно. Хадзêм з нáмi, сяднó ж нiчóго нi рабiцьмеш. Н. ж.

СЯДУ'ХА *р. -i, жан.,* ад *сядзéць.* Параўн.: *сядýн* i ў руск. мове *сидень.* Чамý не йдзéш? Вêчно седýха. Сл. А дóчка бôльш сядýха за мáцяру. Пас. Я. К.

СЯНI'НА *р. -ы, жан.* Калiва сена, сухая травiнка. Дурэлi ў капê. Да сянiна ў вóко. Трэ́ба дóктара. Кл. Такóе лêцячко! Мóжно накасiць нi тó што на карóву, а двôм такíм здараўцóм на хвéрму цэ̂лу. А ў йiх — гультаê — нi сенíнкi, нi цавíнкi. Кл. Пазьбiрáюцца да здумля́юць: узялí злавíлi авадня́ да ўткнýлi сянíнку й пусьцíлi. Вольн.

ТАРАЛО'М *прысл.* Тарчма. Даўно нêяк прапускалі праз мôст плыты. Дак адну клéйню паставіло таралóм і ўвесь плыт скруціло, што прышлóсо сêкчы гужбу. Кл.

ТАРБАХВА'Т *р. -а, мужч., зняважл.* Злодзей, той, хто займаецца дробнаю кражаю (параўн.: «торбы хватаць»). Даўнêй на базáры людзéй-людзéй, дак йіх той і пажывіцца. Ох, тарбахвáт ён буў. Глуск. 2. Хабарнік, казнакрад. Параўн.: у рускай мове *хапуга.* Вéльмо п'ёрса ў лаўку, каб таргавáць. А хтó ж такóго тарбахвáта вóзьме? Вêдаюць, як ён рабіў зь людзьмі ў прамгáсе. Стр. Параўн.: *урвіцель, уварвáць.* Гл. *уварвіцель;* (гл. *сарвіцель* у вып. 1960 г.).

ТАРБЭ'ЧНІК *(тарбэ(é)чнік) р. -а, мужч., зняважл.* 1. Бедны, жабрак. Бáцько чуць ні тарбэ́чнік, а сын, бач, на сваю машыну сêў. Кл. 2. Злодзей, тарбахват (гл.). Праганêце ву (вы) тагó тарбэ́чніка. Так і глядзі, штоб не ўкраў. Глуск.

ТАРКАНУ'ЦЬ *-у́, -éш, з він. і без яго, законч.* 1. Крануць, варухнуць, чапануць. Пугі на маладóга жарабцá ні трэ́ба, тарканўў лéйцамі — пашóў і пашóў, як вадá. Кл. Таркані ягó ў сьцягнó, то як брыканé! Такі брыклівы éты вôл. Кл. 2. Клюнуць (рыбацкае). Нêшта тарканула. Мо' чарвяк склявáла што? Кл. Тарканé й пярастáне. Пас. Я. К.

ТАРО'КАЦЬ *-а-еш, -а-е,* звычайна ў *множн., неперах., незаконч.* Размаўляць памяркоўна, спакойна, пра не вельмі важнае. Мы тут тарóкаям. То й ты з нáмі. Патарóкаям рáзам. Кл.

Пасядзêлі сабê на пры́зьбе, патаро́калі. Што стары́м трэ́ба? Кл.

ТАЎСМА́Ч *р. -á, мужч.* Таўсматы. Такім таўсмачôм (таўсматым чырванашчокім хлапчукам) маро́зу німá. Але ўсê адзінáкі[е], па бáцьку таўсмáты[е]. Глуск.

ТО́ЙЧАС *прысл.* Адразу ж, зараз жа. Сказáла — то́йчас надзêўса й на пôшту з грашы́ма. Дзе ж? Про́сіць: хаць со́тню прышлêце. Кл. Папалу́днуям і то́йчас пры́дам, рáзам êхацьмам. Вольн. Параўн.: Пасыхай, калінінка, тойчас мароз будзіць. Я марозу ні баюся, тойчас усыхнуся. П. В. Шейн. Белорусские народные песни. СПб, 1874.

ТРО́МКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* 1. Выклікаць разрозненыя гукі (не мелодыю) на струнным інструменце. Не йгрáе, а тôлькі тро́мкае. Хал. 2. Няўмела іграць на струнным інструменце. Сьціхні с тае́ю балабáйкаю! Абры́даў тро́мкаючы. Каб ігрáў як ігрáў, а то тро́мкае як дзень бêлы. Кас. 3. Іграць без захаплення, без стройнасці, перакідваючыся з мелодыі на мелодыю ці імправізаваць музыку. Булá я ў сы́на ў Мíнську. Прышо́ў у гôсьці нêйкі стары́, але вéльмі штукáнт на пêсьні. Што я прыпôмню — ту́ю й ён пêсьню запêе. І кáжэ: «Як на душы́ што, вазьму́ мандалíну й тро́мкаю вáшу жано́цку пêсьню. Бач, палéгчало». Кл. Тро́мкаў, тро́мкаў і нêйку пêсьню склаў. Як устáне, давáй яé йгрáць. Пас. Я. К.

ТРУБІ́ЛА (*трубíло*(*а*)) *р. -а, агульн., зняважл.,* ад *трубíць* (гл. *трубíць* у вып. 1960 г.).

Перасьцíхні ты! Ўсю рáніцу тру́біць і тру́біць. Н. ж. Тако́му трубíлу хібá ху́нта хлêба

хóпіць? Бухáнку ўтрýбіць і ні схамянéцца. Кл.

ТРУДНАВА'ЦЬ *у 3-й асобе адз. і ў прошлым часе адз. і множн.* Вельмі мучыцца пры цяжкой хваробе, перад смерцю. Лежáла дóўго й вéльмі труднавáла. Барб. Памéрці як памéрці. Каб тôлькі ні труднавáць багáто. Кл.

ТРУПЦЕ'ЦЬ (*трупцêць*) *-íць, -я́ць, неперах., незаконч.* Трэба думаць, ад гукаперайм альнага *труп* (*труп-труп, трп-трп*). Трупціць шкарлупіна трэснутага яйка, трэснуты гаршчок. С твайíм (яйкам) німá чагó ў біткі (гл. *бітка* ў вып. 1959 г.). Янó ж трупцíць, бо трэ̂снула. Кл.

ТРУ'СКА[1] *р. -і, жан.* 1. Трусіха (бытуе і *трусíха*). Павêрыце? Кôт трýску задушы́ў. Кл. 2. Перан. Баязліўка. Ты, Рáя, трýска, халóднае вады́ байíсься. Пас. Я. К.

ТРУ'СКА[2] (*трýско*(*а*)) *прысл.* Дрогка. Цяразь лêс, па карэ́ньні вéльмі ж ужэ́ трýско êхаць. Кл. Байíсься, што вы́трасуць с палýкаша (гл.). Трýска — затóя блíзка. Вайц. Гл. *трýская.*

ТРУ'СКАЯ *прым.* Дрогкая. А то ж! Скôлькі таê трýскае дарóгі? Вайц. Дýмаяце, галавá слабáя. Калí трýска дарóга — бýдзе балêць. Кл. Гл. *трýска*[2].

ТРУ'ШЧЫЦЬ *-шч-у, -шч-ыш, перах., незаконч.* 1. Біць, разбіваць што-небудзь крохкае, далікатнае, што лёгка б'ецца, напрыклад шкляны ці фарфоравы посуд, шкло, яйка. Кл., пас. Я. К. 2. Перан. Многа есці неспажыўнага. Цэ̂лы дзень трýшчаць і трýшчаць,— то я́блыкі, то мóркву, то йшчэ што. Кл.

ТУЛЯ'КА *р. -і, агульн.* Той, хто туляецца, бадзяецца. Зра́зу пасьля́ вайны́ туля́каў на ста́нцыі было́ бага́та. А то́ — кінь хоць што, яно́ й цэ̂лая. Ст. Рацм.

ТУРА' *р. -ы́, жан.* Шахматная фігура. Параўн.: у руск. мове *ладья.* Зуб., Кл., Глуск, Дак., Н. ж., Сл., пас. Я. К.

ТУ'ХКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* Цяжка, гулка тупаць бегучы. Ты ж (бяжыш), дак як слуца́к (конь слуцкай пароды) ту́хкаяш. Кл.

ТЭ'БЕЛЬ *р. -я, мужч.* Вялікі свердзел. Адзі́н тэ́бель на ўсе (усё) на́шае Клêтнае. Кл. На кро́квы трэ́ба тэ́бяль. Пас. Я. К.

## У

УБО'ЎТАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., законч.* Увагнаць (рыбу ў сетку). У зато́не ко́жнянькі раз убо́ўтаям хаць што. Калі лін, калі краснап'ёрка, калі плôтка. А сёні зато́е нічо́га ні ўбо́ўталі. Кл. Пад Адэ́льлю самка́ ўбо́ўталі. Пас. Я. К.

УБЫ'ЦЬ *(убы́(у́)ць) -у, -еш, неперах., законч.* Утрымацца (на якой-небудзь пасадзе), прыжыцца (на новым месцы назаўсёды, на працяглы час). На курсы́ пасла́лі яж (аж) на цэ̂лы гôд. Хіба́ ён убу́дзе там? Я кажу́ табê: ні ўбу́дзе! Мо зь недзêлю й пабу́дзе. Прыпрэ́ дадо́му. Кл. Паста́вілі на фе́рму, й там ні ўбу́ў до́ўга. Кл. Што Яша? Ён нідзе́ ні ўбу́дзе. Глуск.

УВАБРА'ЦЬ *убяру́, убярэ́ш, убярэ́, перах., законч.* 1. Увабраць (напрыклад, гліна — ва-

ду). Кл. 2. З'есці, выпіць (у спалучэнні з *многа*). Гаршчóк капýсты ўвабрáў, каб малакá йшчэ с квáрту. Кл. Параўн.: Я б сем місак зараз увабраў. П. Панчанка. 3. Моцна схапіць каго-небудзь, так, што «ўвабраны» не вырвецца, не «вырабіцца». Раз падвы́піўшы йшоў і давáй чапля́цца, давáй дрáцца (прыдзірацца). Дак той увабрáў да давáй хрысьці́ць. Зрáзу працьвяразêў. Кл. 4. У фразеалагізме *ўвабрáць у рýкі*. Скажы́, таê жанчы́ны жмéнька, а ўвабрáла ў рýкі, дак шаўкóвянькі стаў. Кл. 5. Як новае ў гаворцы, з газетнай — убраць (збожжа з поля). У нáс усé (усё) чы́сьцянько ўвабрáлі с пóля. Барб.

УВАРВІ'ЦЕЛЬ *р. -я, мужч.* Злодзей, хабарнік, тарбахват (гл.). Ён і па вачáх вíдáць: уварвíцель, што пашукáць! Глуск. Параўн.: *сарвíцель, урвáць* (гл. *сарвíцель* у вып. 1960 г.).

УВАРЫ'ЦЬ *-ý, -ыш, перах., законч.* 1. Уварыць (страву). Дóўга, каб увары́ць старýю я́лавічыну. Пас. Я. К. 2. Вельмі моцна сцебануць, так, што пуга, бізун, дубец аж «уварыцца» ў цела. Як уварý якóю драця́нкаю, то пярастáне натýрыцца. Кл.

УВЫ'КНУЦЬ (*увы́(ý)кнуць*) *-у, -еш, неперах., законч.* Унадзіцца. Параўн.: у руск. мове *повадиться*. Увýклі ў шкóду лáзіць. Кл. Правýчаць! Увы́клі ў сад лáзіць. Кл.

УГАРАДЗІ'ЦЦА *-дж-ýся, -ішся, законч.* Абгарадзіцца, але не проста, а высокім і надзейным плотам, частаколам. А囗 囗 нaштó так угарôджвацца? Байíсься, каб ніхтó й вóкам ні глянуў? Пас. Я. К. Як дзе,— на пасёлку вéль-

мі ўгаро́джваюцца, а дакôльцы ці адэ́льцы ні ўгаро́джваюцца. Н. ж.

УГАРЭ́ЦЦА (*угарэ̂цца*) *-ыцца, -áцца, закнч.* Добра загарэцца, ахапіцца полымем; параўн.: *загарэцца* — пачаць гарэць. По́куль угара́цца (дровы), дак ты й надзерэ́ш. Кл. Пôзно прыско́чылі (пажарнікі): так угарэ̂ласа (хата), што й ра́ды ні далí, усé (усё) чы́сьцянько й згарэ̂ло. Кл. Тôлькі ўпа́ліць (гл.) ця́жка, а ўгара́цца дак як стôй згара́ць. Пас. Я. К.

УГЛЕ́ДЗЕЦЬ *-дж-у, -дз-іш, перах., законч.* Заўважыць, убачыць. Раз угле́дзяла ў Глу́ску, хацêла загавары́ць. Дзé там! І ні блíзко! Кл. Угле́дзіш Насту́лю — хай пры́дзе. Н.-Андр.

УДЗЕРНАВА́ЦЦА *-у́-ецца, законч.* Пакрыцца (пра поле, якое некалькі год ялавела) дзёранам. Та́к тут удзернава́ласа, што зра́зу трэ́ба падрапакава́ць, тады́ ара́ць. Байл.

УДО́ЎЖКІ *прысл.* Удоўж (часцей ужываецца *ўдоўж*). Байл., Барб. Грэ́бля, малíнаўська ўдо́ўжкі якура́т верста́. Байл.

УЗБІ́Р(В)А́ЦЬ (*узьбíр(в)áць*) *-á-ю* і *-в-а-ю, á-еш* і *-ва-еш, перах., незаконч.* Збіраць, падымаць (бытуе і *падымáць*) разасланы лён, каноплі. Пяралéжаў лён. Трэ́ба было́ ўзьбіра́ць дзьвê недзêль наза́д. Кл. То й у нас не ўзьбіра́ны. Барб. Даўно́ пара́ ўзьбíрваць. Кл.

УЗДЗІ́Ў (*узьдзíў*) Гл. *здзíў*. На дзіва, на здзіўленне, дзівосна. Усé (усё), скажэ̂це, рôдняанькіе, парасло́ як на ўзьдзíў. Тако́е бало́то було́. А стôлькі дабра́ расьцé на ём! Барб.

УЗДУ́ХАВІНА (*здýхавіна, уздýхавіна*)

*р. -ы, жан.* Верхняя, падрэберная частка жывата. Пад уздýхавіну дай, то лёзьці пярастáня. Пас. Я. К. Ён яму чуць-чуць, ватэ́так (паказваючы) вы́цяў у здýхавіну. Кл. Ты ў здýхавіну ні цаля́й. Кл. Так даў м'я́ччыкам у здýхавіну, што той бêдны й прысêў. Кл. Параўн.: *уздýхвіна.* Йік даў пад уздýхвіну. Мсцісл.; *дыхавіца.* Бягомль.

УМЕ́КА (умêка) *р. -і, агульн.* Чалавек, які ўсё ўмее. Хто ўмêе, той умêка, а хто не ўмêе — той неўмêка. Кл. Слова *ўмека* звычайна ўжываецца з іроніяй: няўмéка. Такі ўжэ ўмêка! Абыйдýся бесь цебé. Кл.

УМІ́ТУСЬКІ *прысл.* 1. Улукаткі, зігзагам (ісці). А ш чагó так сёні хóдзіш? Не прóсто, а ўмíтуські? Па аднôй памасьнíцы мо' прôйдзяш? Глуск. 2. Пра ўспрыняцце (пры захворванні, знясіленні), пры якім прадметы быццам прыходзяць у рух зігзагамі. Нêек узгрэ́блаcа на нóгі, як зірнýла, да ўсе чы́сьцянька ўмíтуські. Хал. 3. Мітусня, мітусяніна. А чагó тáмака нарабілася, што бêгаюць умíтуські? Што там за мітусьня́? Глуск. Параўн.: І не спынілася машына, а ўжо пайшла мітусяніна. Я. Колас; Нêшта вéльмі ш улýкаткі хóдзіш. Ш чагó ж гэ́так?; ідзе ўлукатку. Клім. Маладз. р-на; ... іду ўлукаткі. Б. Сачанка.

УПАЛІ́ЦЬ *-ю, -іш, перах., законч.* Падпаліць (сырыя ці мокрыя дровы, якія не загараюцца). Вéльма мýчуся з дрывáмі: ніяк упалíць ні магý. Кл. Трэ́ба ў гарáчу пêч дроў накідаць, бо ні ўпáліш. Кл. Упалíць цяшка, а ўпáліш, то й сыры́я гарáць. Вайц.

УПІРАВА́ЦЬ *-ý-ю, -ý-еш, неперах., незаконч.* Упірацца, натурыцца, паказваць упіры

(гл. *упіры* ў вып. 1959 г.), наравіцца. Німа чаго тут упіраваць: паслухай, то й табе̂, й усім будзе хораша. Уюнішчы. Упіруе, пакуль даўпіруецца, што прагоняць. Вольн.

УРАДЖА'ЙЛІВЫ *прым.* Ураджайны. Будзе сёлята ўраджайлівая вяснавая пашня. Кл.

УРА'ЗІЦЦА *-ж-уся, -ішся, законч.* Пакрыўдзіцца. Чуць што малячку (чуць якая драбніца), то й уразіцца. Чаго так? Ш чаго, скажы? На табе — ўразіўса. Кл.

УРА'ЗЛІВЫ *прым.* 1. Уразлівы. Кл. 2. Крыўдлівы. Такому ўразліваму ў салдатах мулко будзе. Байл. Які ты мушчына будзеш? Такому ўразьліваму дабра ні будзе. Скажы слово — й напушыўса. Кл.

УСПА'СЦІ *(успасьці) -ў* і *-у, -еш* і *-еш, неперах., законч.* Напасці на чалавека, нечакана накінуцца са сваркаю, абвінаваціць. Так на яго ўспала! Бачыць Васіль, што разышласа, дак ён і рукі атрапаў. Н. ж.

УСЫРЫ'ЧЫЦЬ *-у, -ыш, з він. і без яго, законч.* 1. Сцебануць, выцяць сырыцаю (гл. *сырыца* ў вып. 1959 г.). Перастану казаць да як усырычу рэмяня, то сьціхнеш. Кл. 2. Пакараць. Чулі пра суд? Усырычылі два гады. Мо' паразумне̂е. Пярастане насіцца сь сілаю. Кл. Каб усырычылі штрапу, то мо' пярасталі б так рабіць. Байл.

УСЯДНО' (*усядно, сядно*). Усё адно. Я ўсядно пярамагу. Н. ж. Гл. *сядно*.

УТО'ЎШЧКІ *прысл.* У таўшчыню, таўшчынёю. Адзінакавы — што ўдоўжкі, што ўтоўшчкі, такі той «бе̂дны» Грыня. Глуск.

УТРУБІ'ЦЬ *-бл-ю, -б-іш, перах., законч.* Струбіць, з'есці, уваабраць. Раз гне̂даму ўсы-

паў с пуд аўса́. Скажы́, ўтрубіў да ка́ліўца. Кл. Ён мôг сêсьці, за ра́з буха́нку хлêба с кíслым малако́м утрубíць. Сл.

УТРЭ'ЙКІ *прысл.* У тры столкі (скласці). Часцей ужываецца *ў тры сто́лкі.* Ад іншых лічэбнікаў (*два, чатыры*) прыслоўяў тыпу *ўтрэ́йкі* няма. Параўн.: скла́сьці ў дзьвê стôлкі, скла́сьці ў чаты́ры стôлкі. Кл. Утрэ́йкі склада́ць — дак ве́льмі ж бу́дзе пажма́каны. Гл. *трэ́йкі* ў вып. 1959 г. У руск. мове *втрое.*

УЧЫНІ'ЦЬ [1] *-ю́, -іш, перах.,* з назоўнікамі *хлеб, ала́дкі, це́ста, законч.* Усыпаць у ваду муку, размяшаць перад тым, як ставіць дзяжу ў цёплае месца (на печ, пры печы), каб цеста (хлеб, аладкі) «укісло» (заквасілася). Даа́йце, ма́мо, ўчы́нім ала́дкі, а то даўно́ пяклí йіх. Кл. Даглéдзь, до́нька, дзе́жку, да ўчы́нім хлябо́к. Кл. Цêста ўчынíла дай забы́лася ўкрыць. Пас. Я. К. Гл. *расчынíць* [2].

УЧЫНІ'ЦЬ [2] *-іш, -іць, перах., законч.* Зрабіць што-небудзь кепскае, заварыць кашу. Прынелí вучы́цца, дак нêшто ўчынíў, што й вы́гналі. Пас. Я. К.

УЧЫНЯ'ЦЬ [1] *-я́-ю, -я́-еш, перах., незаконч.* Гл. *учынíць* [1]. За ве́сну ала́дак і разо́чку ні ўчыня́ла. Пас. Я. К.

УЧЫНЯ'ЦЬ [2] *-я́-ю, -я́-еш, перах., незаконч.* Гл. *учынíць* [2]. Нêшто ўчыніў, што дадо́му атасла́лі; ні ўчыня́ў бу, то й вучы́ўса б, а то бу́дзе шве́ндаць.

УШУ'ШКАЦЦА *-а-юся, -а-ешся, законч.* Гл. *ушу́шкаць, шу́шкаць, шу́шкацца.* Му́сіць, дале́ко дзе наду́маласа êхаць: так ушу́шкаласа. Барб. Ушу́шкаласа. Барб. Ушу́шкаўшыса. Барб., Байл.

УШУ'ШКАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., законч.* Гл. *шу́шкаць*. Хто цябе́, дзêткі, так ушу́шкаў? Вайц. Такі́х ушу́шканых на сьнêг (класці) спаць мôжна. Пас. Я. К.

## Х

ХАДА'К [1] *р. -а́ мужч.* Хадок (ужываецца і *хадо́к*). У Сла́ўкавічах буў такі́, што, як слаба́я даро́га, дак хуччэ̂й за́йдзе, чым заêдзе. Кл.

ХАДА'К [2] *р. -а́, мужч.* Лапаць, пашыты са скуры. Цяпе́р ла́пцяў ма́ло хто но́сіць. А даўнêй ла́пці пл[е]лі́, хадакі́ шы́лі. Хадакі́ (насілі) ма́ла хто, хіба́ хто лянава́ўся ла́пці пле́сьці. Кл.

ХАЛАДА'ЦЬ *-а́-е, неперах., незаконч.* Астываць, ахалоджвацца. Трэ́ба парэ̂заць (на кавалкі кабана), палажы́ць м'я́са, са́ла, хай халада́е. Кл.

ХАРАШЫ'ЦЬ *-у́, -ыш, перах., незаконч.* 1. Ачышчаць буракі, моркву ад карэння, зямлі, бацвіння, капусту — ад верхняга зялёнага лісця і храпы. Куды́ сёні нара́д? Харашы́ць буракі́? Трэ́ба до́бры нôж. Майі́м харашы́ць — то ру́кі пасьціра́яш: тупы́ й ру́чка — дзяржа́ньне — ліхо́е. Кл. А мая́ капу́ста шчэ ніхаро́шана. Кл. 2. Упрыгожваць, аглядаць, папраўляць, каб (штосьці) было харошае, прыгожае. Каро́ва й та́я агле́дзіць целя́. Ба́чыш, лі́жэ, лі́жэ, харо́шыць. Кл.

ХАЎРУСАВА'ЦЬ *-у́-ю, -у́-еш, -у́-е, неперах., незаконч.* Быць з кімсьці ў хаўрусе, сябраваць. С кім хаўрусава́ў, с тым хаўрусу́й. Кл. З кім? З гультаём хаўрусава́ць? Байл.

ХАЎТЛІ'ВАСЦЬ (*хаўт*(*к*)*лівасьць*) *р. -і, жан., множн. няма,* ад *хаўтлівы* (гл.). Прагнасць. Сваéю хаўтлівасцю самá себé дýшыць. Кл. Вáшы байлю́цкіе лíшняго хаўклíвые. Н.-Андр.

ХАЎТЛІ'ВЕЦ (*хаўт*(*к*)*лівец*) *р. -ўц-а, мужч.,* ад *хаўтлівы.* Прагнюка. Ні бýдзь вéльма хаўтлівец! Тôлькі й гледзíць, каб ямý й ямý. Кл.

ХАЎТЛІ'ВЫ (*хаўт*(*к*)*лівы*) *прым.* Прагны. У тагó хаўтлíвага дарашá хібá дапрóсісса? Кл. У нáс і ў радні такíх хаўклíвых ні былó. Аткýль ты такі ў нас? Кл.

ХА'ЯЦЬ *-ю, -еш, перах., незаконч.* Гáніць, абгаворваць, няславіць. За штó хáеш дзêўку? Табê ліхóе зрабíла што? Усяê й падзя́кі, што хáеш ні за штó ні пра штó. Кл. Параўн.: у сербскай мове *хáяти* — клапаціцца пра каго-небудзь.

ХІЦ *выклічнікава-дзеяслоўнае* слова тыпу *гоп, хоп, брáзь.* Гл. *хіцнýцца, хіцáцца, хіцáць, хіцнýць, пахіцáць.* Нечакана і рэзка хіснуцца. Бêглі, бêглі, адáле хіц за рôг (у другую вуліцу). Кл.

ХІЦА'ЦЦА *-á-юся, -á-ешся, незаконч.* 1. Хістацца (ужываецца і *хістацца*), цыкацца (гл. *цыкáцца* ў вып. 1959 г.). Мы гýшкаліся, адáле хóду, бáчым бáнька хіцáяцца. Кл.

ХІЦА'ЦЬ *-á-ю, -á-еш, перах., незаконч.* Хістаць, цыкаць (гл. *цыкáць* у вып. 1959 г.). Глянь! Нéшта тóркае. Ці, мýсіць, вярхавôдка паплавóк хіцáе? Кл.

ХІЦНУ'ЦЦА *-ý-ся, -éшся, законч.,* ад *хіцáцца* (гл.). Па клáцца йшла да хіцнýлася да ў гразь. Пас. Я. К.

ХІЦНУ'ЦЬ *-ý, -éш, з він. і без яго, законч.*, ад *хіцáць* (гл.). Дóбра плôтка хіцнýла паплавóк. Побл.

ХЛЁКАЦЬ *-а-е, неперах., незаконч.* Можна меркаваць, *хлёкаць* ад гукапераймальнага *хлё-хлё, хлёк-хлёк.* Ацстáў (адымі ад полымя) гляк. Хібá ні чýяш, што хлёкае ў глякý (вада ў гляку закіпела, забулькала). Кл. Так прастыў стрáшно. Кашлянé, дак у грýдзях хлёкае. Пас. Я. К.

ХУТАРА'НЕЦ *р. -нц-а, мужч.* Хто на хýтары, той хутарáняц, а хто на пасёлку, той пасялкóвец. В. Шчэ да вайны було багато хутаранцаў. Сл. Хутарáнцы нêек зьненавíджваліса. Вêдамо, адзíн сабóю, то нілю́дзкімі станавíліса. Кл.

ХУХА'Ч (*хухáч*) *р. -á, мужч.* 1. Птушка пугач — Bubo bubo L. Хухáч — ну, такáя птáха, як савá. На яê кáжуць хухáч або йшчэ нêек, але ні ўспôмню я. Кл. 2. Мянушка чалавека па афарбоўцы яго голасу. Барб.

## Ц

ЦВІ'РКАЦЬ *-а-еш, -а-е, неперах., незаконч.* Цвыркаць. І як ён цьвíркае, éты цьвіркýн? Малы́, а так крэ̂пка цьвíркае. Кл.

ЦЕРАБЕ'Ж *р. -á і -ý, мужч.* Назва сенажаці ад дзеяслова *церабíць* — высякаць хмызняк, дрэвы. Ганêце сёні на цярабêж, там атáва вýрасла. Лêпша за éту пôжню (гл. *пóжня* ў вып. 1960 г.). Пасялкôўскі цярабêж скóро сусíм зарасьцé, што й ні касíцьмуць. Кл.

ЦЕРАБЕ′ЖЫК *р. -а, мужч.* Назва невялікага ўчастка сенажаці (сярод лесу), ад *церабіць* — высякаць хмызняк, дрэвы. З вайны́ цярабе́жык заро̂стаў. Ужэ́ жардзе́ парасло́, што й касану́ць німа́ як. Кл.

ЦІЎ-ЦІЎ-ЦІЎ! Так падзываюць куранят. Ціў-ціў-ціў, мае̂ цівачкі! Н. ж.

ЦО′ПАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., незаконч.* 1. Хапаць, лавіць, гл. *цо́пнуць, сцо́паць.* 2. Паціху стукаць, малаціць. Як трэ́йціе пяўне̂, дзе̂д ужэ́ цо́пае — мало́ціць. Кл. 3. Прагна і гучна есці. Прыне́сьлі ведро́, дак за міню́ту й німа́. Ні цэ̂дзіць, а цо́пае. То̂лькі цоп-цоп-цоп — і німа́. Кл.

ЦО′ПНУЦЬ *-у, -еш, перах., законч.* 1. Схапіць нечакана, энергічна, імгненна. Ён не̂што ніддо́брае рабі́ў, усе́ хава́ючыса. Прые̂хаў у Бабру́йск, там яго́ й цо́пнулі. Барб. 2. Нечакана стукнуць, выцяць. Кл. А ты хіба забу́ўса, як Се́ма цо́пнуў у гумне̂ цэ̂пам? Кл.

ЦУБЧЭ′ЦЬ (*цубчэ̂ць*) *-э́-е, неперах., незаконч.* Станавіцца неэластычным, цвёрдым, цубкім (гл. *цу́бкі* ў вып. 1960 г.). Палатня́нае намачы́, дак цубчэ̂е. Кл.

ЦУРБА′ЛІНА *р. -ы, жан.* Жорсткая і тоўстая сцябліна ў сене, адно каліва цурба́лля (гл. *цурба́лле*).

ЦУРБА′ЛКА *р. -і, жан.* Жорсткая і цвёрдая сцябліна ў сене, гл. *цурба́ліна.* Аве́чкам трэ́ба ўкінуць ваце́тае цурба́льле. Хай лісьце абяру́ць: лю́бяць жэ. Кл.

ЦУРБА′ЛЛЕ (*цурба́льле*) *р. -я, ніяк., зборн.,* ад *цурба́ліна* (гл.), *цурба́лка* (гл.). Наш гне̂ды, на но̂ч закі́нь пуд (сена), усе́ (усё)

схру́пае, то̂лькі цурба́льле астане́цца. Кл. Каб сячка́рня, то й тако́е цурба́льле пашло́ б; зрэ̂заў да апа́рыў гара́чаю вадо́ю. Кл.

ЦЫ'ГА *р. -і, жан.* Вялікая глыба зямлі. Ля бальніцы й зімо́ю чэ́рві капа́юць. Зьве́рху ўме́рзла. Там такі́я цы́гі павыва́ро́чвалі, цэлыя ако́пы парабілі. Пас. Я. К.

ЦЫКНУ'ЦЬ *(цык(а)ну́ць) -у́, -е́ш, перах., законч.* Хіснуць. Цыкані́ ўпра́ва, а тагды́ ўле̂ва. Кл. Ні цыкні́ драбі́н, бо палецяць (зваляцца). Пас. Я. К.

ЦЯЦЕ'РА *р. -ы, жан.* (параўн.: *цецяру́к — мужч.*). 1. Назва птушкі. За цяце́ру трэ́ба стрэ́льбы адбіра́ць, а цяцярукôў — мо́жна страля́ць, йіх бага́та бо̂льш. Вайц. 2. *Перан.* Глухі чалавек. Я зь е́таю цяце́раю рабіць ні хо́чу. Пас. Я. К. 3. Рабы з твару. Кл., Вайц.

## Ч

ЧАПА' *р. -ы́ (-у́), жан.* Тое (корч, карэнне, калода ў вадаёме), за што можа зачапіцца кручок, вуда. Тут нідзе́ чапу́ нема́. Хал. Тут ве́льмі чапа́, во́лакам (рыбацкая прылада) ні працягняш. Кл.

ЧА'ПАЦЦА *-а-еццa, незаконч.* 1. Бразгаць, пастукваць (пра дрэнна прымацаваную рэч, частку рэчы). Трэ́ба знайці́ дзе гваздо̂ў. Ру́чка ў сундучку́ ста́ла ча́пацца. Кл. Ці сарві́, ці прыбі́ (падкову на абцасы). А то йдзе — то̂лькі чап-чап. Нідобра прыбі́та, дак і ча́паяцца. Пас. Я. К. 2. Пакрысе варушыцца, рухацца, сёе-тое паціху рабіць (пра старога чалавека). Жы́ткі ма́ло ўжэ. От, хіба́ кале ха́ты. Патро́шкі ча́паюса. Кл.

ЧАРАПО'К *р. -á, мужч.* Асколак ад разбітага посуду. Вазьмí чарапóк, у клáсы гуля́цьмам. Кл. Ульлêце каткý малакá ў чарапóк. Н. ж.

ЧАРНАГАЛО'ВІК *р. -а, мужч.* Баравік з вельмі цёмнаю, амаль чорнаю шапачкаю. Я дак па лісíцу ці якóга казьлякá, ці па штó нагінáцца ні бýду. Нікóлі ні бярý. Чарнагалóвікі — дак ета другóе дзêла. Кл. Маê прынéсьлі два кашэ̂ адны́х чарнагалóвікаў. Скажы́, чарнагалóвічкі адзíн у адзíн, галавá ў гóлаву. Чы́сьцянькія да крэ̂пкія. Пас. Я. К.

ЧАРНО'ЦЦЕ (*чарнôцьце*) *р. -я, ніяк., ацэначна-зніжальн.* Вельмі чорны (валасы, вочы) чалавек. Ах ты чарнôцьце-ліхôцьце (гл. *ліхóцце*)! Кл.

ЧАРЭ'П'Е *р. -я, ніяк., зборн.,* ад *чарапы́, чарапóк.* 1. Кавалкі, асколкі разбітага посуду. Занясêце чарэ́п'е дзе ў я́му. Кл. 2. Перан. Непатрэбнае, нявартаснае. Накупля́ла чóртвèд кôлькі чарэ́п'я ўся́каго. Хал.

ЧАСТАКО'ЛІНА (*частакóліна, шастакóліна*) *р. -ы, жан.* Кол з частаколу. Адбілі частакóліну да цэ̂лаю хеўраю ў сьлíвы. Кл. Прыбêце, хлóпцы, частакóліну, бо так і сьвíньні скóра палêзуць у сáт. Пас. Я. К.

ЧОС (*чôс*) *р. -у, мужч.* Ачэсаны лес (бярвенні). Ля Дакóлі прадаé нêйкі на пóўну хáту (на ўсю хату) чôс. Глуск.

ЧЫ-КІ-ТА'Х! ЧЫ-КІ-ТА'Х! Так перадаюць язду нáўскач, наўгалоп. Давáйма нáўскач. Чы-кі-тáх! чы-кі-тáх! чы-кі-тáх! Як Чапáяў. Кл.

ША́МАЦЬ *-а-ю, -а-еш, неперах., законч.* Шамацець. Сьціхні (да дзіцяці), ў сêнцах, чу́еш, ша́мае, мо' воўк. Н. ж. Байіцца спаць у сêне: то мыш ша́мае, то сяні́на кальне́. Кл.

ШАМЕ́ЛЬ (*шамêль*) Спрытны і хуткі рух. Адна́ (дачка) по́куль зьбярэцца ў шко́лу, то ўсім даку́чыць. То ёй адно́ ні так, то друго́е нідо́бра. А яна́ ў нас малайчы́на. Уста́не сабê, пасьнêдае, што дасі́, шаме́ль-шаме́ль, за то́рбачку с кні́жкамі й пашла́. Кл. Пашла́ ж у Глуск на жа́лабу, а там ка́жуць: а на рабо́ту хо́дзіш ці тôлькі каб хто рабі́ў, а табê гато́вае дава́лі? Дак шаме́ль — і хо́ду. Зуб.

ША́МНУЦЬ *-у, -еш, неперах., законч.,* ад *ша́маць* (гл.). Муш хай ша́мне — то й ні засьне́. Такі́ бо́езны. Сл.

ШАНАВА́ЦЦА *-у́-юся, -у́-ешся, незаконч.* Клапаціцца пра свой гонар, паважаць каго і сябе, паводзіць сябе прыстойна. Хлôпцы! Жэ́нька! Чаго́ разышлі́ся? Жэ́нька, шану́йся, кажу́ табê. Сл.

ША́ПКА *р. -і, жан.* 1. Шапка. Кл., Сл., Хал., Н. ж., Сым., Зуб. 2. Вярхоўе ў стозе (сена, саломы). Хіба́ с тых ша́пак корм? Адны́х ша́пак наве́зьлі. Ці ж цяля́ці сêно тако́е? Кл. 3. Сланечнік. Во́ хіба дзе со́няшнік! Ша́пка з рэ́шата. Кл. 3. Чашачка, у якой расце жолуд, арэх. Пры́дзе во́сень, дак арахі́ ш ша́пачак са́мі вы́валяцца. Ша́пкі на арэ́шыне. Н. ж. 4. Сноп, якім накрываецца бабка (у бабцы дзевяць снапоў, дзесяты — *ша́пка*). Ва́шые ўсê ша́пкі пазрыва́ла. Пас. Я. К.

ШАСТАКО'ЛІНА Гл. *частакóліна.* Дай гваздôў: шастакóліны прыбівáцьму. Кл.

ШАСЦІ'НА (*шасьціна*) *р. -ы, жан.* Шостая частка (надзела пры індывідуальным карыстанні зямлёю). Канстантын, Трахім, Макáр, Хвéдар — ува ўсіх у йіх па шасьціне було́. Шасьціна ў нас дзьвê дз[е]сяціне, трацiна — чатыры, а чацьвярціна — тры. Трайціну папалáм — дак і шасьціна. Кл.

ШАШО'ЛІЦЬ *-ю, -іш, з він. і без яго, незаконч.* Есці (пра дзяцей). Шашóліць — па асацыяцыі з тым, як «точыць» дрэва шáшаль: працягла ці бесперапынна, з шамаценнем. Гл. *шашóлка.* Ой, малайцы, старáяцяся! То хлêба кусóк, то яблычкі, то йшчэ што. Шашóляць і шашóляць, як шашôлкі. Кл. Шашóліць, ек шашôлка. Барб.

ШАШО'ЛКА (*шашôлка*) *р. -і, агульн.* Шашаль (звычайна ўжываецца шáшаль). Гл. *шашóліць.* Дзêці — шашóлкі, тôлькі давáй! Пас. Я. К.

ШВЭ'НДАЛА [1] (*швéндало(а)*) *р. -а, агульн., зняважл.* (параўн.: *бóўдзіла, сёрбала*). Той, хто бадзяецца без справы, трэ дні, швэндае (гл. *швéндаць* у вып. 1959 г.). Чагó тамý швэндалу трэба? Хóдзіць абы! Трэба камý тут! Глуск.

ШВЭ'НДАЛА [2] *форма прошлага часу* ад *швэндаць* (гл. у вып. 1959 г.). Дзень швéндала, два швéндала, а рабіцьме хто? Хто рабіцьме? Кл.

ШКЛЕ'ЧКА (*шклéчко(а)*) *р. -а, ніяк., памянш.* ад *шкло.* Шкéльца. Параўн.: у руск. мове *стеклышко.* Нашлі шклéчка, дак чуць ні біліся, ўсê хóчуць сабê. Глуск.

ШЛЫ'НДАЦЬ Гл. *лындаць.*

ШМАТАНУ'ЦЬ *-ў, -ёш, перах., закончь.* Страсянуць, стармаснуць каго-небудзь і кінуць на зямлю. Узяліся бо́рацца, дак як шматану́ў, у таго́ й ша́пка звалі́лася. Кл. Шматане́, што й зубо̂ў не зьбярэ́ш. Хал.

ШНУРО'К *р. -рк-а́, мужч.* 1. Шнурок. Кл., пас. Я. К., Барб. 2. Вузкая і доўгая палоска (зямлі, сенажаці). Да калга́су ў ва́шаго ба́цька на тры дзясяці́ны с палаві́наю було́ мо' тры́ццаць шнурко̂ў. Кл. Прыду́маў, усю́ сядзі́бу на шнуркі́: жы́та, карто̂плі, шчэ й про́са. Пас. Я. К. Далі́ й мне̂ два шнуркі́ ата́вы. Пас. Я. К.

ШПО'КАЦЬ *-а-ю, -а-еш, з він. і без яго, незаконч.* 1. Грукаць, стукаць, ударацць. Кл. 2. Страляць нягучна. Што ў бо́га дзень зьбяру́цца, запа́лак набяру́ць і шпо́каюць у карчо̂х. Што йіх бацькі́ ду́маюць? Я б йіх нашпо́каў (набіў)! Кл.

ШПО'КНУЦЬ *-у, -еш, з він. і без яго, законч.,* ад *шпо́каць* (гл.).

ШПУЛЯНУ'ЦЬ *-ў, -ёш, з він. і без яго, законч.,* ад *шпуля́ць* (гл.). Бач, разуме́ц такі́! Ён ужэ́ шпуляне́!.. А як табе́ шпульну́ць? Пас. Я. К.

ШПУЛЯ'ЦЬ (*шпу*(*ы*)*ля́ць*) *-я́-ю, я́-еш, з він. і без яго, незаконч.* Біць каго-небудзь энергічна, але не моцна. Ко́лісь у шко́ле чуць то̂лькі што, вучы́цяль шпуля́е й шпуля́е. Кл.

ШУБО'ЎТНУЦЦА *-уся, -ешся, законч.* Нечакана ўляцець у глыбокую ваду, у глыбокую гразь. Ну́, было́ мне̂! Так шубо́ўтнуўся, што ду́маў ні вы́лязу. Кла́дка сьлі́зка, сарва́ўся да й шубо́ўць у таку́ю твань. Кл.

ШУБО'ЎТНУЦЬ *-у, -еш, неперах., законч.* Гл. *шубо́ўтнуцца.* Там, бра́тка, шубо́ўтняш ш ша́пкаю. Пас. Я. Қ. На то̂й я́міне ні адзі́н шубо̂ўтнуў з галаво́ю. Байл.

ШУБО'ЎЦЬ *выклічнікава-дзеяслоўнае слова* ад *шубо́ўтнуць* (гл.), *шубо́ўтнуцца* (гл.). Я йшоў, ішо́ў па по́яс, ада́ле шубо̂ўць, што й пацса́ку кінуў. Пас. Я. Қ.

ШУПЛЯ'Қ *р. -а́, мужч.* 1. Пераспелы і гнілы знутры (агурок, гарбуз). Хацê лі, гаво́рыць, купі́ць гурко̂ў. Але ні нашлі́. На ўвесь база́р на тро́х вазо̂х прадава́лі. Ні аднаго́ лю́дзкаго. Адны́ шуплякі́. Шку́рка — то́ўста, цьво́рда. А паці́снуў — дак гні́лы ў сярэ́дзіне. Глуск. 2. На першы погляд здаровы чалавек, нават паўнаваты ці поўны, але слабы, хворы. На ваце́таго Віктара зірне́ш — здаро́вы, а шупля́к. Кл. Можна меркаваць, што слова *шупляк* — з нямецкае мовы: *schofel* — убогі, мізэрны; паганы, паскудны.

ШУФЛЯВА'ЦЬ (*шупля*(*е*)*ва́ць*) *-ю-ю, -ю-еш, перах., незаконч.* 1. Згортваць, зграбаць шуфлем (збожжа, бульбу). Шуплява́ць паста́ўлю хло́пцаў, здараўцо̂ў ватэ́такіх. Н.-Андр. 2. Неперах. Сыпаць (сыпацца). Сьнê г шуплю́е й шуплю́е, другі́е су́ткі бесь сьціха́ньня. Глуск. Шуплява́ць — ад *шу́пель* (*шу́фель*).

ШУ'ШҚАЦЦА *-а́-юся, -а-ешся, незаконч.* Вельмі цёпла накрывацца, апранацца. Қаб так ні шу́шкаласа, то й ні прасту́джваласа б. Қл. Шу́шкаючыся. Пас. Я. Қ. Я й малада́я шу́шкаласа, ба́ляласа хо́ладу. Қл.

ШУ'ШҚАЦЬ *-а-ю, -а-еш, перах., незаконч.* Вельмі цёпла апранаць, укрываць каго-небудзь. Қажу́ ж, ні шу́шкай ты йіх (дзяцей) так. Зда-

раве̂йшые бу́дуць. Паду́май: саро́чка, ўя́занка (світар), пінжа́к, по́льтачка с каўняро́м, ша́пка з вуша́мі, шаль. Шу́шкаяш, то й прасту́джваюцца, ка́шляюць. Ні дзі́ва, шу́шкаючы. Пас. Я. К.

ШЧАВУ'К *р. -у́, мужч., множн. няма.* Расліна Rumas acetosella L., разнавіднасць шчаўя, расце на высокіх палях. На ты́м по́пары адзі́н шчаву́к узя́ўса. Каб накасі́ў, дак узі́мку се̂чка до́бра. Кл. Шчавуко́м ні ве́льмі нако́рміш. Кл. Ватэ́ты шчаву́к і зялёны каро́ва е̂сьці ні хо́ча. Пас. Я. К.

ШЧАКАЎЗНУ'ЦЦА *-ну́ся, -н-е́шся, законч.* Паслізнуцца (ужываецца і *пасьлізну́цца*). Ідзі хо́рашанька, ні шчакаўзьні́са. Шчакаўзьне́сса (з кладкі), то вы́купаясса ў таку́ю халадэ́чу. Кл.

ШЧАРБА'ЦЬКА (*шчарба́цько*(*-а*)) *р. -а, -і, агульн.* Шчарбаты. Ах ты шчарба́цька! Глуск. Ты шчарба́цько, бо шчарба́ты. Хал. І Ні́нка ва́ша шчарба́цько. Хал.

ШЧА'ЎЛІК *р. -у, мужч., памянш.* ад *шча́вель* (гл. *шча́вель* у вып. 1959 г.). Ты хаць шча́ўліку назьбіра́й. Кл. Трэ́ба пярабраць шча́ўлік. Пас. Я. К. Параўн.: шча́ўячка (*памянш.* ад *шчаўя*). Салом. Мін. р-на.

ШЧЫТО'К *р. -тк-а́, мужч.* 1. *Памянш.* ад *шчыт* — верхавіна дрэва (гл. *шчыт* у вып. 1959 г.). То̂лькі да́рам каня́ зганя́лі за сьве̂т. Стра́мнікі: ўдво̂х усклáлі два шчыткí й е̂дуць... Хі́ба хво́рые былі́ во̂з дроў нарэ́заць да пры-ве́зьці?! Адзі́н шчыто́к на адну́ печ, а другі́ на другу́ю, да йзноў з дрыва́мі гару́й сама. Кл. Усе йгру́шы апа́лі, а мо' стрэ́сьлі. То́лькі ў шчытку́ тро́хі астало́ся. Кл. 2. Шчыткі

(множн.). Верхавінкі травы, хмызняку. У Сідо́ра прако́сы — што гідко пазірну́ць на йіх. Дзе ку́п'е паўразáе, а дзе шчыткí тôлькі пазьбівáе. Кл.

ШЫБАНУ'ЦЬ *-н-é, неперах., законч.* Гл. *шыбáць*. На такíх абêду не звáрыш. Шыбану́ць — і немá. Хал.

ШЫБА'ЦЬ *-á-е, неперах., незаконч.* Шугаць, палаць. Прыстáў до́нька, чыгу́н: вéльмі ж дро́ва шыбáюць. А ш чыгуно́м ні бу́дуць так шыбáць. Пас. Я. К. Сухéнячкіе дро́вы, дак, бáчыш, шыбáюць. Н. ж. Нарабíлі кры́ку, а по́куль ву́скачылі, ўжэ хлёў шыбáе. Хал. Параўн.: *шыбáць — кідаць.*

ШЫ'БКА *р. -і, жан.* Тое, што і *шы́ба* (звычайна ўжываецца *шы́бка*). Тôлькі ўстáвілі, а сёні, нá табê, ву́білі шы́бку. Кл. Абу́дзьве шы́бкі бôльшые вы́садзілі. Хал.

## Э

ЭЙЧ *(эйч! і эйш!) часціца.* Бач. Э́йч ты ягó! Сказáў прáўду, дак у хаму́т даў. Кл. Эйш падм'ёў! А с куто́чкаў? Палавíна ячмéню асталáса. Кл. Эйш, што ро́біць? Байл. Параўн.: Эйш, як выдыгае перад паняю,— сказаў селянін Мацей Шыслоўскі. С. Александровіч; Яўхім... падумаў: «Іч, злятаюцца!.. Усе адно як сваякі!..» І. Мележ.

ЭЙШ! Гл. эйч.

Э'СТАЛЬКІ! Як многа! *Эсталькі* з *э́-сто́лькі* або *эх-столькі.* Э́сталькі гарадôў зраўнíлі (нямецкія фашысты) зь зямлéю! Багáто ўшчэ́рбу. Страх сказáць. Зраўнíць зь зямлéю го́рад ні то́е, што сто́пку спалíць. Пас. Я. К.

Э'ТУЛЬКІ Гэтулькі. А мнê ётулькі мáло? Кл. Э́тулькі дабрá булó, э́тулькі дамôў, усягó ўся́кага! І ўсе (усё) вайнá зьністóжыла. Глуск.

## Ю

Ю'КЛА (*ю́кло*(*а*)) *р. -а, ніяк., зняважл.* 1. Вялікі, абвіслы жывот. Разгадавáў ю́кло, што нôг ні бáчыць. Кл. Прагнáлі (знялі з пасады), бо ён у сваём ю́кле палаві́ну (дабра) ўтапі́ў бы. Кл. 2. *Перан.* Чалавек з вялікім жыватом. Кл.

## Я

Я'ГАДНІЦА *р. -ы, жан.* Жанчына, якая ідзе ў ягады, збірае ягады. Ты 'шчэ малáя я́гадніца. Згу́бісься ці прыстáнеш дзе. Падрасьцéш, тады́ тóе й бу́дзе. Кл. Вáшых я́гадніц тут пóўны лêс. Вайц.

ЯЗДЖА'ЛЫ *прым.,* у спалучэнні з *шлях, дарóга.* Наезджаны. Там і захóчэш, то німá як зьбіцца: скрôзь ягжджáла дарóга, пéрша за канáваю па лêвай руцэ̂, а ніяжджáлаю ні трэ́ба йці, зь ніяжджáлае зьбіцца мôжно. Кл.

ЯЛО'ВЕЦ *р. -ўц-у, мужч.* Ядловец (Juniperus communis L.). Бытуюць *ядлóвец* (часцей) і *ялóвец.* Найлêпшае пугаўé зь ялôўчыку. Пас. Я. К. Ву́ражмо ядлôўчынак. Кл. Параўн.: *ялéняц, ялéнчык.* Паўночная Віцебшчына.

## ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ

**Аб ка́мень і сту́піш (вытупіш), аб ка́мень і наво́стрыш.** Чаго́ бяда́? Чаго́ так ужэ? Ап ка́мянь і сту́піш, ап ка́мянь і наво́йстрыш. В.

**Абманíў — то сабé горш зрабíў.** Усê людзі ка́жуць: абманíў — то сабê го́рай зрабíў (то сабê гôрш нарабíў). Кл.

**Адзíн пень гарэ́ў, а другí спíну грэў.** Якóе там сваеўство́,—адзíн пень гарэ̂ў, а другí сьпíну грэ̂ў. Хал.

**Адна скака́ла — ліха не спатка́ла, а друга́я ціха — напатка́ла ліха.** Ст. Рацм.

**Адсадзíць вантро́бы.** Моцна збіць, пашкодзіць унутраныя органы. Каза́ла й кажу́: нашто́ табê зь йімі займа́цца? Ні то што нададу́ць, а калíль (калі-небудзь) ацса́дзяць табê вантро́бы. Кл.

**Аляксе́й праня́ў.** Захворванне страўніка, парушэнне стрававання. Бяда́ ў яго́. Жывато́м му́чыцца: аляксе́й праня́ў. Кл.

**Астанéшся ступянём — не здаго́ніш і канём.** Глуск.

**Асца́ завіла́.** Ш чаго́ б асца́ завіла́? Сьлíну го́ніць. Гл. *асца́* ў вып. 1959 г.

**Ба́віць час.** А ля чаго́ ба́віць час? Паêхалі! В.

**Бе́дны Рыго́рка, ста́ла табе́ го́рка.** Бêдны Рыгôрко, ста́ло табê гôрко (бу́дзе табê гôрко). Глуск.

**Бра́це Рыго́рка, ста́не і працíўную тваймý го́рка.** Бра́це Рыгôрка, ста́не й працíўню тваймý гôрка. Зуб.

**Бра́цца ў тру́бку.** Бярэцца ў трубку злакавая расліна — расце сцябло злакавай расліны. Трэ́ба, ка́жуць, каб на Юр'е варо́на ў жы́це схава́лася, а сёлята, ба́чце, пачало́ бра́цца ў тру́бку. Кл. У майí жы́та бярэ́цца ў тру́бку. Кл. Ужэ́ жы́та пачына́я бра́цца ў тру́бку. Глуск.

**Браць на гімо́ры** (браць на г'імо́ры). Выпрабоўваць, вывіжоўваць, выведваць. Хітру́н такí!.. Пыта́яцца, а сам бярэ́ на г'імо́ры. Глуск.

**Браць на по́вад.** Навязваць (вала, карову, цялё) за рогі на вяроўку, на повад, лыга́ць (гл.). Ці ж ты заго́ніш (каро́ву)? Дзе ба́чыў! Адно́ — на по́вад трэ́ба ўзяць. Шука́й і на по́вад б[е]ры́. Хал.

**Браць (узяць) на пу́п.** Падымаць, згружваць, цягаць цяжкае. Кава́льская рабо́та ця́жка: цяга́й жалêзьзе, папагасі мо́латам па кава́дле. Што зарабôтно? Бяры́ цалюткі дзень на пу́п. Кл. Ён хітрэ́ц вêчны. А рабіць зь йім — то як хто, а ён на пуп ні во́зьме. Пас. Я. К. Дзень папабра́лі на пу́п, а скасілі па два́ццаць тры со́ткі: канюшы́на табê ні асака́. Н. ж.

**Браць (узяць) след.** На від харо́шы ахо́тнічы (сабака). А скôлькі ні хадзіў (на паляванне), сьлêду (звера) ні берэ́. Пас. Я. К. Бêг у майго́ слабава́ты. А калі сьлêд во́зьме, то ні кіне. Узя́ў сьлêд — то пашо́ў і пашо́ў. Байл.

**Быва́е, свой язы́к го́ршы за ліхо́га сусе́да.** Бува́е, свôй язы́к гôрай за ліхо́го сусêда. Кл.

**Бяду́ бедава́ць.** Хадзі, Яўге́ня, пачу́й бяду́ маю́. Сяджу́ да бяду́ю сваю́ бяду́. Кл.

**Валаса́ты, як ву́сень.** Тут прыхо́дзіў нêйкі, ве́льмі валаса́ты, ну, як ву́сянь. І ру́кі валаса́тыя,— як ву́сянь! В.

**Ва́ранае, сма́жанае, пе́чанае й так кава́лкамі.** Рыбак, які заўсёды вельмі аптымістычна ацэньваў свае поспехі на рыбацтве, гаварыў: У маê дачкі ры́бы ва́ранае, сма́жанае, пе́чанае й так кава́лкамі. Кл.

**Во́ўчыя зу́бы.** 1. *Літаральн.* Вольн. 2. Пра таго, ад каго не атрымаеш, у каго не вырвеш, не забярэш. Хіба́ ён вы́пусьціць с свайíх вôўчых зубôў? Н[е] такі, бра́ця, ён чалавêк. Вольн.

**Ву́шы апусціць (апускаць).** 1. *Літаральн.* Худы́ кôнь, дак ён і ву́шы апуска́е. Кл. 2. Звесіць нос, апусціць нос, замаркоціцца, засмуціцца, зажурыцца. Ён быў саўсім ву́шы апусьціў. Ста́лі каза́ць, што равізяя прайшла́, даклада́ць трэ́ба, а то й суд. Хал. А вы чаго́ там ву́шы апусьцілі? Тôлькі й бяды́! Ні то́е было́. Н. ж.

**Ву́шы падня́ць.** 1. *Літаральн.* Кôнь ве́льмі чу́е во́ўка. Нêйдзе хо́дзіць блізко, дак падня́ў (конь) ву́шы. Бач, стрыжэ́! Кл. 2. Пачуцца лепш, падбадзёрыцца, адчуць надзею. Супрацьлеглае — ву́шы апусціць (гл.). Было́, што хадзілі што падзь зямле́ю. А е́то прыêхалі (сыны),

хадзілі ўсюды, ёзьдзілі. Нешто выхадзілі. Суду ні будзе, то й зноў вушы падыме. Кл.

**Выбіцца з духу.** Знясіліцца, аслабець. Ні пярарваліся на рабоце! Памаглі б мацяры. Тая скора выб'яцца з духу. Усе (усё) каб дзеткам роскашы. В. Параўн.: Мялее і нядужае стары нябога Дняпро. І потым... выбілася з духу Плёска. Дзе зусім парвалася, усохла, кінуўшы знак колішняй магутнасці,— глыбокі, замуравелы равок-рэчышча. М. Гарэцкі.

**Выбіцца з сілы.** Канём аттуль з-за канавы не прыв[е]зёш, дак на насілках насілі. Пакуль пяранесьлі, дальбог выбіласа сь сілы. Хал. Выбіўся салдацік сь сілы, бачыць дамок. Зайду, сам сабе думая, папрашуся начаваць. Вольн. Нашто, сыне, сьп[е]шацца? Вуб'ясса сь сілы, й толк увесь. Кл. Параўн.: Натта ш цяшкая была блакада. Ці дасьцё веры? Выбіліся сь сілы, й жыць страшна стала. Бясяды Лаг. р-на. Параўн.: аж з сілы выбіўса. А. К. Сержпутоўскі. Калі мы выйшлі з лагчыны на поле, выбіліся з сілы. І. Пташнікаў; зьбіцца з моцы. Буда-Кашалёва; у руск. мове выбиться из сил (множн.).

**Вычынка даражэйшая за аўчынку.** Нашто мне гандаль такі? Вучынка вуйдзе даражэйша за аўчынку. Кл.

**Вялікая вада.** Паводка. З-за ракі ні прывезёш дроў: вада веліка. Кл. Усе (усё) лета была вялікая вада, то ўвосянь ну й палавілі рыбы! Пас. Я. К.

**Гады змаліць.** Паказаць меншы ўзрост (на словах, у дакументах). Гады змаліла, бо схітравала, падышла пэньсяя, а ні даюць. Вольн. Параўн.: Але я забыўся, што ў Пеці Жардэцкага змалены гады, што яму запісалі не дзевятнаццаць, а шаснаццаць. І. Пташнікаў.

(Высока) **галаву насіць.** Быць ганарыстым, высока нос задзіраць. Што сь цябе будзе, тое будзе. А чаго высоко так голаў носіш? Кл. Што-то я! Вельмі ўжэ высока голаву носіць. Н. ж.

(Нізка) **галаву насіць.** Сумаваць, смуткаваць, цяжка пераЖываць, быць падкошанаму горам, няшчасцем. А ш чаго там так ўбівацца й нізко голаву насіць? Н. ж. Параўн.: Сціха, памаленьку хадзіла. Нізко галоўку насіла. M. Federowski. Lud białoruski... Warszawa, 1968.

**Гаруе, як вол.** Нашто так? Хлапчукі ладныя. Хай бы ж памаглі пакрысе. Дак не! Гуляюць, а сама, знай, гаруя, як вол. В.

**Гніло́га не падпіра́й.** 'Шчэ мôй дзя́дзько-н[е]бôжчык гавары́ў: но́вае рабі, а гніло́го ні путпіра́й. Кл. На тое бôк (гл. *бо́к* у вып. 1959 г.) і кажу́ць: гніло́га ні патпіра́й. Кл. Параўн.: Не падпірай у жыцю гнілое, бо яно ўсе руоўно ўпадзе. А. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета. Л., 1926.

**Го́ра гарава́ць.** Як було́, то абу́двум. Ра́зам го́рэ гарава́лі. Глуск.

**Го́сці спраўля́ць.** Міха́сь, хоць нябôжчык, ве́льмі скупы́ быў. Лю́дзі го́сьці спраўля́юць, а ён са́ду пілну́е. На Ю́р'е го́сьці спраўля́цьмяце? Ці хто йіх спраўля́ў! Кл.

**Да віднóга.** Бува́ло, да віднóго кóпу жы́та змалóцім. Кл. Е́дзьма, хло́пча, да віднóга ў Глу́ску бу́дам. Барб.

**Да ла́ду даве́сці.** Тое, што і *даць лад, даць ладу.* По́куль ва́рыва сваé (сваё) ні давяду́ да ла́ду, ніякіх пальча́так табê шука́ць ні бу́ду. Панавыдумля́юць — каму́ рукавíцы, каму́ пальча́ткі. В. Малы́я дзêці — малы́ кло́пат. А падрасту́ць, то й кло́пат падрасьцé. Саваê ж, не чужы́я, да ла́ду трэ́ба даве́сьці. Сым.

**Дату́ль карцéла, паку́ль е́сці хацéла.** Пра няўдзячных, пра бесклапотных. Дату́ль (і по́туль) карцêло, по́куль (і паку́ль) êсьці хацêла. Сл.

**Да чо́ртавай гíбелі.** Вельмі многа, чортава гібель. Ко́рму ж да чо́ртавай гíбялі нарабілі. А так бу́дуць цяга́ць, раскіда́ць, то хіба́ па-лю́дзку?

**Два разы́ не паміра́ць, а раз — пры́дзецца.** В. Два разы́ ні паміра́ць, а ра́з — то пры́дзецца. В. Параўн.: у руск. мове Двум смертям не бывать, а одной не миновать.

**Дзе сяда́ць, пра́ўду ка́жаш, там і ўстава́ць.** Глуск.

**Дзé там!** Раз угле́дзяла ў Глу́ску, хацêла загавары́ць. Дзе там! І ні блі́зко! Кл.

**Дзень-год.** Летні доўгі дзень. Дзень-гôд па́сьвіць сьвіньнéй ніхто́ ні ўтрыва́е. Дзé ба́чылі! Пас. Я. К. Параўн.: і сышла на дзень-год у поле жаць авёс... М. Гарэцкі.

**Дзень днява́ць** (дзень днава́ць). Зьбяру́цца з ра́ніцы, дак да ве́чара ў нас, уве́сь дзень дную́ць. Кл.

**Дзе́ці агарну́лі.** Стала многа (адно за адным) дзяцей. Хіба́, ду́маеш, лёгко? Агарну́лі дзêці, сама́ ні ве́льмі што (пра здароўе). Кл.

**Дзёбам сядзе́ць.** Не расці, заставацца ненармальным (пра рост чалавека, жывёліны, расліны). Ве́льмі пôзныя (кураняты). Вы́вяліся — жніво́ канча́лі, а мо' й ко́нчылі, нôч до́ўга, пахаладáла. Сядзя́ць дзёбам, ро́сьлі (гл. *рôсля*) на йіх ані́ німá. Ці й бу́дзе зь йіх што? Кл. Усé маé (усё маё) ў грáдах сядзíць дзёбам. Кл. Хо́ладна й су́ха, дак уся́ пашня́ дзёбам сядзíць. Пас. Я. К.

**Дзяво́цкая красá — заплёценая касá.** Глуск. Параўн.: Дзево́цкая краса, на галоўцы каса і руцьвяны веночак, маладых нашых дзевачак. M. Federowski. Lud białoruski... Warszawa, 1957.

**До́бра кáжаш.** Пабочны сказ: праўду кажаш, праўда твая, але з адценнем большай блізкасці да таго, з кім гаворaць ці на каго спасылаюцца. Яго́, до́брэ кáжэш, на ланцугу́ за старшыню́ ці зацягнуць. Н. ж. Мо' й мы, до́бра кáжаш, ражжывôмся. Вольн. Нашто́ мнê, до́бра кáжаш, аж дзьвê штукі (дзве каровы) маць (мець). Сым.

**До́бра раздо́бра.** До́брэ раздо́брэ зрабí, а ён: «Ні тáк». Кл.

**Дождж не камéнь, мы не глíна.** Хлапчукі, бачачы, што дождж не сціхае, выскачылі з сенцаў і закрычалі: «Дож ні кáмень, мы ні глíна; Дож ні дубíна, мы ні глíна!». Пас. Я. К.

**До́ўгі, як пілíпаўская ноч.** Кл.

**До́ўгі, як пятро́ўскі дзень.** Кл.

**Ду́ба-ру́ба.** Абыякава, без ладу і без парадку (скідаць, звальваць што-небудзь). Узнікла, мабыць, у працы з лесам (дуб, рубам). Ду́ба-ру́ба паскідáлі й хо́ду. Вольн.

**Ду́рань і мя́ла зло́міць.** Ду́рань і м'я́ло зло́міць. Кл. Разу́мны рабо́ту зро́біць, а ду́рань і м'я́ло зло́міць. Глуск.

**Духí дастáць.** Дастаць душу, выняць душу, выцягнуць душу. Паслу́хай нас, ні рабí éтак, про́сім цебé про́сім. Ты зь йімі ні ўжывéш. Хаць с каго́ дастáне духí. А ты несьмêла такáя. Хал.

**Духí спéрла.** Дух зацяло, дух заняло, дыханне заняло. Як бяго́м, дак бяго́м, як бêгці, дак бêгці, а хібá здагнáла? Духí сьпéрло, й нагí пярастáвіць німá сілы. Кл.

**Ду́ху набірáцца.** Адважвацца, асмельвацца. По́куль ду́ху набірáўся (каб запрасіць дзяўчыну на танец),

й вечары́нка ко́нчылася. Сл. Параўн.: набіраліся духу на вялікую справу. М. Гарэцкі.

**Душа́ захо́дзіцца.** Халадэ́ча, што душа́ захо́дзіцца. Зуб.

**Жывато́м е́здзіць.** Зір у вакно́ — е̂дуць, два палі- ца́йі й два немцэ. Каб жывато́м е̂зьдзілі! Сл.

**Жываты́ рваць (парваць, папарваць).** Так выдумля́ў, што дальбо̂г жываты́ ірва́лі. Сл. Як пры́дзе на вечары́н- ку, то ўсе̂ папарво́м жываты́. Сл.

**Жыцця́ не ве́даць; жыцця́ не знаць; жыцця́ не ве- да́ць ды не зна́ць.** Ужываюцца ў зламоўных пажадан- нях. Жыцця́ б ён ні ве̂даў, кат той, і дзе̂ці яго́! Сто̂лькі людзе́й за во́йну наму́чыў. Глуск. Я зайшла́ й пута́ю, нашто́ гра́ды мае̂ стапта́лі. А ён: «Мо' ні ко́ні, а валы́ стапта́лі, я ні ве̂даю». А каб ты жыцьця́ ні ве̂даў да ні зна́ў. Кл.

**Жыцця́ не даць (не даваць).** Купе̂м, кажу́ на свайго́, бо жыцьця́ не да́сь. Хал. По́куль ні зро́біш, як хо́чацца яму́, то жыцьця́ ні да́сь. Кл. Была́ й таго́ акано́ма ве́ль- мі го́жа дзе̂ўка. Ось падрасла́. Й ні дае̂ ба́цьку жыцьця́: хо́чу, ка́жа, ў го́рат. Вольн. Дзе̂ці — у каго́ як. Хто зь йіх це̂шыцца, а каму́ жыцьця́ ні даду́ць. У таго́, што з ва́мі гавары́ў, адзі́н (сын) гульта́й, п'я́нчыць і з ба́цькі ўсе (усё) спаганя́е. В.

**З во́ка не выпуска́ць.** Мець кагосьці пад руплівым наглядам, сістэматычна дапамагаць. Вы ж ужэ глядзе̂це, з во́ка ні выпуска́йце: дзі́ця ж, ма́ло што яму ўзду́маяц- ца. Глуск. Параўн.: Добры быў Васіль Аркадацкі..., які ўзяў мяне з земляных работ і не выпусціў з вока, пакуль не дабіўся толку. Я. Скрыган.

**З вялі́кага ро́зуму.** *Іран́ічн.* пра мудрагельства. Усе (усё) ў его зь велі́каго ро́зуму. Што́-то я! Дак на трэ́й- цюм ме̂сьце (пасадзе) не ўдзе́ржаўса. Хал.

**З го́рам, з бядо́ю папала́м.** Што нам, стары́м? Жылі́ до́ўго. Жылі́ з го́рам зь б[е]до́ю папала́м. Цяпе́р на жы́т- ку ўзьбіліса. Зуб.

**З жывы́м мя́сам.** Ву́рвала пе́р'е ж жыву́м м'я́сам. Кл.

**З кале́на вы́ламаць.** Фразеалагізм ужываецца, калі гавораць, што чаго-небудзь няма і не могуць знайсці для каго-небудзь. Дзе вазьму́ таго́ лёну? Што? С кале̂- на вы́ламу? Кл. Дзе ўзяць? С кале̂на ні вы́ламлю. Пас.

Я. К. І н[е]ма́ й н[е]ма́ дзе ўзяць. Хіба́ я с калêна ву́ламлю. Н[е]ма́, а с калêна н[е] ву́ламлю. Хал.

**З па́мяці зляце́ць.** Я́к-бо, скажы́ ба́цько, таго́ зва́лі, што бра́лі касíць на ча́сь? Зьляцêло с па́мяці,— ні ўспôмню. Кл. Скажы́ ж, каха́на мая́, с па́мецi на ту́ю часíну зьлецêло. Стр.

**З ра́ніцы ро́сна, удзе́нь мло́сна, а ўно́чы спаць трэ́ба.** Пра гультая. З ра́ніцы рôсно, ўдзень млôсно, а ўно́чы спаць трэ́ба. Сл. Варыянт: З ра́ніцы рôсна, ўдзень млôсна, а ўве́чары камары́, ні прачну́ся да зары. В.

**За высо́кім частако́лам слі́вы смачне́йшыя.** Глуск. Параўн.: у руск. мове (з біблейнага) Запретный плод всегда слаще.

**За́відкі з сярэ́дзіны чалаве́ка з'ядаюць.** Заві́дкі сь сярэ́дзіны чалавêка зьяда́юць. Глуск.

**Заві́днае во́ка.** Зайздросны чалавек, зайздроснік. Дарôш, але ні заві́днае во́ко. Кл. Тва́е (тваё) во́ко ве́льмі заві́днае. Што ўба́чыла,— чаму́ ў мяне́ німа́? Пас. Я. К.

**Замка́ без ключа́ не ро́бяць.** А чаго́ там? Замка́ бес ключа́ ні ро́б[е]ць. Рабі́ў адно́, то й друго́е трэ́ба рабі́ць. Хал.

**Збіра́й (бяры́, на́) сва́е ца́цкі: я з табо́ю не гуля́ю.** 1. *Літаральн.* 2. Жартам кажуць, калі не дайшлі да згоды, калі разыходзяцца без згоды. Зьбіра́й сваê ца́цкі: я с табо́ю ні гуля́ю. Кл. Беры́ сваê ца́цкі: бôльш с табо́ю не гуля́ю. Хал. Бяры́ тваê ца́цкі: бôльш ні гуля́ю. Кл. Дава́й маê ца́цкі: я с табо́ю ні гуля́ю. Кл.

**Зве́рху шо́ўкавыя ху́сткі, а ў галаве́ — пу́сткі.** Зьве́рху шо́ўкавыя ху́сткі, а ў галавê пу́сткі. Ст. Рацм.

**Злі́зваць вяршкі́.** Жывіцца, браць, атрымліваць лепшае, прычым незаслужана. Як ні е́ (ёсць), як ні бу́дзе, а ён пасьпêе злíза́ць вяршкі́. О! Умêе злі́зваць вяршкі́. Побл. Параўн.: у руск. мове снять (снимать) пенки.

**Зло́сці не хапа́е!** Цярпенне скончылася, далей цярпець нельга. Дальбôг на су́д пада́м. Пайду́ й пада́м, бо мнê даўно́ ўжэ зло́сьці ні хапа́е! Кл.

**Зо́рная даро́га.** Млечны шлях. Глядзêця ж, як хто на не́бе зрабі́ў: праз усё не́ба зо́рная даро́га. В.

**Зо́рны шлях.** Млечны шлях. Хоць я́к ка́жуць: хто́ зôрна даро́га, а калí — зо́рны шлях. В.

**Зрабі́ць спроб.** Выпрабаваць, праверыць на якую-небудзь якасць, здатнасць, прыгоднасць. Дава́й зро́бім таку́ю спро́бу: ты круці́, а я бу́ду пазіра́ць зьве́рху, як кру́ціцца блісьня́. Кл. Гл. узя́ць на спро́бу, на спроб.

**Зу́бы лупі́ць.** Смяяцца. З адценнем *асуджэння* і *непашаны.* Зьв[е]лі́ дз[е]це́й бо́рацца, а са́мі ўдво̂х стая́ць і зу́бы лу́п[е]ць. І ні стра́мно бальшуна́м? Кл.

**З'ясі́ вала́, то бо́льш не зарыка́е.** Параўн. з прыказкай: з'е̂ж хоць вала́ — адна́ хвала́. Зьясі́ вала́, то бо̂льш н[е] зарыка́е. Глуск.

**Зямля́ не но́сіць.** Людзе́й білі (забівалі) да ўсе (усё) ўся́кае сабе̂ насі́лі (паліцэйскія). Каб йіх зямля́ не насі́ла! Зуб. Як то̂лькі цябе́ зямля́ но́сіць? Да таго́ разгульта́йіўся, што сябе́ ні агле́дзіць. І ро́зум есь (ёсць), і ру́кі як ру́кі, а так апусьці́ўся. В.

**І ха́та і лапа́та.** Усё — двор, будынкі, мэбля. На двайі́х душэ́ю, на ўсём гато́вам — і ха́та й лапа́та, усе сваé (усё сваё). Кл. Бацькі́ паўміра́лі, а йім (сыну і нявестцы) усе́ (усё) гато́вае. Тут, ка́жуць-бо, й ха́та й лапа́та. Сл.

**І я б до́бра рабі́ла, каб рабо́та была́ мі́ла.** Глуск.

**Ка́жуць, што і ма́сла хле́бам ма́жуць.** Ка́жуць, што й ма́сла хле̂бам ма́жуць. Зуб.

**Кале́лая бярэ́.** Сьці́хніце! Чаго́ вас кале̂лая бярэ́. Глуск.

**Камо́рнік ме́раў, а чорт ле́нту парва́ў.** Гаворацць, калі свядома няправільна змералі, падлічылі, улічылі што-небудзь. Варыянты: Камо́рнік ме̂раў, а чо́рт шну́ра парва́ў. Хал. Камо̂рнік ме̂раў, а чорт ле̂нту парва́ў. Глуск.

**Каму́ ґры́ўня, а каму́ дзі́ўна.** Глуск.

**Каро́ву прадала́ і бо́йку аддала́.** Ні аднаго́ хваста́ на се́лішчы. Ка́жуць-бо: каро́ву прадала́ й бо̂йку аддала́. Кл. Параўн.: Збыў каро̂ўку, збыў і вяро̂ўку. Кл.

**Кату́ па пяту́, пчале́ па кры́лле, саба́ку па хвост.** Зуб.

**Клін клі́на паганя́е.** В. Параўн.: у руск. мове *клин клином вышибают;* па-латыні *similia similibus curantur.*

**Ко́лам у гру́дзях.** Вялікая непрыемнасць ці перашкода. А тваé (тваё) вучэ́ньне ко́лам у гру́дзях мне̂. Кл. Рабо́та ў ва́шай бальні́цы мне̂ ко́лам у гру́дзех. Глуск.

**Ко́лам у гру́дзях стаі́ць.** Гл. *ко́лам у гру́дзях.* Ні трэ́ба тваё по́мачы. Ко́лам у гру́дз[е]х стаі́іць твая́ по́мач. Хал. Параўн.: Калом у грудзях стаяла гэтая канаўка, што магла адрэзаць частку агарода. А. Кулакоўскі.

**Ко́лас высыпа́е.** Паяўляецца колас у злакавых раслін (як этап у развіцці). Як ко́лас (ячменю) вы́сыпле, то ўжэ салаўя́ ні пачу́еш. Кл.

**Ко́лас у ко́лас.** Роўныя і буйныя, як адзін, каласы. А бач, ста́ла (пшаніца) карчы́ста, сало́ма ў сало́му, ко́лас у ко́лас. Кл.

**Ко́са пазіра́ць.** Тое, што і *скры́ва пазіра́ць, кры́ва пазі́раць.* На́шаму сусе̂ду ця́жка ўнаравіць. Ек то̂лькі што — ко́со пазіра́е. Хал.

**Ко́стка** (чыясь) **саба́чым мя́сам абрасла́.** Так гавораць пра чалавека, які стаў нягоднікам, здраднікам. Дак жыў той акано́м, жыў. Разбагаце̂ў кра́дучы па́нскае. А зь людзьмі́ — сабака саба́кам. Ве̂дамна, ко̂стка яго саба́чым мя́сам абрасла́. Сым. Параўн.: Многа тут гетаких есть, што хоть наша костка, однако собачым мясом обросла и воняеть... Прамова Мялешкі.

**Кра́сны дзераве́ц.** 1. Разнавіднасць ракіты з чырвонаю карою. Кл. 2. Назва ўчастка поля і лесу, дзе расце гэта дрэва (кусты). Кл., пас. Я. К.

**Кры́ва пазіра́ць.** Гл. *скры́ва пазіра́ць, ко́са пазіра́ць* Нашто́ саба́ка (нават сабака), набі́ў, дак іду́ — кры́во пазіра́е, вільне́ хвасто́м, а падбе̂гчы й ні падбяжы́ць. Пас. Я. К.

**Ле́вы бок.** 1. *Літаральн.* Левы бок. Кл., Глуск, Хал., Сл. 2. Спод, вываpат (сукна, краму). Параўн.: пра́вы бок. Ваце́тае (паказваючы на крам) зь ле̂ваго бо́ку харашэ̂йшае, [е]к с пра́ваго. Глуск.

**Лепш пяць разо́ў умары́цца, як адзі́н раз пасвары́цца.** Зуб.

**Ліхі́ чалаве́к і за лучы́нку зно́йдзе прычы́нку.** Гл. *ліхі́* ў вып. 1959 г. Нашто́-бо ка́жуць: Ліхі́ чалаве̂к і за лучы́нку зно̂йдзе прычы́нку. Зуб.

**Лоб насталі́ць.** Стукнуцца, выцяцца ілбом. Дзе́ ета ты так ло́б насталі́ў? Пакажы́... Кл.

**Ляце́ў, як хаце́ў, па́даў, як бог даў, а ўстава́ў — азіра́ўся.** Нашто́? Нябо̂шчык дзе̂т каза́ў, як што: «Ляце̂ў, як хаце̂ў, па́даў, як бо̂х даў, а ўстава́ў — азіра́ўся». Глуск.

**Ма́ла ве́даў (знаў) — даўжэ́й спаў.** І слу́хаць ня хо́чу! Ме́няй знаў — даўжэ̂й спаў. Ст. Рацм. Ма́ла ве̂даў — даўжэ̂й спаў. Зуб.

**Мала́нка-расцераза́нка**. У праклёне: Каб йіх мала́нка-расьцяраза́нка спалі́ла! Каб вас мала́нка-расьцяраза́нка! Кл.

**Ме́раць на свой капы́л.** Ты ўсіх ні ме̂рай на сво̂й капу́л. Ду́маяш, калі́ ты такі́, то й ўсе такі́е?. Кл. Звык кама́ндаваць. Як ён (думае, лічыць), так ужэ́ й пра́ўда? Усе́ (усё) ме̂рая на сво̂й капы́л. Глуск. Параўн.: у руск. мове мерить на свой аршин.

**Му́чыцца, як лісі́ца ў саладу́се.** Глуск.

**На заві́дныя во́чы парушы́нкі па́даюць.** *Заві́дныя* — зайздросныя. Кл.

**На лапа́ту ды за ха́ту.** Пра непрыгоднае, непатрэбнае. То́лку зь йіх! То̂лькі на лапа́ту, ды за ха́ту. Пас. Я. К.

**На лю́дзях пра́ўда пра́ўдзіцца.** Людзі, грамада бачаць праўду, праўда (пра чалавека) правяраецца на людзях, у грамадзе. Тут *на лю́дзях* — як і рускае *на миру*. Ад людзе́й хіба́ схава́яш? На лю́дзях пра́ўда пра́ўдзіцца. Уба́чаць — ці цяпе́р, ці ў чацьве́р — чыя́ пра́ўда, а чыя́ мана́. Дубр.

**На мо́й ро́зум.** А ту́т, на мо̂й ро́зум, трэ́ба ста́віць хоць тро̂х: дво̂х чалаве̂к ма́ла. Глуск. Усё ваце́тая, на мо̂й ро́зум, лі́шняя. Сым. А ек на мо̂й ро́зум, то пасла́ць дзьве̂сьце̂, а цераз недзе̂ль дзьве̂ — йшчэ дзьве̂сьце́. Сл.

**На пагля́д.** З выгляду. На пагля́д харо́шы чалаве̂к, а як зь йім? Мо' на пагля́д — адзі́н, а тагды́ — другі́ зусі́м. Глуск. На пагля́д, здэ́цца, й ні ве́льма што, а разу́мны й рабо̂цько. Кл.

**На парабкава́нні, як на палява́нні: што падстрэ́ліў — то́е і тваё.** Што парабкі? Што́ ў іх? О̂т! На парабкава́ньні, як на палява́ньні: што пацстрэліў, то́е й тва́е. Кл.

**На сло́ва — як стой, а па сло́ве — пасто́й.** Пра лёгкіх на слова балбатуноў, якія абяцаюць і не робяць; *як сто́й* — хутка, *па сло́ве* — сказаўшы, паабяцаўшы, *пасто́й* — пачакай. А ў йіх і ве̂к так: ска́жэ ї ні зро́біць, на сло́во — як сто̂й, а па сло́ве — пасто̂й. Глуск.

**На ўха́бу пайсці́.** Збіцца з толку, з правільнага шляху. Зь его́ брыгадзі́ра ні бу́дзе. Паба́чыце, аць сілы тры

мêсяцы, ну, шэ̂сь, а да́ляй на ўха́бу пôйдзе. І ў савêце быў, і ў Ма́ќавічах ці дзе, а ўсю́ды адзі́н кане́ц. Пас. Я. К.

(Іграць) **на язы́к.** Ваце́тые Рыго́равы ўсê здáтные на пêсьні. А та́я ме́нша та́к ужэ йгра́е на язы́к! Ќаб чу́-лі! Зьбяру́цца ку́чаю, ска́чуць, а яна́ на язы́к іграе. Кл.

**Не ма́еш сква́ркі — не шука́й ча́ркі.** Глуск.

**Не пазна́юць, то папыта́юць.** Апрані ба́цькаву падзьдзêўку. Ніхаро́ша? До́бра тако́му жаніху́ (іранічна хлапцу-падростку). Ні пазна́юць, то папыта́юць. Кл. У дож хаць што, хаць чым (накрыцца), абы́ су́хо. Ні бôйса, ні пазна́юць, то папута́юць. Хал.

**Не паслуха́ючы душы́.** Не зважаючы на стому, на цяжкасці працы. Усе́ (усё) лêцячка рабілі ні паслуха́ючы душы́! Н. ж.

**Ні гаў, ні каў, ні кукарэ́ку.** Гаворяць, калі няма нічога (нават сабакі, ката, пеўня). Кл.

**Ні за якія гро́шы.** Нізашто, ні ў якім разе. Сказа́ў, што піць пярастáну, то ні за якíе гро́шы аднаê ча́ркі ні во́зьме. Пас. Я. К. Я ўнôчы на клады́ (могілкі) ні за якíе гро́шы ні пайду́. Кл. Так мнê спрацíвялі малíны, што глядзêць га́дка. А каб зьзêсьці — ні за якія гро́шы. Вайц.

**Ні на пе́чы, ні ў цяньку́ — нідзе́ ме́сца не знайду́.** Жыла́, жыла́. Да дава́й выдумля́ць, дава́й чартвêд што ў го́лаву браць. Пра́ўду-бо ка́жуць: ста́ла так, што ні на пе́чы, ні ў цяньку́ — нідзê мêста ні знайду́. Ст. Рацм. Параўн.: Ні ў гаро́дзя, ні ў саду́ — нідзê мêйсца ня знайду́! Купа Мядз. р-на.

**Ні сянíнкі, ні цавíнкі.** Тако́е лêцячко! Мôжно накасíць ні то што на каро́ву, а двôм такíм здараўцôм на хве́рму цэ̂лу. А ў йіх — гультаê! — ні с[е]нíнкі, ні цавíнкі. Кл.

**Навало́ка са свêту.** Прыблудны (пра чалавека). Прымака́ ж узя́ць ду́мала. Ужэ́ й быў, абêдам частава́ла. Ада́ле ба́чыць, што навало́ка са сьвêту. Нашто́ ён?.. Хіба́ тôлькі абакра́сьці? Глуск.

**Нагí не ва́рты.** А ты й нагí его́ ні ва́рты. Сл.

**Ніво́днаму Міко́ле не вер ніко́лі.** Ніво́днаму Міко́ле (рэлігійныя святы два разы на год: адно ўвосень, другое ўвесну) ні вêр ніко́лі.

**Но́вае рабі́, а старо́га не падпіра́й.** Што тут варажы́ць? Нашто́ ду́маць? Кажу́, што но́вае рабі́, а старо́го ні патпіра́й. Кл.

**Ног не змяні́ць (ног змяні́ць не мо́жа).** Сілы не хапае нават ісці. Так масла́бла с хваро́бы, што нôг зьмені́ць ні мажэ́. Кл. Дарва́ўся да чужо́го, так набу́хаўся, што нôг ні зьмêніць. Барб.

**Нос насталі́ць.** Стукнуцца, выцяцца носам. Бу́хнесься, то нôс насталі́ш. Мо' тады́ ла́зіцьмеш ні так. Пас. Я. К.

**Няма́ чаго́ зу́бы правяра́ць, калі сэ́рца стано́віцца.** Глуск.

**Па бядзе́ дзве бядзе́.** Кл.

**Па ка́рку заехаць.** Даць па ка́рку, даць у ка́рак. Кл.

**Па ле́вую руку́.** Злева. Сым., Н.-Андр.

**Па пра́вую руку́.** Справа. Ідôм зь е́ю. Я ацьсю́ль, яна́ па пра́ву ру́ку. Н.-Андр. Ні так,— стань па пра́вую ру́ку. Сым.

(Хадзіць) **па пусты́х сце́жках.** (Хадзіць, шукаць) без вынікаў, марна. Дзень свôй прахадзі́ў па пусты́х сьце́жках, а за́ўтра йзнôў хадзі́ць. Глуск. Параўн.: У вашым Мінску хаджу па пустых сьцешках другі дзень і ўсё попусту. Шаршуны Мінск. р-на.

(Аддаць) **па распі́сцы.** Сказа́лі кладаўшчыку́, дак ён даў (прадукты) па расьпісцэ. Хал. Параўн.: у руск. мове (отдать) *под расписку.*

**Паваліўся, як сноп.** Сл.

**Пазіра́ць ко́са.** Гл. *ко́са пазіра́ць.*

**Пайсці́ на падвышэ́нне.** От табê й беднякôў сын. Дзе-бок ён у ха́це-чыта́льні — сам каза́ў — за зага́ччыка быў? Атту́ль пашо́ў на падвышэ́ньне. Да вайны́ ў нас (у Глуску) у райко́ме рабо́таў, ада́ле ў Мінск. Па ра́дзіву раз гавары́лі: «прахве́сар». Рабі́ до́брэ,— чаму ж? — пôйдзяш на падвышэ́ньне. Глуск. Параўн.: атрымаў па службе падвышэнне. «Полымя».

**Пакаці́ўся, як сноп.** Упаў, паваліўся. Кл., Сл.

**Пальча́ткі на рука́х ша́ткі.** Пальчаткі слаба грэюць. Глуск.

**Памалі́ць гады́.** Гл. *гады́ змалі́ць.*

**Пама́лу (павольна), як му́ха па смале́.** Глуск.

**Пама́цаць каўне́р (каўняра́).** Даць па каўняры, даць у каўнер, даць па карку. Глуск.

**Па́нства паганя́ць.** Выяўляць панскія звычкі, «хварэць на пана», позна спаць; мала робячы, вымагаць добрай стравы, вопраткі. Рабіць каб не́, а каб наесьціса, да каб сма́шно, да каб пагу́льваць. Ты, ма́ці, рабі, а ён па́нства паганя́цьме. Кл.

**Пара́ перапарава́ла.** Даўно ўжо пара прайшла (што-небудзь рабіць). На жы́то ара́ць ні то́ пара́, а пара́ п[е]рапарава́ла. Кл. Мнê, ка́ж[э] на сло́ве, жаніцца й пара́ пярапарава́ла. Сым.

**Перабра́ць рэ̂бры.** Палічыць рэбры, надаваць па рэ̂брах. Слаўкаўцэ̂ спу́ску, бра́це, ніко́му н[е] дава́лі. Заро́біш — то й рэ̂бра п[е]рабра́ць мо́гуць. Сл.

**Пірага́ шука́еш — а хле́ба не цура́йся.** Зуб.

**По́куль Мо́ця нагне́цца, дак Ліса́ве́та нажне́цца.** Кл.

**Прывары́ць прыва́рку.** Хутка згатаваць страву (гл. *прывары́ць*). Такі яна́ гульта́й, што й êсьці звары́ць ляну́яцца. То малака́, то цыбу́лі дай седзіць. Ня то́, штоб прывары́ць прыва́рку. Кл.

**Пры́скам у во̂чы.** Пра злоснае рэагаванне на слова. Чуць скажу́ што, дак ты ж мнê пры́скам у во̂чы. Н. ж.

**Пу́ду падда́ць.** Пасеяць паніку. Што́ ты тут пу́ду паддае́ш? Вольн. Параўн.: Тодар Пошта бегаў па хатах жвавей, як звычайна. Сам ад страху млеў і другім пуду паддаваў. К. Крапіва.

**Пусцíцца на хíтрасць.** С такíм хітруно́м? Чуць што — пу́сьціцца на хíтрасць, а ты ду́рань бу́дзеш. Сл. Ба́чу, што трэ̂ба на хíтрась пусцíцца, абманíць паліца́я. Дзе ж, — вочы зайгра́лі, — заве́дзе́ ў паліцы́ю. А ма́ло хто варо́чаўса аттуль. Баян.

**П'я́ніца заку́свае хоць трэ̂скамі, абы гарэ̂лка была́.** Н. ж.

**Раза́чка рэ̂жа.** Рэзь, нясцерпны боль у жываце. Раза́чка рэ̂жэ. Раза́чка рэ̂зала. Раза́чка зарэ̂зала. Раза́чка папарэ̂зала. Кл., Барб. Нашто́ зрэ̂залі (дрэва)? Каб йіх раза́чка рэ̂зала да не атпуска́ла! Пас. Я. К.

**Раскíнуць ро́зумам.** Падумаць, скеміць. Раскíнь тôлькі свайíм ро́зумам, нêшта прыду́маем. Сл.

**Ро́зуму не дабра́ць.** Не скеміць, не здагадацца, чаго хтосьці хоча. Разу́мны то разу́мны, але ён ве́льмі ж ужэ̂! Зь йім гавары́ць — ро́зуму ні дабра́ць. Сым.

**Ро́зуму пыта́цца.** Што ён? Прышо́ў ро́зуму пута́цца? Кл. Параўн.: Ці ты, куме, розуму пытаеш? З народнай песні.

**Ро́зуму тро́нуцца.** Звар'яцець. Сказа́лі, што ро́зуму тро́нуўса ў во́йну. Глуск. Каб ты ро́зуму тро́нуўся! Нашто́ чапа́ў? Глуск. Параўн.: З Валок ці скуль баба тронулася з розуму. Радашк. Маладз. р-на.

**Ру́кі апа́лі.** Рукі апусціліся (бытуе і *ру́кі апусьцілі́ся*). Ро́зум у его́ е, але чуць што́, чуць ніўда́ча, зра́зу й ру́кі ападу́ць. Кл.

**Ру́кі ляма́ць.** Як выказванне роспачы пры няшчасці. А ма́ці разьліва́ласа, ру́кі ляма́ла, ек пачу́ла, што с сы́нам так зрабіласо. Хал.

**Саба́ка набі́ты.** Пра чалавека-нягодніка, які ўмее выкручвацца, хітры і асцярожны. А ў нас ско́ро разьб[е]ру́ць, пазна́юць, хто саба́ка набі́ты. Той Ал[е]ксе́й, што ў палі́цайі быў,— саба́ка саба́кам. Саба́ка набі́ты, але дакруці́ўса. Кл.

**Сало́ма ў сало́му.** Пра ўрадлівую збажыну пры буйных саломінах. А бач, ста́ла (пшаніца) карчы́ста (гл. *карчы́сты*), сало́ма ў сало́му, ко́лас у ко́лас. Кл.

**Са́ма раз.** Ціха ста́ла, хма́рнае не́ба, са́ма раз у ры́бу схадзі́ць. Кл. Гл. са́ма што. Мнê тваê пальча́ткі й ша́пка са́ма раз. Пас. Я. К.

**Са́ма што.** Тое, што і *са́ма раз* (гл.). Зяме́лька ву́гралаcа, са́мо што карто́плі кінуць (пасадзіць). Кл. Чаго́ ж ні хадзі́ць у шко́лу? Шасна́ццаты гôд. Са́мо што вучы́цца. Н. ж.

**Сваё хва́ліць, а чужо́е пад плот ва́ліць.** Хіба́ ты с пра́ўдаю начава́ў калі́? Ты тôлькі свае́ (сваё) хва́ліш, а чужо́е пат плôт ва́ліш. Барб.

**Сверб узя́ў.** Няўрымслівасць, нястрыманасць. Пасядзêце ціхянько! Чаго́ кру́цісься? Ато сьверб узя́ў? Кл.

**Свет не ба́чыў.** Тако́га раско́ла (гл.) сьвêт ні ба́чыў. Глуск.

**Сквярэ́цца, як са́ла на скаваро́дцы.** Хал., Кл.

**Скла́сці склад.** Гл. *склад* 2.

**Скры́ва пазіра́ць.** Мець на каго-небудзь затоеную крыўду. Гл. *крыва пазіра́ць.*

**Сма́га сма́жыць.** А ш чаго́ сма́га сма́жыць? На вясе́льлі ні быў і сьвежыны́ ні рабі́ў. Глуск.

**Сме́шкі набо́к.** Няма чаго жартаваць, скажам сур'ёзна. Тут сьмêшкі набôк, як дагаво́рымся, так зро́бім. Кл.

А вам тóлькі сьмêшкі й сьмêшкі. Смêшкі набôк: што мы сьмяя́цца, кажу́, сабра́ліса? Глуск. Параўн.: набóк жа́рты, набóк жа́ртачкі. Рад. Маладз. р-на; у руск. мове шутки в сторону.

**Спры́тны, як ка́чка на вадзé.** Побл.

**Ста́расць не ра́дасць, а маладóсць не на вéк.** Хал.

**Сцяна́ сцянóю.** Як сцяна. А ба́ч, ста́ла (пшаніца) карчы́ста (гл.). Салóма ў салóму, кóлас у кóлас, як сьцяна́. Адны́м слóвам, сьцяна́ сьцянóю. Кл.

**Сэ́рца абарва́лася.** Така́я ўжэ ўрóда (такая ўрадзілася): чуць што мнê, чуць што хаць ма́лячку зь дзêцьмі, дак сéрца абрыва́яцца. Кл. Сказа́лі, дак у мянé сэ́рца абарва́лася. Барб.

**Сэ́рца не на мéсцы.** Спалох, трывога. Ек сказа́лі, то ў менé сэ́рца атра́зачку не на мêсьце. Што я, бêдненька, рабі́цьму? Сл.

**Сядзéлі — паку́ль пілí і éлі.** Пра няўдзячных і няўдзячнасць. Седзêлі — пóкуль пілí й êлі. Глуск.

**Сядзéць на адны́м мéсцы.** 1. *Літаральн.* Не рухацца. Кл., Хал. 2. Не расці, дзёбам сядзець (гл.). Халадэ́ча така́я, су́хо зь зімы́. Нічóго ў гра́дах ні расьцé. Усé (усё) седзі́ць на аднôм мêсьце. Хал. Параўн.: На адны́м мéсцы сядзі́ць! Рóсту нíма́. Шаршуны Мінск. р-на; Сядзі́ць на дны́м мéйсцы. Ані рóсту. Рад. Маладз. р-на.

**Сяк, так, накася́к, абы не па-лю́дску.** У такóго рабóцька (гл. *рабóцька* ў вып. 1959 г.) вêчно: сяк, так, накася́к, абы́ ні па-лю́дзку. Кл. параўн.: Сяк, так, наўскася́к,— абы́ ні па-лю́цку. Свінка Кап. р-на.

**Таргу́йся, але не злу́йся.** Прышóў той сват дай пачына́е: «Таргу́йся, то таргу́йся, але, бра́це, ні злу́йся». Вольн.

**То бо.** Вось чаму. Тó бо гавóрыць да сам усé (усё) прыслухóўваяцца, як ска́жам. Дак ён усé (усё) сьпісвацьме, як жывôм, як што называ́яцца. Кл. То бо ўдвайіх ішлí: пажаніліса. Байл.

**Тó ж бо!** Пацверджанне: так, але, як супрацьстаўленне. Ра́на (раніцаю) схадзі́ў, дак сóрак баравікôў прынёс. — Тó ж бо! Пôйдзяш удзéнь — то дзе ж баравікí? Даўнó пазьбіра́лі. Пас. Я. К.

**Тупы́** (нож, каса ці іншая прылада), **як падóсак.** Кл.

**Тхары́ капа́ць (дзёрці).** Моцна храпці. А ты чу́ла, як ба́цька тхарэ̂ капа́е? Прачні́са: на ўсю́ ха́ту тхарэ̂

дзярэ́ш. Кл. *Тхарэ̂ капа́ць (дзёрці)* — трэба думаць, ад таго, што нагадвае храпенне, працяглае паўтарэнне слова *тхор*.

**У вілю́гі ісці́.** Выкручвацца, выві́льваць. А чаго́ ў вілю́гі йці? Чаго́ ні сказа́ць: правінава́ціўся. Дубр.

**У каўтуне́ закруці́ла (закру́ціць).** Уздумалася, у галаву прыйшло, стукнула ў галаву, у галаве закруціла. Ён як калі́, як у каўтунê закру́ціць. Раз до́бра гаво́рыць, а другі́ — сло́ва ні сказа́ць. Пас. Я. К. Хіба́ такі́ старшыня́? Хіба́ ў каго́ папута́е? Як у каўтунê закру́ціць, так і рабі́ў. Барб.

**У кі́і (у па́лцы) два канцы́.** Адказ на пагрозу пабіць кіем, палкаю. Кі́ям стра́шыць нашто́? Бо ў кі́йі два канцы́. Глуск. Стра́шыў па́лкаю. А я яму́: а ў па́лцэ два канцы́. Кл.

**У сла́ву ўво́дзіць (уве́сці).** Шальмаваць, знеслаўляць. З до́брымі, з разу́мнымі — на до́брае наву́чысса. А з валацу́гамі ты́мі — тôлькі ў сла́ву ўведу́ць. Со́раму набра́цца хіба́. Глуск.

**У тры́ па́льцы.** Крышачку (чаго-небудзь сыпкага, напр. солі, мукі), столькі, колькі ўтрымаецца, калі браць трыма пальцамі. Со́ды ў тры па́лцы ўсы́пала. Н. ж. Пацсалі́, дачу́шка, гаршчо́к (страву). Вазьмі́ мале́ньку ло́жачку, а не́ — ў тры па́льцы. Н. ж. Усяê й падзя́кі, што сахары́ны ў тры па́льцы ўсы́пала. Н. ж.

**У ю́кле ўтапі́ць.** Праесці, прапіць; многа з'есці, выпіць. *Ю́кла* — вялікі, ненасытны жывот, вантроба. Прагна́лі (знялі з пасады), бо ён у сваём ю́кле палаві́ну (дабра) ўтапі́ў бы. Кл. Тôлькі й ду́мы, што каб зьзêсьці. То́піць у жывацê. Глуск.

**Узня́ць (узя́ць) на сме́х (на сме́шкі).** Абсмяяць, пасміхацца, пажартаваць. Раз мы згавары́ліся ўзяць яго́ на сьмêх. Пас. Я. К. А ўчо́ра ле на́с упа́ў з веласіпе́да. Ото́ мы на сьмêх узелі́! Хал. Такі́е разу́мніцы! За што́ на сьмêх узьнелі́?! Хал. Чыру́нчыкі са́мі як са́мі, а каго́ каб узя́ць на сьмêшкі да на кпі́нкі. Кл.

**Улі́ць пу́гі (дубца́, бізуна́).** Энергічна, моцна сцебануць (пугаю, дубцом, бізуном). Што́ ты тôлькі гаво́рыш? Ульлі́ў бы пу́гі, што б зь мêсец ма́цаў, то мо' й ён пераста́ў бы рабі́ць так. Кл.

**Упа́сці ў во́ка.** Запамятацца. Чаго́ ён так упа́ў старшыні́ ў во́ко? Хал. Параўн.: Калі ж дзе ўпадзе ў вока

Харාство дзявоча,— Абняславіць, абнячэсціць. Я. Купала.

**У пе́ўні.** Апоўначы. Мо̂жна ранє̂й було́ прыці́ спаць, а то ў пяўнє̂ прышо́ў. Дак дзі́во, што спаць хо́чацца. Кл.

**Хай яго хай.** Хай яго́ хай з нары́вам! Нацярпє̂ласа, папаму́чыласа. Кл.

**Ха́ту мяці́, але сме́цця на ву́ліцу не нясі.** Зуб.

**Ха́ўкае, як ры́ба ў прыду́ху.** Гл. *прыду́ха.*

**Хваро́бы з тра́сцаю (тра́сцы з хваро́баю).** Анічога (не даць, не атрымаць). Хацє̂ў Гітляр Маскву́ заваява́ць. Хваро́бы с тра́сцаю яму́. В. Тра́сцы с хваро́баю таму́ п'я́ніцу, а не пачасту́нку. Сл.

**Хвары́ш ахваціў.** Вельмі расхварэцца. Була́ ж у дачкі́. Пла́чэ, беду́е. Во, ка́жэ, ні рабіць, ні хадзіць, хвары́ш ахваціў. Н. ж.

**Хоць парва́цца, але не падда́цца.** Глуск.

**Хто бяжы́ць, той і спатыка́ецца.** Як сцверджанне ісціны. Нашто́ тут ду́маць? Чаго́ на яго крыча́ць? Хіба́ хацє̂ў зрабіць так? Ето ж на рабо́це. Хацє̂ў, каб ху́цянько. Пра́ўду бо ка́жуць: хто бяжы́ць, той і спатыка́яцца, а хто́ сядзіць ці хто ня йдзе, той ні спатыка́яцца. Глуск.

**Хто не ідзе́, той не спатыка́ецца.** Гл. Хто бяжы́ць, той і спатыка́ецца.

**Хто ўме́е ўсяк, а хто — ніяк.** Не ўсе ро́ўныя. Хто ўмє̂я ўсяк, а хто — ніяк. Ст. Рацм.

**Хто чым, а няўда́лец це́сцем хва́ліцца.** Хто чым, а ніўда́ляц сьцём хва́ліцца. Глуск.

**Цалю́тку ноч сон, а ўсе́нькі дзень лень.** Жыве вот так, што цалю́тку нô̂ч сон, а ўсе́нькі дзень лень ды лянота. Зуб.

**Цёмная хма́ра.** 1. *Літаральн.* 2. Пра вялікую колькасць людзей. Сёні на база́ры про́ста цёмная хмара. Глуск. Як дзе кірма́ш бува́ло, дак у сыбо́ту на шляху́ цёмные хма́ры. І йду́ць, і є̂дуць на падво́дах. Кл.

**Цёмны ў тва́ры.** Зямлісты колер твару ў хворага ці знясіленага чалавека. Ён і віда́ць, што хво́ры. Стаў нє̂йкі цёмны ў тва́ры, во́чы ўцягло́. Кл. Хадзіла к Івану. Нічо́гі (гл. *нічо́гі* ў вып. 1959 г.) стаў, цёмны ў тва́ры. Н. ж.

**Цыга́нскі пот праймае.** Холад прабірае (праймае). От, каб дзе кажу́ха! Ато цыга́нскі пô̂т праймае. Вайц.

**Часно́к — цыбу́льчын брато́к.** Глуск.

**Чорт нóгі палóміць.** Беспарадак. У йіхай хáця чорт нóгі палóміць. Сым.

**Чóртава гíбель.** 1. Нетра, непраходныя мясціны (балота, лес), што не прайсці, не выйсці. Пат тым Цяснóвам чóртава гíб[е]ль. Байл. 2. Многа, вельмі многа. Камарôў той гôд чóртава гíб[е]ль було́. Кл. Калі гавораць пра што непатрэбнае чалавеку (напрыклад, пра камароў, гадзюк), ужываецца спалучэнне *чóртава гíбель*; калі ж пра патрэбнае (пра ягады, арэхі), тады ўжываецца проста *гíбель* (без *чортава*). Тыя гóды ўюнôў, карасёў усюды гíб[е]ль булá. Кл. У той Слáўкаўшчыне гíб[е]ль арахôў, малíн,— чагó хóчаш! Кл.

**Чóртава прóпасць.** Гл. *чóртава гíбель.* Туды пуд (пад) Загáльле, за Загáльле чóртава прóпась,— аднó балóто й балóто. Байл. Даўнêй ваўкôў чóртава прóпась былá. Байл.

**Чóртава прóцьма.** Гл. *чóртава гíбель.* Каб туды, дзе камáр кóзы пасé, ў чóртаву прóцьму вас. Бо рóбіце на шкóду тôлькі. Кл. А камéньня чóртаву прóцьму навазíлі. Н. ж.

**Чýчала гарóхавае.** Пра чалавека, неахайна апранутага, увогуле неахайнага. Мáці як мáці, а дачкá — дак чýчало гарóхавае. Барб.

**Чым сяк-так, то лепш ніяк.** Зуб., Хал.

**Чыста ля міскі хóдзіць.** Так гавораць пра таго, хто апетытна есць. Глуск.

**Шáпку скідáць.** Прасіць, кланяцца (з прыніжэннем). За лéта загаравáлі (гл. *загаравáць*), то й нігáдкі (гл. *анігáдкі* ў вып. 1959 г.): усé (усё), што трэба, у йіх есь (ёсць), нікóму шáпкі ні скíнуць. Кл. Вот пабáчыш: напрóсісься й шáпку скíнеш. Сл.

**Шашóліць, як шашóлка.** Гл. *шашóліць, шашóлка.* Тôлькі дай, тôлькі каб було́ што майíм унýчкам êсьці. Дак шашóляць і шашóляць, як шашôлкі. Хай растýць здарóвые. Кл.

**Што зашкóдзіла, тым і памагáць трэба.** Варыянты: Што зашкóдзіло, нехáй тóе й памóжэ. Сл. Што зашкóдзіла, тым і лячыся. Вольн. Што заўрадзêло, тое й вылячыць. Кл. Параўн.: Клін клінам выганяюць; Заразу заразаю выганяюць; Хваробы лечаць і атрутамі. М. Багдановіч.

**Штó тут (там) такóе?** Параўн.: у руск. мове Что тут такого? А што ж тут такóе, што мацыклéт купляе? Пас.

Я. К. Чагó дзíвіцяса? Што там такóе? Сам хóча — сам рóбіць. Свая́ ж галава́! Зуб. Ну й што тут такóе, калі ён сам сабê так рóбіць? Глуск. Параўн.: А мóжа маўча́ць лéпі. Штó там такóе? Хóча — хай рóбя. Угляны Мінск. р-на.

**Шчаслíвае пуцí!** Пажаданне. Шчасьлíвае табê, дзêткі, пуцí! Вольн. А вам шчасьлíвае пуцí. Кл.

**Як з вóка вы́паў.** Дакладна такі, дакладны адбітак, дакладная копія (каго-небудзь). Прыêхала дачка́ Гла́зава. Дак, скажэце, як з вóка вы́пала: ўвесь ба́цько. Але ўсе (усё) чы́сьцянько — й хада́, й с тва́ру, й вóчы — усé. Пра́ўду бо ка́жуць, як з вóка ба́цькаваго вы́пала. Н.-Андр.

**Як змóг, так падмóг.** Барб.

**Як на мой рóзум.** Як на мôй рóзум, дак вам трэ́ба маўча́ць. Наштó пыта́цца? Хай са́мі разва́жаць. Хíба вы за йіх зарабля́ць на хлêб бу́дзеце? Барб.

**Як патру́дзішся, так пажы́вішся.** Што твая́ зая́ва: «Да́йце»? А рабíла бага́та? Дзе твая́ рабóта? Патру́дзіцца — тагды́ й пажы́віцца. Як патрудзíсься, так пажывíсься. А то каб не рабíць і дóбра жыць. Зуб.

**Як перапéчка.** Параўнанне, калі гавораць з цеплынёю пра поўнае і моцнае дзіця, дзяўчыну, маладзіцу. Гл. *перапéчка* ў БРС. Заму́жжэ — каму́ як. Ба́чылі Га́нну? За пéршым (мужам) хадзíла — тôлькі шкілéт. А то — дзе тôлькі ўсе (усё) бра́лася? Папра́вілася, што й ні пазна́ць, пахарашэ́ла. Маладзíца ста́ла як пярапéчка. Глуск.

**Як ста́нуць сы́пацца валасы́, то і па́мяць з галавы́.** Як ста́нуць сы́пацца валасы́, то й па́м[е]ць з галавы́. Сл. Параўн.: Калі з чупрыны лезуць валасы, то й памяць з галавы. А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета. Л., 1926.

**Як трывóга, то і бягу́ць адзíн да аднóга.** Глуск.

**Як Хóмка, так жóнка.** Кл.

**Яка́я Ага́тка, така́я (ў яе) і ха́тка.** Хíба́ тут што дзíўнае? Пра́ўду бо ка́жуць: Яка́я Ага́тка, така́я й ха́тка. Яка́я Ага́тка, така́я ў яе й ха́тка. Зуб.

**Якí музы́ка, такóе гра́нне.** Наштó спрача́цца? Штó зь егó? [Е]кí музы́ка, такóе гра́ньне. Хал.

**Якíм ча́сам?** Калі, напішэце ці адбêце цялігра́му, якíм ча́сам вас сустрэ́ць. Н. ж.

# ЗМЕСТ



На белорусском языке

ЯНКОВСКИЙ ФЕДОР МИХАЙЛОВИЧ

**ДИАЛЕКТНЫЙ СЛОВАРЬ, вып. III**

Издательство «Наука и техника».
Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар Н. Царова. Мастацкі рэдактар В. Саўчанка. Тэхнічны рэдактар І. Валахановіч. Карэктар Г. Малахава.

АТ 23909. Здадзена ў набор 21/V-70 г. Падпісана да друку 27/X-70 г. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 2. Друк. арк. 5,375. Ум. друк. арк. 6,3. Уч.-выд. арк. 6,2. Выд. заказ 1245. Друк. заказ 750. Тыраж 1700 экз. Цана 35 к. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68.